# «АБВАЛУ НА РЫНКУ НЕ БУДЗЕ, А ЦЯЖКАСЦІ МОЖНА ПЕРААДОЛЕЦЬ ТОЛЬКІ ВА ЎЗАЕМАДЗЕЯННІ ЎЛАДЫ І НАСЕЛЬНІЦТВА»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

ў маі-чэрвені. Таму прэзідэнт і ўзяў пад свой асабісты кантроль правядзенне найбольш важных гаспадарчых кампаній, напрыклад, уборку ўраджаю. Гэты кантроль і мабілізацыя дадатковых намаганняў сталі важным фактарам таго, што ўсё вырашчанае на палях, нягледзячы на складаныя ўмовы надвор'я, убрана, будзе ўбрана і абавязкова паступіць у кладоўкі і засекі дзяржавы, гаспадарак, фермераў, вяскоўцаў. А гэта галоўная гарантыя харчовай бяспекі краіны.

Беларусі ўдалося «замартызаваць» удар звонку. Тым не менш, цяжкасці, што ўзніклі ў доме вялікага ўсходняга суседа, з якім нас звязваюць вельмі цесныя эканамічныя, фінансавыя і іншыя сувязі, не маглі не адбіцца і на нашых справах. І яны адбіліся. Прычым гэтыя вынікі, падкрэсліў А.Р.Лукашэнка, носяць не эканамічны, не палітычны, а хутчэй псіхалагічны характар. Бачачы, што адбываецца ў Расіі, беларускія грамадзяне, асабліва, як паказвае аналіз, людзі старэйшага пакалення, таксама не раз навучаныя горкім вопытам, тым больш вопытам не такіх яшчэ далёкіх «перабудовачных» гадоў, па прыкладу сваіх усходніх суседзяў пачалі запасацца таварамі і прадуктамі. Асабліва таварамі працяглага карыстання і захоўвання. Рэзка павялічылася рэалізацыя цукру, мукі, іншых відаў прадуктаў харчавання. Актывізаваліся тыя, хто зарабляў на розніцы курсаў і цэн у Беларусі і Расіі, а цяпер вырашыў больш эфектыўна выкарыстаць момант. Паводле даных В.У.Шэймана, якія ён прывёў на нарадзе, толькі 8 верасня на граніцах Беларусі пагранічнікамі, мытнікамі і міліцыяй затрымана на 7 мільярдаў рублёў прадуктаў харчавання, якія так званыя «энергічныя людзі» збіраліся вывезці за межы рэспублікі. Зразумела, затрымаць удалося далёка не ўсё.

У сувязі з гэтым кіраўнік дзяржавы зрабіў упор на двух момантах. Па-першае, перасцярог насельніцтва ад ажыятажу, падкрэсліўшы, што для гэтага няма важкіх падстаў. Ва ўлады дастаткова сіл і рэсурсаў, каб не дапусціць абвалу, абараніць насельніцтва і рынак. Па-другое, і на гэтым была засяроджана галоўная ўвага ў час нарады, структуры выканаўчай улады ў сталіцы і на месцах, кіраўнікі міністэрстваў, упраўленняў, калектываў у многіх выпадках самі даюць падставу для падагравання попыту. Чаму ў магазінах перыядычна знікае цукар, калі яго дастаткова на складах? Чаму ёсць перабоі ў гандлі мукой, калі іх таксама магло не быць? Тое ж самае з алеем. Галоўная прычына ў тым, што не былі своечасова прыняты неабходныя рашэнні, а калі былі прыняты, то не заўсёды належным чынам кантралявалася іх выкананне. Пры гэтым прэзідэнт падкрэсліў, што размова ні ў якім разе не павінна ісці аб рэзкім павышэнні цэн. Нават пры адначасовым рэзкім павышэнні зарплаты беларускія прадпрыемствы і гаспадаркі не могуць падняць зарплату ў два, напрыклад, разы. А калі так, трэба ісці іншым шляхам. Таму тым, хто думае аб павышэнні цэн, не месца ва ўрадзе, адзначыў прэзідэнт. Патрэбен аператыўны аналіз абстаноўкі, прагноз яе развіцця, выпрацоўка рашэнняў, якія б эфектыўна рэагавалі на падзеі, і хуткае іх выкананне. Галоўная бяда выканаўчай улады ў тым, што такія рашэнні спазняюцца. Пры гэтым уладным, фінансавым і іншым структурам у дзяржаве неабходна даваць поўную інфармацыю ў прэсе, каб аб іх дзеяннях ведала насельніцтва. Адсутнасць належнага кантакту з прэсай таксама ніяк не садзейнічае зніжэнню ажыятажу. Дарэчы, старшыня праўлення Нацыянальнага банка П.П.Пракаповіч прызнаў, што яны ў сваіх прагнозах развіцця падзей у Расіі не дапускалі такога катастрафічнага абвалу сітуацыі.

На нарадзе былі заслуханы таксама справаздачы прэм'ер-міністра С.С.Лінга, кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта М.У.Мясніковіча, віцэ-прэм'ера Л.П.Козіка, дзяржаўнага сакратара Савета бяспекі В.У.Шэймана, старшыні Камітэта дзяржаўнага кантролю М.Ф.Дамашкевіча, рэзка крытыкавалі работу шэрагу міністэрстваў і міністраў. Зусім не добрым словам успомнілі і пра тых прадпрымальнікаў, якія, у чаканні і гаданні, як будзе развівацца сітуацыя, знялі з продажу свае тавары або рэзка павысілі цэны.

Патрабаванні прэзідэнта зусім канкрэтныя. Першае з іх заключаецца ў тым, што ў магазінах павінна быць дастаткова тавараў. Асабліва тых, якія вырабляюцца ў Беларусі. Неабходна прыняць дадатковыя меры да таго, каб усе сховішчы, прызначаныя для назапашвання сельскагаспадарчай прадукцыі, былі запоўнены бульбай, капустай, буракамі, яблыкамі, морквай, што ў нашых умовах важней за бананы, хоць усё гэта не азначае, што іх не будзе. Трэба забяспечваць штодзённую пастаўку прадуктаў і іншых тавараў у гандлёвыя кропкі на ўзроўні тых аб'ёмаў, якія склаліся ў апошнія месяцы. Гэта дасць магчымасць, з аднаго боку, задавальняць попыт, з другога — не патураць ажыятажу.

Важнейшай задачай дзяржавы павінна стаць абарона ўласнага рынку. У гэтым сэнсе вельмі важныя эфектыўныя дзеянні па абмежаванню несанкцыяніраванага вывазу тавараў. Размова не ідзе аб абмежаванні экспарту, падкрэсліў пры гэтым кіраўнік дзяржавы. Наадварот, экспарт, у цэлым гандаль з суседзямі трэба развіваць, але арганізавана і цэнтралізавана, аж да таго, што фарміраваць спецыяльныя аўтакалоны з прадуктамі харчавання і іншымі таварамі і накіроўваць іх у Маскву, Пецярбург, Смаленск, іншыя расійскія гарады, дзе іх чакаюць. Але трэба спыніць дзейнасць тых, хто, выкарыстоўваючы цяжкасці расіян, набівае ўласную кішэню і пры гэтым не плаціць падаткі. І меры павінны быць жорсткімі, аж да канфіскацыі затрыманага тавару і транспарту, які выкарыстоўваецца пры гэтым.

Яшчэ адзін клопат — падтрымка беларускага вытворцы, павышэнне эканамічнай эфектыўнасці айчыннай вытворчасці. Але не шляхам пастаяннага павышэння цэн, а больш за ўсё за кошт зніжэння выдаткаў вытворчасці і росту абароту. Проста немагчыма дапусціць абвалу цэн. Разам з імі павінна расці зарплата. Трэба ўдзяліць спецыяльную ўвагу тым, хто гандлюе імпартнымі таварамі і не супраць сарваць «звышнавар», а таксама тым бізнесменам, якія вырашылі гэты тавар прыхаваць.

Спецыяльна спыніўся прэзідэнт і на праблеме рублёвых і валютных укладаў у банках. Калі іх хто-небудзь пажадае зняць, няхай здымае, у дзяржавы рэзерваў дастаткова. Але пераадольваць цяжкасці трэба і можна толькі сумеснымі намаганнямі ўлады і грамадзян. Той, хто здымае ўклады, не дапамагае, а, наадварот, перашкаджае органам улады і дзяржаўнага кіравання. Што датычыць укладаў, то яны ў любым выпадку будуць захаваны. І рублёвыя, і валютныя. Больш таго, прэзідэнт падкрэсліў неабходнасць павышэння працэнтных ставак па дэпазітах.

Мэта такіх нарад у тым, каб папярэдзіць развіццё падзей па горшаму варыянту, як гэта здарылася ў Расіі, адзначыў на заканчэнне прэзідэнт. Гэта магчыма ў тым выпадку, перакананы кіраўнік дзяржавы, калі органы ўлады і іх прадстаўнікі на ўсіх узроўнях будуць дзейнічаць актыўна і напорыста. Дзеянне — хлеб улады. Недапушчальна ківаць адзін на аднаго, недапушчальна марудзіць, што часам становіцца хваробай, трэба дзейнічаць адзінай камандай, думаць аб перспектыве, ствараць рэзервы, захоўваць стабільнасць і спакой у грамадстве.

Пасля нарады, праведзенай прэзідэнтам, кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта М.У.Мясніковіч і яго намеснік І.І.Пашкевіч сустрэліся з кіраўнікамі дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі. Адбыўся абмен думкамі па пытаннях, звязаных з больш аператыўным і больш поўным інфармаваннем насельніцтва аб сітуацыі ў краіне, тэндэнцыях у яе развіцці, дзеяннях органаў улады.

**БЕЛТА.**

## ДЗЯРЖАВА МАЕ НАМЕР У ПЕРШУЮ ЧАРГУ ПАДТРЫМЛІВАЦЬ БІЗНЕС У СФЕРЫ ВЫТВОРЧАСЦІ

Абмеркаванню актуальных праблем у эканоміцы рэспублікі была прысвечана сустрэча прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі з прадстаўнікамі прадпрымальніцкіх структур у сферы вытворчасці і паслуг 9 верасня.

«Сітуацыя такая, што сёння, калі ўскладнілася становішча на сусветным і расійскім рынках, трэба прымаць сур'ёзныя рашэнні», — падкрэсліў прэзідэнт. Ён паведаміў, што пастаянна кантактуе з кіраўнікамі шэрагу дзяржаў і абмяркоўвае праблемы стабілізацыі ўзнікшай крызіснай абстаноўкі.

«Сёння цяжка ўсім, — сказаў у час сустрэчы Аляксандр Лукашэнка. — І я не адхіляю нармальнае прадпрымальніцтва з дзяржаўным падыходам. Але дзяржава ў першую чаргу будзе падтрымліваць тых, хто займаецца вытворчасцю і абараняе інтарэсы людзей, якія, на шчасце, разумеюць, што адбываецца». Разам з тым кіраўнік дзяржавы выказаў і прэтэнзіі, якія ёсць да прадпрымальнікаў. Некаторыя з іх, напрыклад, нерэалізаваны тавар пачалі забіраць на склад. Такія структуры працаваць на рынку не павінны, лічыць прэзідэнт.

Што датычыць узаемаадносінаў з Расіяй, то, на думку Аляксандра Лукашэнкі, з гэтай краінай неабходна падтрымліваць кантакты і гандляваць. Гэта выгадна абедзвюм дзяржавам.

**Тэрэза ХАЮЦІНА, БЕЛТА.**

## У магілёўскім гандлі сёння ўведзены жорсткія нормы водпуску тавараў

Як паведамілі ва ўпраўленні гандлю Магілёўскага аблвыканкама, сітуацыя з насычанасцю таварамі спажывецкага рынку рэгіёна сапраўды даволі сур'ёзная. Ммы імкнёмся трымацца, наколькі дазваляюць абставіны, — сказаў карэспандэнту «Звязды» намеснік начальніка ўпраўлення гандлю Міхаіл Цімаховіч. — Але яны патрабуюць прыняцця неадкладных мераў».

Учора рыхтаваўся да тэрміновага падпісання праект распараджэння аблвыканкама «Аб мерах па забеспячэнню насельніцтва вобласці таварамі народнага спажывання». Перш за ўсё распараджэнне прадугледжвае аднаўленне часовых нормаў водпуску харчовых і прамысловых тавараў у адны рукі ў рознічнай гандлёвай сетцы. Прадугледжваецца і шэраг іншых мераў: сярод іх часовае спыненне водпуску тавараў суб'ектам гаспадарання з рознічнай сеткі па безнаяўнаму разліку, заўвага айчынным прамыслоўцам строга прытрымлівацца дзяржзаказу, пошук дадатковых рэсурсаў для набыцця тавараў з любых краін, штодзённы кантроль за наяўнасцю таварных запасаў у аптовым і рознічным гандлі, кантроль за выкананнем нормаў водпуску і барацьба з прыхоўваннем прадуктаў, забеспячэнне закладкі прадуктаў харчавання на зіму і некаторыя іншыя.

**Ілона ІВАНОВА.**

## "У СУВЯЗІ З ДОЛАРАМ..."

Учора карэспандэнт «Звязды» наведаў шэраг гродзенскіх прадуктовых магазінаў і ніякага ажыятажу тут не ўбачыў. Усюды меліся вараныя, вэнджаныя і паўвэнджаныя каўбасы, куры, яйкі, малочныя прадукты, у тым ліку масла, сыр, тварог. Асартымент круп быў, можа, і няпоўны, але і някепскі. Застарэлай «балячкай» з'яўляецца хіба што цукар, і трэба спадзявацца, што беларускія калгасы і цукраробы сёлета атрымаюць немалую колькасць салодкай прадукцыі.

Відавочна, што пры звычайным попыце на прадукты харчавання гандлёвыя прылаўкі будуць выглядаць даволі прыстойна. Разам з тым, па словах намесніка начальніка ўпраўлення гандлю, грамадскага харчавання і спажывецкіх тавараў Гродзенскага аблвыканкама Багдана Грынявецкага, будзе рабіцца ўсё, каб пры неабходнасці абараніць наш унутраны рынак. Багдан Станіслававіч паведаміў, што сёлета на ўсякі выпадак вырашылі залажыць на зіму на 80 тон масла больш, чым летась. Бульбы і агародніны будзе нарыхтавана колькі трэба. Ужо пачалі фарміраваць запасы шампанскага, каб пад новы год, як гэта здаралася раней, не з'явіўся знянацку дэфіцыт.

Што датычыцца прамысловай групы тавараў, дык, паводле слоў Багдана Грынявецкага, па многіх пазіцыях, у прыватнасці, швейных вырабах, сітуацыя нармальная. Ажыятажны попыт у асноўным закрануў складаную бытавую тэхніку. Ну як гандлю вытрымаць попыт, які ў 3-4 разы перавышае звычайны і за дзень у Гандлёвым доме «Нёман» прадаецца 40 халадзільнікаў з маразільнымі камерамі, што з'яўляецца месячнай нормай? Вобласць ужо выбрала выдзеленыя ёй квоты на складаную бытавую тэхніку, а новых паставак пакуль няма. На думку Багдана Грынявецкага, гэта хутчэй не віна, а бяда прамысловых прадпрыемстваў, многія з якіх працуюць у звязцы з расійскімі партнёрамі і адчулі на сабе наступствы фінансавага крызісу ў нашых суседзяў.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

## На ўсходніх межах працуюць цяпер «заходнія спецы»

На першы погляд, нічога новага і надта сенсацыйнага ў апошніх падзеях, звязаных з усходнімі межамі, мытнямі і вывазам тавараў — у першую чаргу, у Расію. Як вядома, у інтарэсах нацыянальнай бяспекі ў краіне дзейнічаў указ прэзідэнта, які абмяжоўваў вываз харчавання за межы Беларусі. Не першы год вываз харчовых тавараў з краіны абмяжоўваўся рашэннямі аблвыканкамаў: кожная вобласць самастойна вырашала, якіх прадуктаў на яе тэрыторыі хапае і якімі можна гандляваць з замежнікамі, а якімі — не.

Цяперашнія падзеі, безумоўна, звязаны з фінансавым крызісам у Расіі. І як вынік — шалёны ажыятажны попыт у суседзяў на прадукты харчавання ўвогуле, і на танныя беларускія — у прыватнасці. Зразумела, што вываз харчавання за мяжу пачаўся ў нас не ўчора, але гэта ганебная для ўнутранага спажывецкага рынку з'ява набыла масавы характар, па сцвярджэнню мытнікаў, месяцы два таму: на гэтым нядрэнна зараблялі і беларускія «чаўнакі», і візіцёры з Расіі. Менавіта ў гэты час вываз тавараў стаў пагражаць нацыянальнай бяспецы, бо 10 мільёнаў беларусаў і 150 мільёнаў расіян — вагавыя катэгорыі розныя і вычысціць Беларусь можна «за тры секунды».

Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» на Магілёўскай мытні, былі прыняты адпаведныя меры для абмежавання вывазу. Прычым спецыялісты зазначаюць, што гаворка ідзе толькі пра прадукты харчавання айчыннай вытворчасці: маўляў, калі вязеш у Расію на продаж курыныя «ножкі Буша» амерыканскай вытворчасці — няма праблем. А вось кумпячкі Магілёўскай птушкафабрыкі — зусім іншая справа, якая патрабуе ўмяшання праваахоўных органаў.

Першай мерай сталася камандзіраванне на ўсходнія межы супрацоўнікаў заходніх памежных мытных пастоў з Брэста, Мазыра і іншых, якія, як лічыць кіраўніцтва мытні, найбольш паспяхова перакрыюць ад харчовых кантрабандыстаў мяжу з Расіяй. Як лічыць начальнік аддзела дзяжурнай службы і інфармавання грамадзян Іван Дзякенцьеў, толькі гэта навіна належным чынам паўплывала на «чаўнакоў». Бо за апошнія дні больш-менш буйныя парушальнікі парадку з харчовымі таварамі на вываз да мытнікаў не траплялі.

Яшчэ некалькі дзён таму мытнікі дзейнічалі ў больш мяккім рэжыме: калі партыя харчавання невялікая — груз проста паварочвалі назад, калі буйная — затрымлівалі да высвятлення абставінаў, калі затрыманне не першае — канфіскоўвалі і груз, і транспартны сродак, калі варыянт яшчэ больш злосны — узбуджалі крымінальную справу. Літаральна ўчора на Магілёўскую мытню паступіла новае распараджэнне: затрымліваць кожнага парушальніка і, незалежна ад колькасці харчовых тавараў і ранейшых праблем з мытняй, канфіскоўваць груз і транспартныя сродкі. Харчаванне мытня павінна тэрмінова перадаць у распараджэнне спецыяльных камісій мясцовых Саветаў для рэалізацыі, а аўтамабілі і іншае — у органы ўнутраных спраў для далейшага распараджэння. Магчыма, гэтыя жорсткія санкцыі спыняць паток кантрабанды харчавання праз усходнія межы. Праўда, не выключана, лічаць вопытныя мытнікі, што «чаўнакі» пачакаюць, пакуль крыху зменшыцца ажыятаж, а потым будуць спрабаваць з мясцовымі «Іванамі Сусаніными» прабірацца праз мяжу «агародамі» — аб'язнымі дарогамі і сцежкамі. Аднак у той жа час сёлетні год кантрабандыстам не спрыяе: усе «агароды» заліло дажджамі, і праехаць нейкай сцяжынай у лясной глухмені без спецыяльнай тэхнікі і прыстасаванняў ні легкавым аўтамабілям, ні велікагрузным немагчыма.

Намеснік начальнік Магілёўскага абласнога ўпраўлення ўнутраных спраў Эдуард Барабанаў учора таксама зрабіў заяву для прэсы. У ёй, у прыватнасці, гаворыцца: «Органы ўнутраных спраў Магілёўшчыны адсочваюць сітуацыю з мэтай выкаранення фактаў стварэння штучнага дэфіцыту ў рэгіёне. Створаны рабочыя групы, якія праводзяць комплекс спецыяльных мерапрыемстваў. Сёння яны ўжо займаюцца высвятленнем, ці маюць законныя падставы для вывазу гаспадары некалькіх затрыманых грузаў».

**Ілона ІВАНОВА.**

## КОЖНЫ ДЗЕСЯТЫ БЕЛАРУС МАЕ «КОЛЫ»?

**Згодна з інфармацыяй, прадстаўленай Дзяржаўнай аўтамабільнай інспекцыяй, у Беларусі на пачатак жніўня г.г. зарэгістравана 976 тысяч 488 легкавых аўтамабіляў, якія належаць індывідуальным уладальнікам.**

У пераважнай большасці гэта няновыя іншамаркі. Найбольшую колькасць парка легкавых машын складаюць: «Опель» — 36 тысяч 452, «Фольксваген» — 33 тысячы 401, «Аўдзі» — 27 тысяч 693. Наступныя тры месцы за «Фордам» (25 тысяч 362 штукі), «Мерседэс-Бенц» (16 тысяч 249) і «БМВ» (13 тысяч 868 адзінак). Трэцяя тройка — «Фіят», «Вольва», «Рэно». Аўтамабіляў гэтых марак больш за 4 тысячы. Уладальнікамі «Мазды» таксама з'яўляюцца крыху больш як 4 тысячы беларусаў.

З аўтамабіляў айчыннай вытворчасці найбольшай папулярнасцю карыстаецца «ВАЗ» — 382 тысячы, «Масквіч» на другім месцы —203 тысячы 895 штук, наступны радок займае «Запарожац» — 115 тысяч 820 адзінак.

Мяркуецца, што напрыканцы гэтага года ў рэспубліцы будзе зарэгістраваны мільённы аўтамабіль, што належыць індывідуальнаму ўладальніку.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

## Крывавая драма ў Гомелі

**Крывавая драма разыгралася ў адным з дамоў па вуліцы Дзям'яна Беднага ў Гомелі. Ахвярамі невядомых стала тры чалавекі.**

Абставіны гэтага жудаснага здарэння пакуль расследуюцца. Наколькі нам стала вядома, следствам прапрацоўваюцца некалькі версій. Аднак некаторая інфармацыя ўсё ж такі па гэтай справе ёсць.

Каля паловы дзесятай раніцы на лесвічнай пляцоўцы 3-га паверха быў знойдзены труп мужчыны з мноствам нажавых раненняў. Пазней міліцыяй было ўстаноўлена, што забіты з'яўляўся работнікам таварыства з абмежаванай адказнасцю «Існа». Аднак самае страшнае сышчыкаў чакала далей, калі яны ўвайшлі ў адну з суседніх кватэр. Там следчыя знайшлі целы 26-гадовай гаспадыні і яе сына-першакласніка: яны таксама былі спаласаваныя нажом. Што гэта: вынік звычайнага абрабавання або звядзенне нейкіх рахункаў? Спадзяёмся, следства хутка знойдзе адказ.

**Ігар ГРЫШЫН.**

**КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 9 ВЕРАСНЯ 1998 г. (па стану на 15.00)**

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (017) | | | | | | | |
| Белпрамбудбанк | 60000 | 61500 | 34500 | 35500 | 3000 | 3900 | 233-2110 |
| Пріорбанк | 59000 | 60500 | 34100 | 34900 | 1000 | 3200 | 245-5721 |
| Нацыянальны банк РБ афіцыйны курс (курс для безнаяўных разлікаў) | 51000 | | 29491,70 | | 2400 | | Курс на 10.09.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | | | | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

## СТРОГІЯ ВЫМОВЫ АТРЫМАЛА ГРУПА БРЭСЦКІХ ЧЫНОЎНІКАЎ

Групе брэсцкіх чыноўнікаў — работнікаў абл- і райспажыўсаюза — вынесены строгія вымовы за распіццё спіртных напояў падчас уборачнай кампаніі.

Яны мелі неасцярожнасць позна ўвечары заехаць у рэстаран «Ясельда» пасёлка Лагішын Пінскага раёна на службовым аўтамабілі, каб абмеркаваць у нефармальнай абстаноўцы вынікі праверкі рэвізійнай камісіі аблспажыўсаюза. Ведаючы пра вечарынку, у рэстаран прыехалі старшыня Пінскага міжраённага Камітэта дзяржкантролю В.Мацукевіч і начальнік Лагішынскага ўчастка міліцыі А.Цурыкаў, якія зафіксавалі факт «калектыўнай п'янкі» службовых асоб у банкетнай зале пасля закрыцця рэстарана. Усе ўдзельнікі застолля вымушаны былі падаць тлумачальныя запіскі. На іх шчасце, справа закончылася не звальненнем, а толькі вынясеннем строгіх вымоў.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ, БелаПАН.**

### Прэм'ер-міністр наведаў "Крышталь"

У другой палове дня 8 верасня прэм'ер-міністр краіны Сяргей Лінг і намеснік прэм'ер-міністра Уладзімір Гаркун пабывалі на Мінскім лікёра-гарэлачным заводзе «Крышталь».

Як паведаміў БЕЛТА прэс-сакратар кіраўніка ўрада Дзмітрый Маліноўскі, яны агледзелі вытворчыя лініі і цэхі прадпрыемства. Асноўная ўвага была ўдзелена сістэме абароны арыгінальнай маркі прадукцыі вядомага завода ад падробкі на ўнутраным рэспубліканскім рынку. Адзначана, што існуючы ўзровень такой абароны высокі, аднак гэту работу трэба ўдасканальваць. **БЕЛТА.**

### Назначаны суддзі

Указ аб назначэнні суддзяў судоў Рэспублікі Беларусь падпісаў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. Змяненні ў кадравым саставе адбудуцца ў некаторых судах Мінска, у асобных раёнах Гродзенскай і Мінскай абласцей.

Поўнасцю ўказ кіраўніка дзяржавы будзе апублікаваны ў перыядычным друку.

**БЕЛТА.**

### На ніве Беларуска-Казахскага супрацоўніцтва зрабіць трэба будзе яшчэ многае

«Я шкадую, што вы нядоўга папрацавалі ў Беларусі, бо мець справу з прыемным і надзейным чалавекам хацелася б даўжэй», — з такімі словамі прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка звярнуўся да Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Казахстана ў нашай краіне Юрыя Клачкова ў час іх сустрэчы 8 верасня, якая адбылася ў рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы. Аляксандр Лукашэнка прыняў высокапастаўленага дыпламата з выпадку завяршэння яго работы ў нашай краіне.

**Вольга ШЧАДРЫНА, БЕЛТА.**

*З першых вуснаў*

# САЦЫЯЛЬНАЯ СФЕРА МАГІЛЁЎШЧЫНЫ ЖЫВЕ Ў РЫТМЕ, ЯКІ ДАЗВАЛЯЕ ЧАС

**Пра найбольш вострыя сацыяльныя праблемы Магілёўскай вобласці і шляхі іх вырашэння расказвае карэспандэнту «Звязды» намеснік старшыні аблвыканкама Яўген КАСЦЮКОВІЧ.**

— Каля 72 працэнтаў бюджэту вобласці, як і належыць па закону, аддаецца сацыяльнай сферы. Але фінансавых рэсурсаў не хапае на вырашэнне ўсіх набалелых пытанняў: звычайна застаюцца праблемы з капітальным рамонтам будынкаў і набыццём абсталявання для ўстаноў усіх сацыяльных галін, бо цэны сёння даволі вялікія. Так што грошы маюцца толькі на мінімальнае забеспячэнне дзейнасці ў гэтых накірунках.

Зразумела, што мы поўнасцю і ў першую чаргу забяспечваем у асноўным своечасовую выплату заробкаў, пенсій і дзяржаўных дапамог, медыкаменты і харчаванне для медыцынскіх стацыянараў і дзіцячых інтэрнатных устаноў. Інакш кажучы, наша сацыяльная сфера жыве ў тым рытме і з такімі магчымасцямі, якія дазваляе наш час.

Прайшлі тыя часы, калі ў сярэдзіне года можна было адкрыць фінансаванне па новаму артыкулу расходаў. Зараз гэта магчыма толькі калі, не дай Божа, штосьці здарылася аварыйна, у выніку пагодных умоў ці нейкіх іншых. Сёння мы працуем, я лічу, больш эканомна: усе графікі, напрыклад па рамонту, складаюцца загадзя на год. Толькі ў лік праблем я не заношу рамонты «касметычныя»: сёлета да пачатку новага навучальнага года мы зрабілі «касметычны» рамонт ва ўсіх школах вобласці, а таксама ў дзіцячых садах, дзе будуць займацца шасцігодкі ў сувязі з рэформай агульнаадукацыйнай школы ў краіне.

**— Ці выплачваюцца своечасова ў Магілёўскай вобласці грошы пенсіянерам?**

— Так. Але я не скажу, што ўсё ідэальна. Пенсіі ў нас выплачваюцца нават і раней тэрміну, да 20-га чысла месяца грошы аддаём «да капейкі». Але маглі б працаваць і лепш, бо прадпрыемствы, арганізацыі і сельскія гаспадаркі вобласці завінаваціліся фонду сацыяльнай абароны 140 мільярдаў рублёў. Праўда, гэта толькі пятая частка месячнай пенсіі: у нас 330 тысяч пенсіянераў, штомесяц яны атрымліваюць 530 мільярдаў рублёў. Так што запазычанасць не ўплывае на графік выплаты пенсій, а нашы ветэраны і інваліды ніякіх прэтэнзій да абласной улады не маюць.

**— На традыцыйных жнівеньскіх канферэнцыях настаўнікаў прыходзілася чуць заснаваныя на лічбах прэтэнзіі прафсаюзаў, што на Магілёўшчыне самыя вялікія затрымкі з выплатай заработнай платы настаўнікам. Якія прычыны такога становішча?**

— Так, затрымкі сапраўды ёсць. Але нельга казаць, што сітуацыя настолькі трагічная. Зарплата выплачваецца настаўнікам рэгулярна, але ёсць разыходжанні з графікам на 5—10 дзён. Асноўныя праблемы, як вядома, узнікаюць у летні перыяд, калі трэба выплачваць не толькі зарплаты, але і адпускныя. І не толькі настаўнікам, але і ўсім супрацоўнікам сацыяльнай сферы.

Заўважу, што вобласць атрымлівае датацыю ад рэспублікі. Напрыклад, у ліпені нам павінны былі аддаць дзвесце мільярдаў рублёў, і калі б гэтыя грошы нам пачалі пералічваць часткамі з 10 ліпеня, у нас не было б праблем з настаўніцкімі заробкамі. А калі суму цалкам аддаюць 22—25 ліпеня, то ўзнікаюць замінкі. Але мы ведаем, што праблема існуе, і імкнёмся вырашаць яе па меры магчымасці.

**— Самая, напэўна, балючая сацыяльная праблема — медыцынскае абслугоўванне насельніцтва, што тлумачыцца няхваткай грошай. А ў цэнтры Магілёва стаіць «помнікам» крызісу комплекс гарадской бальніцы, якую магіляўчане нездарма называюць «бальніцай для бедных»...**

— Сама медыцына, як вядома, грошы не зарабляе, за выключэннем некалькіх гасразліковых участкаў. Тыя нормы, якія нам былі б патрэбныя — 25 працэнтаў фінансавання — мы, на жаль, недабіраем.

Так, хутка гарадской бальніцы ў абласным цэнтры спаўняецца 200 гадоў. Мы дамовіліся, што будзем па чарзе ставіць на капітальны рамонт будынкі ейнага комплексу, каб да 2000 года, святкавання юбілею бальніцы, ён набыў усё ж такі нармальны выгляд. У свой час аблвыканкам прапаноўваў колішняму мэру Магілёва Сяргею Габрусеву будаваць у мікрараёне «Саломінка» не паліклініку, а другую гарадскую бальніцу. На жаль, гэтага не адбылося, і зараз мы не можам зачыніць існуючую бальніцу, каб спакойна заняцца яе рэканструкцыяй. Праўда, калі ёсць патрэбы, то для магіляўчан ні ў якім разе не зачынены аддзяленні абласных медыцынскіх устаноў.

Ёсць раённыя бальніцы ў вобласці, якія таксама патрабуюць рамонту. Але я лічу, што тут шмат чаго залежыць і ад людзей, якія імі кіруюць. Калі галоўныя ўрачы і іх намеснікі працуюць, як кажуць, на сваім месцы, то ў бальніцы заўсёды ёсць парадак, дысцыпліна і імкненне выйсці з гонарам з любога становішча.

Зразумела, нельга адмаўляць, што ў забеспячэнні медыкаментамі і абсталяваннем ёсць доля і гуманітарнай дапамогі, у тым ліку ў чарнобыльскія раёны Магілёўшчыны. Але я не вельмі спадзяюся на дапамогу збоку. Гэта кропля ў моры праблем. А я спадзяюся на тое, што аб'ектыўна мы маем: на ўласныя фінансавыя рэсурсы, на ўзаемаразлікі і іншыя крыніцы, каб нармальна ўтрымліваць ахову здароўя ў рэгіёне.

**— Нельга абмінуць у інтэрв'ю і пытанні культуры. Апошнім часам культурныя, ды яшчэ і часта міжнародныя, мерапрыемствы на Магілёўшчыне прыцягваюць увагу грамадскасці ўсёй краіны. Якіх высілкаў і сродкаў гэтая вядомасць каштуе?**

— На ўтрыманне ўстаноў культуры нам патрабуецца менш сродкаў, чым на іншыя бюджэтныя сферы, бо тут не трэба фінансаваць такія пытанні, як аплата харчавання ці медыкаменты, а ў асноўным грошы патрэбны на арганізацыю мерапрыемстваў. Амаль усе нашыя дамы культуры працуюць, і амаль у кожным раённым цэнтры ёсць музей, не гаворачы пра Магілёў: у нас выдатны абласны краязнаўчы музей, ідзе рэканструкцыя мастацкага музея, шмат сродкаў укладаецца ў рэстаўрацыю знакамітага будынка драматычнага тэатра. База культуры вобласці вельмі добрая, і ў першую чаргу — кадравая, бо ў нас дастаткова навучальных устаноў, якія рыхтуюць для рэгёна работнікаў культуры. Так што павінен сказаць, што вядомасць культурных падзей у Магілёве — гэта не вынік выдзялення дадатковых сродкаў, а эканомнага расходавання таго, што ёсць.

Акрамя таго, гадоў дзесяць таму мы адкрылі абласную філармонію, якая апраўдвае нашы надзеі. Дзякуючы ёй у тым ліку і ў Мінску адбываюцца канцэрты выбітных артыстаў. І на гэта не патрэбны грошы, бо продаж білетаў кампенсуе выдаткі. Ды і публіка наша цяпер інакш ставіцца да культурных падзей — прачнулася цікавасць!

Вось толькі днямі завяршыўся міжнародны фестываль фальклору «Вянок дружбы», пачаўся міжнародны пленэр па жывапісу «Вобраз Радзімы ў выяўленчым мастацтве» памяці Мікалая Неўрава, рыхтуецца правядзенне чарговага рэтра-фестывалю «Залаты шлягер» — гэта нашы традыцыйныя, запланаваныя мерапрыемствы. А калі так, то на іх планава выдзяляюцца сродкі, і не толькі вобласцю, а таксама і Міністэрствам культуры. А вось сёлета на правядзенне міжнароднага пленэру па жывапісу і Саюз мастакоў Расіі выдзеліў два мільярды беларускіх рублёў. Так што нашы культурныя падзеі сапраўды атрымалі міжнародную вядомасць, а Магілёў — гэта цяпер гучыць горда, ва ўсякім разе, што датычыцца культуры.

**Ілона ІВАНОВА.**

### Генеральны дырэктар ЮНЕСКО Федэрыка МАЁР:

# «Я АДКРЫЎ ДЛЯ СЯБЕ БЕЛАРУСЬ!»

**Першае ўражанне ад знаёмства з генеральным дырэктарам ЮНЕСКО — прыемны ва ўсіх адносінах чалавек. І гэта ўражанне не падманлівае: Федэрыка Маёр такі і ёсць!**

**Дарэчы, ім, кіраўніком буйнейшай у свеце, аўтарытэтнай і ўплывовай міжнароднай арганізацыі, палітыкам і дыпламатам, вучоным — доктарам медыцынскіх навук і... паэтам, па праву ганарыцца ўся Іспанія: я пераканаўся ў гэтым, двойчы за апошні час пабываўшы на радзіме Маёра.**

**Вось ужо 18 гадоў Федэрыка Маёр узначальвае ЮНЕСКО — Арганізацыю Аб'яднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры. На гэтым тыдні — ажно тры дні! — ён правёў у нашай краіне.**



**— Чым выклікана такая пільная ўвага з Вашага боку да маладой суверэннай Рэспублікі Беларусь? — задаў я першае пытанне генеральнаму дырэктару ЮНЕСКО.**

— Буду шчыры: рэальнасць пераўзышла ўсе мае чаканні, — адразу ж адрэагаваў пан Маёр. — Я, вядома ж, шмат чуў і чытаў пра вашу краіну, але тое, што ўбачыў, уразіла і ўзрушыла. Я ў прамым сэнсе слова адкрыў для сябе Беларусь — маладую, перспектыўную еўрапейскую дзяржаву.

**— Што канкрэтна Вы маеце на ўвазе?**

— Ды шмат што. А найперш — набыткі і магчымасці Беларусі ў тых сферах чалавечай дзейнасці, якімі і займаецца ЮНЕСКО.

У першую чаргу я хачу сказаць пра навуковы патэнцыял вашай краіны. Дасягненні і накірункі дзейнасці на будучыню навукоўцаў Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь у галіне фундаментальных даследаванняў сёння адпавядаюць самаму сучаснаму ўзроўню. Дарэчы, у ЮНЕСКО пра гэта добра ведаюць, таму цеснае супрацоўніцтва ўсталявалася ўжо з адзінаццаццю беларускімі навукова-даследчымі інстытутамі і цэнтрамі. На сустрэчы ж з вучонымі акадэміі я ўвачавідкі пераканаўся ў тым, што і наперадзе ў іх чарговыя адкрыцці і знаходкі. Я, як генеральны дырэктар, прапаную ЮНЕСКО падтрымаць беларусаў фінансамі: іхнія вынаходкі могуць быць патрэбнымі ўсяму чалавецтву.

**— Якія ж канкрэтныя накірункі супрацоўніцтва паміж беларускімі вучонымі і ЮНЕСКО стануць прыярытэтнымі?**

— Гэта найперш — радыяцыйная экалогія. Чарнобыль — без перабольшання — сёння хвалюе і непакоіць не толькі кожнага вашага жыхара, але і Сусвет у цэлым. Самая глабальная экалагічная катастрофа XX стагоддзя не толькі не павінна паўтарыцца, але і з наступствамі вынікаў яе трэба змагацца больш актыўна і выніkова. І шкадаваць сродкаў, намаганняў навуковай думкі тут ніяк не трэба.

Вельмі карыснымі ўяўляюцца мне і напрацоўкі беларускіх навукоўцаў у галіне біясферы Зямлі, пошуку новых альтэрнатыўных крыніц энергіі.

**— Пан Маёр! Вы сустракаліся і даволі грунтоўна гутарылі з вышэйшымі кіраўнікамі нашай дзяржавы. Мы ведаем, што высокія бакі прыязна, высока адазваліся і ацанілі намаганні адзін аднаго ў дзейнасці на міжнароднай арэне. Што Вы асабіста мелі на ўвазе?**

— Ваша краіна імкнецца вельмі актыўна ўдзельнічаць у жыцці свету, уплываць на яго. Шмат каму гэта падабаецца, шмат каму — не. Аднак многія практычныя крокі Беларусь робіць рашуча і ўпэўнена. Вы бязбоязна развіталіся з ядзернай зброяй, што сусветная супольнасць па вартасці яшчэ і не ацаніла. Днямі Беларусь афіцыйна ўступіла ў Рух недалучэння, і гэта таксама крок да рэальнага вырашэння праблем бяспекі і захавання міру на Зямлі.

«Усе мы розныя, але ўсе мы адзіныя!» — прывёў мне генеральны дырэктар ЮНЕСКО Федэрыка Маёр адзін з галоўных дэвізаў арганізацыі. — У XXI стагоддзе, — дадаў ён, — мы павінны ўступіць адзінымі ў разуменні праблем рэчаіснасці з пазіцый агульначалавечых каштоўнасцяў, гуманізму, ідэалаў свабоды, дэмакратыі і правоў чалавека. Навука, культура і адукацыя могуць і павінны абараніць свет ад войнаў, сацыяльных узрушэнняў, канфліктаў і насілля. Веру: Беларусь, з якой мы падпісалі ўрадавы мемарандум і пагадненне аб супрацоўніцтве паміж ЮНЕСКО і Нацыянальнай акадэміяй навук, стане надалей яшчэ большым нашым партнёрам па супрацоўніцтву на карысць усяго чалавецтва.

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**

## Федэрыка МАЁР гаварыў са студэнтамі БДУ аб міры і дэмакратыі

**Сфера адукацыі ў коле інтарэсаў ЮНЕСКО з'яўляецца прыярытэтнай. Не выпадкова менавіта яе праблемам генеральны дырэктар гэтай арганізацыі Федэрыка Маёр у ходзе візіту ў Беларусь удзяліў так шмат увагі. Размова аб іх ішла і 8 верасня ў час наведвання ім Беларускага дзяржаўнага універсітэта.**

Ведучы гутарку з рэктарам БДУ Аляксандрам Казуліным, высокі госць пераканаўся, што флагман беларускай вышэйшай школы ўжо даўно перасягнуў рамкі, у якіх існуе большасць іншых ВНУ не толькі ў нашай краіне. Цяпер ён з'яўляецца не проста класічным універсітэтам, гэта значыць навучальным цэнтрам, але і ўключае навукова-вытворчую сістэму. У саставе БДУ дзейнічаюць 4 навукова-даследчыя інстытуты, шэраг доследных лабараторый, вучэбна-навуковае вытворчае аб'яднанне, у тым ліку 5 прадпрыемстваў. Вучоныя ВНУ распрацавалі шэраг новых тэхналогій, у прыватнасці, па перапрацоўцы і атрыманню каштоўных металаў, стварылі новыя медыцынскія прэпараты і медабсталяванне.

**БЕЛТА.**



Згубленае пасведчанне інваліда II групы № 080021008 **ШЫМАНОВІЧ А.П.**, выдадзенае 15.01.97 г., лічыць несапраўдным.

ООО «Эду Трэйд» ликвидируется. Претензии принимаются в течение 2 месяцев в письменном виде по адресу: 220064 г. Мінск а/я 207.

Згубленае пасведчанне інваліда II групы, выдадзенае на імя **Гарановіча Міхаіла Васільевіча,** лічыць несапраўдным.

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 6.33 | 19.40 | 13.07 |
| Віцебск – | 6.21 | 19.32 | 13.11 |
| Магілёў – | 6.22 | 19.29 | 13.07 |
| Гомель – | 6.22 | 19.23 | 13.01 |
| Гродна – | 6.50 | 19.53 | 13.03 |
| Брэст – | 6.50 | 19.54 | 13.04 |

### МЕСЯЦ

**З 21.04 — 21-я месяцавыя суткі**

**Месяц у сузор'і Цяльца**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Ганны, Анатоля, Майсея, Іова, Дзяніса, Захара, Агафона, Лявона, Панкрата, Паўла, Іларыёна, Рыгора, Макара, Нестара**

**К. Лукаша, Мікалая, Мсціславы**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў, толькі ў заходніх раёнах пройдуць невялікія дажджы. Вецер паўднёвы, 4—9 м/сек, месцамі парывы да 14 м/сек. Тэмпература паветра ў Гродне, Магілёве, Мінску — 19—21, Брэсце, Гомелі — 19—22 градусы цяпла.

У наступныя двое сутак: 11-га — па паўночна-заходняй палавіне, 12-га — па большай частцы тэрыторыі кароткачасовыя дажджы, месцамі навальніцы. Вецер паўднёва-ўсходні, паўднёвы, 3—11 м/сек, парывы да 14 м/сек. Тэмпература ўначы — 8—12, удзень — 15—20; 11-га па паўднёваму ўсходу ўначы — 5—10, удзень — 19—24 градусы вышэй нуля.

### Віншаванні

Віншуем з днём нараджэння **СУХАПАРАВА Аляксея**. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, дабрабыту і доўгіх гадоў жыцця. **Сябры**.

*Ёсць у мяне зямля,*
*край светлых мрояў,*
*Мілейшага — мне не знайсці другога.*

Адам МІЦКЕВІЧ

# СВЯТКАВАННЕ 200-х УГОДКАЎ МІЦКЕВІЧА — ПАД ЭГІДАЙ ДЗЯРЖАВЫ

***Учора адбылося пашыранае пасяджэнне Нацыянальнага аргкамітэта па падрыхтоўцы і правядзенню мерапрыемстваў, прысвечаных 200-годдзю з дня нараджэння Адама Міцкевіча. Пад старшынствам кіраўніка аргкамітэта намесніка прэм'ер-міністра Уладзіміра Заматаліна адказныя за правядзенне свята прадстаўнікі структур улады абмяркавалі ступень гатоўнасці да галоўных мерапрыемстваў, якія адбудуцца 12 верасня ў Навагрудку.***

Арганізацыя маючага адбыцца свята, якое носіць статус міжнароднага, знаходзіцца пад пастаянным кантролем дзяржавы. Выснова, якую можна зрабіць са справаздач членаў аргкамітэта: у цэлым Навагрудак і іншыя месцы, звязаныя з вядомым паэтам, прыняць свята гатовы.

Адкрыецца яно ў 11 гадзін 12 верасня ля помніка Міцкевічу ў Навагрудку. У рамках святкавання адбудзецца «круглы стол», пісьменніцкія чытанні, выступленні мастацкіх калектываў. Госці свята змогуць пабываць у мясцінах, звязаных з імем Міцкевіча. Гэта не толькі ў Навагрудскім, але і ў Карэліцкім і Воранаўскім раёнах, дзе пакінула свае сляды муза паэта, яго незабытнае каханне — Марыля Верашчака, і ў Баранавіцкім раёне, дзе на хутары Завоссе Міцкевіч нарадзіўся.

Чакаецца, што на свята прыедуць госці з Польшчы, Літвы, Расіі і Украіны.

**Наш кар.**

# АДКУЛЬ ПАЧАЎСЯ ШЛЯХ ПАЭТА?..

## *У Завоссі адкрыўся музей Адама Міцкевіча*

Паэт Адам Міцкевіч заўсёды ўзгадваў сваю родную Навагрудчыну. Хаця жыць яму давялося ў іншых краінах і кожны з гарадоў па-свойму выхоўваў і загартоўваў таленавітага чалавека — Вільня, Пецярбург і Масква, адкуль апальны паэт здолеў вырвацца ў Еўропу. Але нават у вольным і бліскучым Парыжы Міцкевіч піша пра падзеі, што адбываліся на яго роднай зямлі — у Літве.

24 снежня 1798 года паэт Адам Міцкевіч нарадзіўся на хутары Завоссе Навагрудскага павета. Цяпер гэты хутар адносіцца да Баранавіцкага раёна.



Праўда, яшчэ нядаўна на хутары Міцкевіча не было нічога. Толькі да 100-годдзя з дня смерці паэта ў чыстым полі паставілі абеліск, каб аддаць даніну памяці нашаму земляку.

І вось гадоў шэсць таму вырашылі ў Завоссі аднавіць хутар Міцкевіча. За гэты час нанова пабудавалі дом, хлявы, нават калодзеж, усё набліжана да таго выгляду, як магло быць пры жыцці паэта. Ён не так многа бываў у Завоссі, хутка пасля нараджэння бацькі пераехалі ў Навагрудак, але ўсё роўна юны Міцкевіч бавіў тут час вакацый з братамі. І потым апісваў маляўнічае мястэчка ў вершах. З бліжэйшых вёсак былі яго сябры па Віленскім універсітэце.

На адкрыццё яшчэ аднаго музея Міцкевіча на Беларусі з'ехаліся людзі, якія мелі дачыненне да стварэння гэтага помніка, — прадстаўнікі міністэрстваў культуры Беларусі і Польшчы, работнікі музея Міцкевіча ў Варшаве, якія дапамагалі і парадамі і справамі, а таксама мясцовыя жыхары. Яны з вялікім разуменнем і гонарам паставіліся да заснавання гэтага музея. І працаю дапамагалі, і гасцей на ноч прымалі.

На адкрыцці сабраліся тыя з іх, хто быў вольны ад спраў. Вучні Завоскай сярэдняй школы ўвогуле прыбылі ледзь не ў поўным саставе на чале з дырэктарам. 8 верасня ў музеі было шмат наведвальнікаў.

Дырэктар музея Леанід Тарасавіч Хадкевіч прыняў першыя падарункі. Ад Брэсцкага аблвыканкама — цудоўнае дыванавое пано з выявай Адама Міцкевіча. Ад Польскага тэлебачання — зборнік касет паводле Міцкевіча. Але галоўнае, што пакінуў паэт — яго творы. Цяпер у Завоскім музеі ёсць 4-томнік Міцкевіча і яго паэма «Пан Тадэвуш», выдадзеная на трох мовах — польскай, беларускай і рускай.

Сапраўды, рамантык, якога нарадзіла наша зямля, паўплываў на развіццё літаратур многіх краін. Сёлета Адама Міцкевіча ўслаўляе ўвесь свет.

Недалёка ад драўлянай хаткі пад чаротавай страхой невялічкі ўзгорак, які ў памяці паэта застаўся гарою. Так, можна аднойчы падняцца на ўзгорак, а застаць на гары. А побач — паламаная ліпа. Яна не такая старая, каб памятаць Міцкевіча. Але ёсць у яе разломе нешта вельмі падобнае на лёс паэта і многіх іншых нашых славутасцяў: карані іх тут...

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

# «...ДУШОЮ У РАДЗІМЕ РАЗЛІЎСЯ...»

ІМЯ АДАМА МІЦКЕВІЧА ўпісана залатымі літарамі ў гісторыю польскай літаратуры. Ды не толькі ў яе, бо і ў гісторыю суседніх Польшчы народаў — украінскага, літоўскага, чэшскага, беларускага, увогуле ў гісторыю славян, увогуле ў еўрапейскі літаратурны кантэкст. Чытаючы лекцыі ў Калеж дэ Франс у Парыжы, Адам Міцкевіч пра гісторыю, мовы і літаратуру ўсіх славян гаварыў — усходніх, заходніх, паўднёва-балканскіх, отаўшы вялікім сынам славянчыны ў Еўропе і ў шырокім свеце ўвогуле.

Ды калі ў гісторыю польскага народа, у польскую літаратуру Адам Міцкевіч уваходзіў адкрыта, галосна, трыумфальна, то зусім іншым чынам выявіліся яго ўваходзіны, яго прысутнасць у гісторыі беларускага народа, у гісторыі беларускай літаратуры: гэтыя ўваходзіны былі як бы падспудны-мі, негалоснымі, нелегітымнымі, залежнымі ад палітычнай кан'юнктуры, тэндэнцый, паветаў, а прысутнасць Адама Міцкевіча ў беларускай літаратуры доўгі час недабачвалася або бачылася вузка, абмежавана.

Пасля паўстання 1863 года і да рэвалюцыі 1905 года ў Расійскай імперыі, а значыцца і ў Беларусі, творчасць Адама Міцкевіча была ўвогуле пад забаронай. Шчодра ганаравала вялікага паэта першая беларуская газета «Наша ніва». У савецкай, аднак, Беларусі, пакуль існавала пілсудска-панская Польшча, ніхто голасу пра паэта не падаваў. Справы істотна змяніліся ў былым СССР, калі Польшча стала прасавецкай рэспублікай. Ды тады пракламавалася перад усім рэвалюцыйнасць Адама Міцкевіча, а на думцы, што Адам Міцкевіч належыць яшчэ якой-небудзь іншай нацыянальнай літаратуры, ляжала безагаворачнае табу (бо палякі могуць пакрыўдзіцца, нацыянальную рознасць нельга распальваць!). Адно, што дазволена было шырока агалошваць: беларускі фальклор — субстрат паэзіі Адама Міцкевіча, фактар братэрскіх сувязяў славянскіх народаў, іх адзінасці, спаконвечнай дружбы. Мы сёння, па сутнасці, толькі на парозе 200-гадовага юбілею з дня народзін Адама Міцкевіча, у суверэннай Рэспубліцы Беларусь пачынаем сапраўды праўдзівае, аб'ектыўнае разуменне ўсёй складанасці жыцця і творчасці Адама Міцкевіча. Аж паўтара века трэба было, каб прайшло, каб наяве выйшла тое, што было ў сапраўднасці. Іншымі словамі, беларускасць Адама Міцкевіча сёння становіцца прызнанай, неадрынутай, незамоўчанай, неаспрэчнай. Роля Адама Міцкевіча ў станаўленні і развіцці новай беларускай літаратуры сёння да канца бачыцца, да канца адкрываецца. Адам Міцкевіч сёння трактуецца не толькі як вялікі польскі паэт, прарок, геній, але і як магутная асоба, геніяльны творца, што адкрываў свету і Беларусь, беларускую мову, і беларускую гісторыю, стаўшы дзейсным каталізатарам развіцця і беларускай літаратуры.

Яго жыццёвыя сцежкі, што пачаліся на Навагрудчыне, а пралеглі затым праз Вільню, Коўна, Маскву, Еўпаторыю, Бахчысарай, Пецярбург, Рым, Дрэздэн, Веймар, Лазану, Парыж, Лондан, Стамбул, вывелі яго на арбіту агульнаеўрапейскую. Ды не толькі шырокая еўрапейская, так бы мовіць, геаграфія мясцін, дзе жыў, тварыў, дзейнічаў Адам Міцкевіч, рабілі яго паэтам еўрапейскага маштабу, бо і тое, з кім ён сустракаўся, быў у сяброўстве, супольнасці ці ў канфрантацыі, таксама мела свой уплыў на рост розгаласу паэтычнай славы Адама Міцкевіча, узбуйняла яго постаць як грамадскага дзеяча, як генія сваёй зямлі, сваёй краіны, свайго народа. У Расіі, у Пецярбургу і Маскве, ён стаў пабрацімам Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна, у Веймары здзіўляўся генію Іагана Вольфганга Гётэ, у Лондане яму насустрач выходзіў вялікі эмігрант царскай Расіі Аляксандр Герцэн, а Рым дасюль памятае яго аўдыенцыю ў папы рымскага.

Справай усяго жыцця Адама Міцкевіча стане вызваленне Радзімы з чужынскага ярма, барацьба супраць заняволення яе — словам і справай, супраць заняволення несправядлівага.

Ён нарадзіўся ў дзень народзінаў Хрыста, — Хрыстос нарадзіўся пад Віфлеемскай зоркай, хлапчана, якога хрысцілі Адамам — пад зоркай Навагрудчыны, на хутары Завоссе. Легенда сцвярджае, што па дарозе з Завосся ў Наваградак маці будучага паэта — Барбара з Маеўскіх, народжаная ў навагрудскай вёсцы Варонча, — нарадзіла свайго сына Адама ў карчме. І дасюль даследчыкі жыцця і творчасці Адама Міцкевіча спрачаюцца нахонт міцкевічаўскага Завосся, бо на Навагрудчыне ў канцы XVIII стагоддзя было іх два — адно каля Калдычава — за кіламетраў пяцьдзесят ад Навагрудка, другое — зусім поруч з Навагрудкам — за кіламетраў восем-дзевяць. Дык якое Завоссе было сапраўды пад навагрудскімі зоркамі, калі пад імі нараджаўся чалавек, палякі перад якім будуць пакланяцца як перад Хрыстом, польскі народ у якім займее свайго нацыянальнага прарока, вешчуна волі, незалежнасці, славы?

Легендарнымі сталі філаматы і філарэты, студэнты—сябры маладога Адама Міцкевіча. Малады, ды ён быў іх духоўным бацькам.

АДАМА МІЦКЕВІЧА як бы кідала з крайнасці ў крайнасць: то ён кіраўнік сямёркі сектакцых утварэнняў Тавянскага, то ён, рэдактар газеты «Трыбуна народаў», кліча на чын, да зброі, рэальнага змагання супраць цара.

Больш таго, арганізоўвае інтэрнацыянальны легіён, каб не паэтычным пяром, а вострым штыком змагацца за вольнасць Польшчы.

Больш таго: едзе ў Рым выпрошваць у папы рымскага блаславення свайму легіёну, штыку помсты, крывавай барацьбы. Больш таго: папа рымскі адмаўляе ў блаславенні легіёну, але аўдыенцыя паэту назначаецца, і тут адбываецца амаль неверагоднае: глыбока набожны паэт-каталік не цалуе, як належыць па рытуалу, руку папе рымскаму, а кідае яму ў вочы блюзнерскія словы аб тым, што дух боскі зараз цяпер не ў папскай сутане, а ў блузе парыжскага рабочага.

І тут, вярнуўшыся з апошняй фазы жыцця Адама Міцкевіча на яго рубяжы 30—40 гадоў, мы перад усім скажам аб сапраўднай сутнасці Адама Міцкевіча як змагара за волю польскага народа пад лозунгам «За нашу і вашу волю» — лозунга варшаўскага лістападаўскага паўстання 1830 года, што стаў і крэдам Адама Міцкевіча, які роўна жадаў волі і польскаму, і рускаму, і ўкраінскаму, і літоўскаму, і беларускаму народам.

Так, пяро паэта ён ахвотна мяняў на штык легіянера, але, мяняючы яго на штык, не ў шых крайніх левацкі-экстрэмісцкіх паэт станавіўся, гнеўна асуджаючы якабінскі тэрор, дыктатуру і гільяціны, непасрэдная спраўцу тэрору Вялікай Французскай рэвалюцыі Марата (верш «На ксяндза Пулаўскага»), бязлітасна сатырай (верш «Да Францішка Жымайлы») прыпячатваючы жахлівыя лозунгі праліцця «крыві, крыві, крыві».

Адам Міцкевіч у сваім апафеозе штыку, герою са зброяй у руцэ заставаўся пры хрысціянскім гуманізме, пры чалавекалюбстве, пры разуменні пагрозы ад верхавенства чорных сіл у народна-вызваленчай барацьбе ці сацыяльна-рэвалюцыйных узрушэннях.

**Алег ЛОЙКА.**

# НАЦЫЯНАЛЬНЫ НАБЫТАК — ПАД СТРОГІ КАНТРОЛЬ ДЗЯРЖАВЫ

Захаваць навуковыя аб'екты, якія складаюць нацыянальны набытак Беларусі, і забяспечыць іх належнае функцыянаванне дапаможа адпаведны Дзяржаўны рэестр. Указ аб яго стварэнні з 1 студзеня наступнага года падпісаў 7 верасня прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка.

Дакументам устаноўлена, што рашэнні аб аб'яўленні навуковых аб'ектаў нацыянальным набыткам прымаюцца Саветам Міністраў рэспублікі. А вядзенне Дзяржаўнага рэестра навуковых аб'ектаў, што складаюць нацыянальны набытак, ускладаецца на Нацыянальную акадэмію навук Беларусі.

Савету Міністраў даручана ў трохмесячны тэрмін распрацаваць і зацвердзіць палажэнне аб навуковых аб'ектах, якія складаюць нацыянальны набытак.

**БЕЛТА.**

# ЗАВЕРШЫМ II ТЫСЯЧАГОДДЗЕ РАЗАМ

**Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» выступіла з ініцыятывай адзначыць у агульнанацыянальным маштабе завяршэнне II тысячагоддзя.**

Дзеля гэтага Згуртаваннем распрацаваны праект праграмы мерапрыемстваў пад назвай «Беларусь-2000 гадоў». Сярод прапаноў, выкладзеных у праграме, ёсць і такія, як стварэнне серыі помнікаў для ўшанавання важных гістарычных падзей і выдатных асобаў (князям Рагвалоду, Усяславу Чарадзею і Вітаўту, канцлеру Вялікага княства Літоўскага Л. Сапегу, Т. Касцюшку і К. Каліноўскаму); рэстаўрацыя беларускіх замкаў, храмаў і манастыроў, старажытных гарадзішчаў; стварэнне новых музеяў і музейных комплексаў. Акрамя таго, прапануецца пабудаваць Храм Усіх Святых Зямлі Беларускай у Мінску.

Дзеля рэалізацыі сваёй ініцыятывы Згуртаваннем беларусаў свету «Бацькаўшчына» ствараецца грамадскі арганізацыйны камітэт, першае пасяджэнне якога, як плануецца, адбудзецца ўжо ў канцы верасня гэтага года.

**Сяргей КУЗНЯЦОЎ.**

# УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 434

## АБ УНЯСЕННІ ЗМЯНЕННЯЎ І ДАПАЎНЕННЯ ВА УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АД 15 СТУДЗЕНЯ 1997 г. № 63

У мэтах павышэння эфектыўнасці дзейнасці гаспадарчых судоў Рэспублікі Беларусь пастанаўляю:

1. Унесці ва Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 15 студзеня 1997 г. № 63 «Аб зацвярджэнні структуры Вышэйшага гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь і структуры апарату Вышэйшага гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь» (Збор дэкрэтаў, указаў Прэзідэнта і пастаноў Урада Рэспублікі Беларусь, 1997 г., № 2, арт. 65) наступныя змяненні і дапаўненне:

1.1. пункт 2 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«2. Прадаставіць старшыні Вышэйшага гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь права:

зацвярджаць штатныя расклады гаспадарчых судоў Рэспублікі Беларусь у межах устаноўленай колькасці работнікаў гэтых судоў;

змяняць за кошт вакансій, якія ёсць, колькасць работнікаў апаратаў гаспадарчых судоў з улікам існуючай нагрузкі ў судах і змянення падсуднасці спрэчак»;

1.2. структуру Вышэйшага гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь, зацверджаную названым Указам, выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Структура Вышэйшага гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь

Пленум Вышэйшага гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь

Прэзідыум Вышэйшага гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь

Старшыня Вышэйшага гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь

першы намеснік старшыні Вышэйшага гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь

два намеснікі старшыні Вышэйшага гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь

судовыя калегіі па вырашэнню спрэчак

калегія па праверцы законнасці рашэнняў гаспадарчых судоў»;

1.3. у структуры апарату Вышэйшага гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь, зацверджанай названым Указам, словы: «арганізацыйнай работы» замяніць словамі: «забеспячэння нагляду», а словы: «Аддзел арганізацыі і» замяніць словам «Упраўленне»;

пасля абзаца пятага дапоўніць структуру словамі: «Упраўленне арганізацыйнай і кадравай работы»;

абзац сёмы са структуры выключыць.

2. Гэты Указ увесці ў дзеянне з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А.ЛУКАШЭНКА.**

7 верасня 1998 г.
г.Мінск.

# ВОДНЫ КОДЭКС РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ



*Прыняты Палатай прадстаўнікоў 18 чэрвеня 1998 года.*
*Адобраны Саветам Рэспублікі 29 чэрвеня 1998 года.*

***Гэты Кодэкс рэгулюе адносіны, якія ўзнікаюць пры валоданні, карыстанні і распараджэнні водамі, і накіраваны на стварэнне ўмоў для рацыянальнага выкарыстання і аховы вод, аднаўлення водных аб'ектаў, захавання і паляпшэння водных экалагічных сістэм.***

## РАЗДЗЕЛ I. АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

### ГЛАВА 1. Асноўныя палажэнні

**Артыкул 1. Асноўныя паняцці і іх азначэнні**

У гэтым Кодэксе выкарыстоўваюцца наступныя асноўныя паняцці і іх азначэнні:

балота — залішне ўвільготнены ўчастак зямлі, пакрыты слоем торфу;

вада дрэнажная — падземная вада, якая збіраецца і адводзіцца сеткай дрэнажных збудаванняў;

вада кар'ерная (шахтавая, руднiковая) — вада, якая адлампоўваецца ў працэсе здабычы карысных выкапняў у мэтах прадухілення затаплення кар'ера (шахты, рудніка);

вада мінеральная лячэбная — прыродная падземная вада, якая мае біялагічна актыўныя ўласцівасці і аказвае фізіялагічнае ўздзеянне на чалавечы арганізм з прычыны павышанага ўтрымання хімічных кампанентаў (у тым ліку радыеактыўных), арганічных рэчываў, газаў або з прычыны павышанай тэмпературы;

вада пітная (пітной якасці) — вада, якая па арганалептычных уласцівасцях, мікрабіялагічным і хімічным складзе адпавядае дзеючым санітарным нормам і правілам;

вада падсланевая (льяльная) — вада, якая забруджана (пераважна нафтапрадуктамі) і збіраецца ў калодзежах (льялах) машынных аддзяленняў суднаў;

вада сцёкавая — вада, якая адводзіцца пасля выкарыстання яе ў гаспадарча-бытавой і вытворчай дзейнасці (акрамя дрэнажнай, кар'ернай, шахтавай, руднiковай), а таксама адводзіцца з забудаванай тэрыторыі, на якой яна ўтварылася ў выніку выпадзення атмасферных ападкаў;

водная гаспадарка — галіна гаспадарчай дзейнасці, якая ахоплівае ўлік, вывучэнне, выкарыстанне, ахову водных рэсурсаў, а таксама барацьбу са шкодным уздзеяннем вод;

водныя жывёлы — жывёлы, якія жывуць у вадзе і маюць для гэтага характэрныя прыстасаванні;

водныя адносіны — адносіны, звязаныя з рацыянальным выкарыстаннем і аховай вод;

водныя шляхі — участкі вадаёмаў і вадацёкаў, якія выкарыстоўваюцца для суднаходства і лесасплаву;

водныя рэсурсы — запасы паверхневых і падземных вод дадзенай тэрыторыі;

водны аб'ект — сканцэнтраванне прыродных вод на паверхні сушы ці ў горных пародах, якое мае характэрныя формы распаўсюджання і рысы рэжыму;

водны аб'ект паверхневы — сканцэнтраванне прыродных вод на паверхні сушы (рака, ручай, крыніца, возера, вадасховішча, сажалка, сажалка-копанка, канал і да т.п.);

водны рэжым — змяненне ў часе ўзроўняў, расходаў і аб'ёмаў вады ў водных аб'ектах і глебагрунтах;

вадаём — паверхневы водны аб'ект у заглыбленні сушы, які характарызуецца запаволеным рухам вады або поўнай яго адсутнасцю (возера, вадасховішча, сажалка, сажалка-копанка);

вадаём штучны — спецыяльна створаны збор вады ў штучных або натуральных заглыбленнях зямной паверхні з запаволеным рухам вады або поўнай яго адсутнасцю (вадасховішча, сажалка, сажалка-копанка);

вадаём тэхналагічны — сажалка-ахаладжальнік, рыбаводная сажалка;

водазаборныя збудаванні — гідратэхнічныя збудаванні, прызначаныя для забору вады з водных аб'ектаў (вадаёма, вадацёку, падземнай крыніцы);

ваданосны гарызонт — водапранікальны пласт горнай пароды, насычаны вадой;

водакарыстанне — выкарыстанне водных аб'ектаў для задавальнення патрэб насельніцтва і гаспадарчай дзейнасці;

водакарыстанне адасобленае — водакарыстанне адной юрыдычнай або фізічнай асобы;

водакарыстанне агульнае — водакарыстанне без прымянення збудаванняў або тэхнічных устройстваў, якія ўплываюць на стан вод. Да агульнага водакарыстання адносіцца таксама водакарыстанне з прымяненнем шахтавых калодзежаў;

водакарыстанне сумеснае — водакарыстанне з удзелам некалькіх юрыдычных і (або) фізічных асоб;

водакарыстанне спецыяльнае — водакарыстанне (забор вады з водных аб'ектаў і адвядзенне ў навакольнае прыроднае асяроддзе сцёкавых вод) з прымяненнем збудаванняў і тэхнічных устройстваў. Водакарыстанне не з'яўляецца спецыяльным, калі яно звязана з заборам вады з паверхневых водных аб'ектаў перасоўнымі тэхнічнымі ўстройствамі для ўвільгатнення тэрыторый населеных месцаў, пропускам вады праз гідравузлы, плаціны і іншыя водападпорныя збудаванні, суднаходствам, падачай (перапампоўваннем) вады водакарыстальнікам у малаводныя рэгіёны, устараненнем шкоднага дзеяння вод (падтапленне, забалочванне), здабываннем вады з нетраў аднагачасова са здабычай карысных выкапняў;

водакарыстальнік — юрыдычная або фізічная асоба, якой прадастаўлена права карыстання водным аб'ектам;

водаспажывец — юрыдычная або фізічная асоба, якая атрымлівае ва ўстаноўленым парадку ваду для забеспячэння сваіх патрэб;

вадазбор — тэрыторыя і (або) ваданосныя гарызонты, адкуль вада паступае або можа паступаць у водны аб'ект;

водазабеспячэнне — комплекс збудаванняў і ўстройстваў для забеспячэння вадой яе спажыўцоў;

водазабеспячэнне нецэнтралізаванае — комплекс збудаванняў і ўстройстваў для забеспячэння вадой асобных груп або адзіночных яе спажыўцоў;

водазабеспячэнне цэнтралізаванае — адзіны комплекс збудаванняў і ўстройстваў для забеспячэння вадой усёй сукупнасці яе спажыўцоў;

вадацёк штучны — паверхневы водны аб'ект, які характарызуецца рухам вады ў напрамку ўхілу ў штучна створаным заглыбленні зямной паверхні (канал);

вадацёк паверхневы — водны аб'ект, які характарызуецца рухам вады ў напрамку ўхілу ў заглыбленні зямной паверхні (рака, ручай, крыніца, канал);

водагаспадарчая сістэма — комплекс узаемазвязаных водных аб'ектаў і гідратэхнічных збудаванняў, прызначаных для забеспячэння выкарыстання і аховы вод;

водагаспадарчыя збудаванні і ўстройствы — збудаванні і ўстройствы, прызначаныя для ўздзеяння на водныя патокі, забору, транспарціроўкі, апрацоўкі і пераразмеркавання вод, а таксама ачысткі, абясшкоджвання, абеззаражвання і адвядзення сцёкавых вод (плаціны, каналы, помпавыя станцыі, свідравіны, сеткі і збудаванні водаправода і каналізацыі і да т.п.);

вадасховішча — штучны паверхневы вадаём, утвораны водападпорным збудаваннем у мэтах захоўвання вады і рэгулявання сцёку;

воды — уся вада, якая знаходзіцца ў водных аб'ектах;

воды паверхневыя — воды, размешчаныя на паверхні сушы ў выглядзе розных водных аб'ектаў;

воды падземныя — воды, якія знаходзяцца ніжэй узроўню зямной паверхні ў тоўшчах горных парод зямной кары ва ўсіх фізічных станах;

аднаўленне водных аб'ектаў — комплекс мерапрыемстваў, накіраваных на паляпшэнне гідралагічнага рэжыму і аздараўленне экалагічных сістэм непасрэдна ў водных аб'ектах і на прылеглай экалагічна звязанай з імі тэрыторыі ў мэтах узнаўлення ўмоў, блізкіх да існаваўшых да іх парушэння дзейнасцю чалавека;

шкоднае ўздзеянне вод — затапленне, падтапленне і іншы шкодны ўплыў паверхневых і падземных вод на пэўныя тэрыторыі і аб'екты;

забалочаныя землі — залішне ўвільготненыя ўчасткі зямлі без тарфянога покрыва;

забруджанне вод (водных аб'ектаў) — паступленне ў водны аб'ект забруджвальных рэчываў, мікраарганізмаў, цяпла, якія парушаюць склад і ўласцівасці вады;

засмечванне вод (водных аб'ектаў) — накапленне ў водных аб'ектах пабочных прадметаў;

зона санітарнай аховы — тэрыторыя і акваторыя, на якіх устанаўліваецца асаблівы санітарна-проціэпідэміялагічны рэжым для прадухілення пагаршэння якасці вады крыніц гаспадарча-пітнога водазабеспячэння і аховы водаправодных збудаванняў;

крыніца прымесей — аб'ект, ад якога ў прыродныя воды паступаюць прымесі раствораных, калоідных або завіслых рэчываў;

вычарпанне вод (водных аб'ектаў) — устойлівае змяншэнне мінімальна дапушчальнага сцёку паверхневых вод або скарачэнне запасаў падземных вод;

акруга санітарнай аховы — тэрыторыя, на якой устанаўліваецца асаблівы санітарна-проціэпідэміялагічны рэжым для захавання прыродных фізічных і хімічных уласцівасцей лячэбных вод крыніц, аховы іх ад пашкоджання і дачаснага вычарпання;

ахова водных аб'ектаў — сістэма мер, накіраваных на прадухіленне або ліквідацыю забруджання, засмечвання і вычарпання вод, захаванне і аднаўленне водных аб'ектаў;

гранічна дапушчальная канцэнтрацыя рэчыва ў вадзе — канцэнтрацыя рэчыва ў вадзе, вышэй якой вада непрыдатная для ўстаноўленага віду карыстання;

прыбярэжныя віды жывёл (каляводныя) — віды жывёл, якія выкарыстоўваюць для пражывання частку прылеглай да вады сушы і акваторыю;

сажалка — вадасховішча плошчай акваторыі да аднаго квадратнага кіламетра;

сажалка-копанка — невялікі штучны вадаём у спецыяльна выкапаным заглыбленні на паверхні зямлі, прызначаны для накаплення і захоўвання вады для розных гаспадарчых мэт;

рэжым спрацоўкі вадасховішчаў — сутачнае, сезоннае або шматгадовае змяненне ўзроўняў вады ў вадасховішчах, звязанае з пераразмеркаваннем сцёку і водакарыстаннем;

рыбаахоўныя ўстройствы — збудаванне або комплекс збудаванняў, прызначаных для забеспячэння аховы рыбы, прадухілення яе гібелі або пашкоджання, а таксама накіравання яе руху ў бяспечную зону;

рыбагаспадарчы водны аб'ект — водны аб'ект, які выкарыстоўваецца ці можа быць выкарыстаны для лоўлі рыбы, здабычы водных беспазваночных або мае значэнне для ўзнаўлення іх запасаў;

сапрапель — адклады, якія ўтвараюцца на дне вадаёмаў і складаюцца з рэштак раслінных і жывёльных арганізмаў, змешаных з мінеральнымі ападкамі;

фонавая канцэнтрацыя рэчыва ў вадзе — канцэнтрацыя рэчыва ў вадзе, якая разлічваецца (фактычная) у прымяненні да дадзенай крыніцы прымесей у фонавым створы воднага аб'екта пры разліковых (фактычных) гідралагічных умовах, улічвае ўплыў усіх крыніц прымесей, за выключэннем дадзенай крыніцы;

фонавы створ — сячэнне воднага аб'екта, у якім вызначаецца фонавая канцэнтрацыя рэчыва ў вадзе.

**Артыкул 2. Воднае заканадаўства Рэспублікі Беларусь**

Воднае заканадаўства Рэспублікі Беларусь грунтуецца на Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і складаецца з гэтага Кодэкса і іншых актаў заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

Задачамі воднага заканадаўства Рэспублікі Беларусь з'яўляюцца рэгуляванне адносін у галіне выкарыстання і аховы вод у мэтах задавальнення патрэбнасцей у водных рэсурсах юрыдычных і фізічных асоб, у тым ліку замежных, аховы вод ад забруджання, засмечвання і вычарпання, папярэджання і ліквідацыі шкоднага ўздзеяння вод, аднаўлення і паляпшэння стану водных аб'ектаў.

Адносіны, звязаныя з выкарыстаннем і аховай атмасфернага паветра, зямель, нетраў, лясоў, расліннага і жывёльнага свету, якія ўзнікаюць пры водакарыстанні, рэгулююцца адпаведным заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 3. Дзяржаўны водны фонд Рэспублікі Беларусь**

Усе воды (водныя аб'екты), якія знаходзяцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, складаюць дзяржаўны водны фонд Рэспублікі Беларусь (далей — водны фонд).

Да воднага фонду адносяцца:

паверхневыя воды (водныя аб'екты) — рэкі, ручаі, крыніцы, азёры, сажалкі, вадасховішчы, каналы і да т.п.);

падземныя воды.

Аднясенне зямель да зямель воднага фонду і вызначэнне іх меж праводзіцца ў парадку, устаноўленым зямельным заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

### ГЛАВА 2. Права ўласнасці на воды (водныя аб'екты) Рэспублікі Беларусь. Суб'екты і аб'екты водных адносін

**Артыкул 4. Права ўласнасці на воды (водныя аб'екты) Рэспублікі Беларусь**

Усе воды (водныя аб'екты), якія знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі, складаюць выключную ўласнасць Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 5. Суб'екты водных адносін**

Суб'ектамі водных адносін могуць выступаць органы дзяржаўнага кіравання, аб'яднанні, падпарадкаваныя Ураду Рэспублікі Беларусь, і водакарыстальнікі.

Водакарыстальнікамі могуць быць юрыдычныя і фізічныя асобы Рэспублікі Беларусь і замежных дзяржаў, а таксама асобы без грамадзянства, якім водныя аб'екты прадастаўлены ў карыстанне.

**Артыкул 6. Аб'екты водных адносін**

Аб'ектамі водных адносін з'яўляюцца водныя аб'екты (іх часткі) ва ўстаноўленых межах, указаныя ў артыкуле 3 гэтага Кодэкса.

Прававы рэжым аб'ектаў водных адносін вызначаецца гэтым Кодэксам і іншымі актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

## РАЗДЗЕЛ II. ДЗЯРЖАЎНАЕ КІРАВАННЕ Ў ГАЛІНЕ ВЫКАРЫСТАННЯ І АХОВЫ ВОД

### ГЛАВА 3. Дзяржаўнае кіраванне ў галіне выкарыстання і аховы вод

**Артыкул 7. Органы дзяржаўнага кіравання ў галіне выкарыстання і аховы вод**

Дзяржаўнае кіраванне ў галіне выкарыстання і аховы вод ажыццяўляецца ў мэтах забеспячэння захавання юрыдычнымі і фізічнымі асобамі патрабаванняў воднага заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

Дзяржаўнае кіраванне ў галіне выкарыстання і аховы вод ажыццяўляюць Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, мясцовыя Саветы дэпутатаў, выканаўчыя і распарадчыя органы, рэспубліканскі орган дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя, а таксама яго тэрытарыяльныя органы і іншыя спецыяльна ўпаўнаважаныя на тое органы дзяржаўнага кіравання ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 8. Кампетэнцыя Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь у галіне выкарыстання і аховы вод**

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь у галіне выкарыстання і аховы вод:

забяспечвае правядзенне адзінай дзяржаўнай палітыкі ў дадзенай галіне;

зацвярджае дзяржаўныя праграмы рацыянальнага выкарыстання і аховы вод і прымае меры па іх рэалізацыі;

зацвярджае ліміты водакарыстання па абласцях і гораду Мінску;

кіруе дзейнасцю органаў дзяржаўнага кіравання ў галіне выкарыстання і аховы вод;

вызначае парадак ажыццяўлення дзяржаўнага кантролю за выкарыстаннем і аховай вод, вядзення дзяржаўнага воднага кадастру, выдачы дазволаў на спецыяльнае водакарыстанне, прадастаўлення водных аб'ектаў (іх частак) у адасобленае карыстанне, устанаўлення памераў і меж водаахоўных зон і прыбярэжных палос водных аб'ектаў і рэжыму вядзення ў іх гаспадарчай дзейнасці;

устанаўлівае межы акруг санітарнай аховы, абмежавальны рэжым у іх межах для радовішчаў лячэбных мінеральных вод аб'ектаў рэспубліканскага значэння;

прымае меры для спынення дзейнасці юрыдычных асоб, якія не забяспечваюць выканання патрабаванняў воднага заканадаўства Рэспублікі Беларусь;

ажыццяўляе міжурадавае супрацоўніцтва ў дадзенай галіне ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, а таксама рэгулюе іншыя пытанні.

**Артыкул 9. Кампетэнцыя мясцовых Саветаў дэпутатаў, выканаўчых і распарадчых органаў у галіне выкарыстання і аховы вод**

Мясцовыя Саветы дэпутатаў, выканаўчыя і распарадчыя органы ў галіне выкарыстання і аховы вод:

распрацоўваюць і зацвярджаюць у межах сваіх паўнамоцтваў праграмы і мерапрыемствы ў галіне выкарыстання і аховы вод і прымаюць меры па іх рэалізацыі;

забяспечваюць патрэбнасць насельніцтва ў пітной вадзе;

прымаюць рашэнні аб прадастаўленні водных аб'ектаў у адасобленае карыстанне;

ажыццяўляюць дзяржаўны кантроль за выкарыстаннем і аховай вод у парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь;

зацвярджаюць ліміты водакарыстання ў межах сваіх паўнамоцтваў;

устанаўліваюць па ўзгадненню з органамі дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя ў межах сваіх паўнамоцтваў ільготы па падаткаабкладанню і крэдытаванню для юрыдычных і фізічных асоб пры ўкараненні імі малаадходных, безадходных, энерга- і рэсурсазберагаючых тэхналогій, правядзенні іншых мерапрыемстваў, якія даюць значны эфект у галіне рацыянальнага выкарыстання і аховы вод;

абмяжоўваюць, прыпыняюць або забараняюць у парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, дзейнасць юрыдычных і фізічных асоб незалежна ад форм уласнасці, якія не забяспечваюць выканання патрабаванняў воднага заканадаўства Рэспублікі Беларусь;

арганізоўваюць прапаганду экалагічных ведаў;

вывучаюць прапановы грамадскіх аб'яднанняў, юрыдычных і фізічных асоб у дадзенай галіне і прымаюць па іх адпаведныя рашэнні;

прымаюць рашэнні па задавальненню правоў і законных інтарэсаў грамадзян Рэспублікі Беларусь у дадзенай галіне;

прымаюць меры па правядзенню супрацьпаводкавых мерапрыемстваў;

ажыццяўляюць іншыя паўнамоцтвы ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 10. Кампетэнцыя рэспубліканскага органа дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя ў галіне выкарыстання і аховы вод**

Рэспубліканскі орган дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя ў галіне выкарыстання і аховы вод у межах сваёй кампетэнцыі:

праводзіць адзіную навукова-тэхнічную палітыку ў дадзенай галіне;

арганізоўвае распрацоўку і рэалізацыю дзяржаўных праграм рацыянальнага выкарыстання і аховы вод;

ажыццяўляе комплекснае кіраванне водаахоўнай дзейнасцю ў рэспубліцы;

ажыццяўляе дзяржаўны кантроль за выкарыстаннем і аховай вод і праводзіць дзяржаўную экалагічную экспертызу;

ажыццяўляе сумесна з іншымі ўпаўнаважанымі на тое рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання маніторынг вод і вядзе дзяржаўны ўлік вод і іх выкарыстання і дзяржаўны водны кадастр;

зацвярджае сумесна з органамі дзяржаўнага санітарнага нагляду нарматывы якасці вады;

распрацоўвае праекты стандартаў, нарматываў і актаў заканадаўства ў дадзенай галіне;

выдае дазволы на спецыяльнае водакарыстанне па ўзгадненню з іншымі спецыяльна ўпаўнаважанымі на тое органамі дзяржаўнага кіравання;

узгадняе ўмовы на іншыя віды водакарыстання;

абмяжоўвае або прыпыняе ў парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, дзейнасць юрыдычных і фізічных асоб незалежна ад форм уласнасці, якія не забяспечваюць выканання патрабаванняў воднага заканадаўства Рэспублікі Беларусь;

**РАЗГЛЯДАЕ СПРАВЫ АБ АДМІНІСТРАЦЫЙНЫХ ПРАВАПАРУШЭННЯХ У ГАЛІНЕ ВЫКАРЫСТАННЯ І АХОВЫ ВОД У АДПАВЕДНАСЦІ З ЗАКАНАДАЎСТВАМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ;**

распрацоўвае прапановы па ўдасканаленню эканамічнага механізма ў галіне рацыянальнага выкарыстання і аховы вод;

прымае меры да юрыдычных і фізічных асоб, у тым ліку замежных, па пакрыццю імі шкоды, прычыненай водным аб'ектам у выніку парушэнняў у галіне выкарыстання і аховы вод;

атрымлівае бязвыплатна ад юрыдычных і фізічных асоб інфармацыю аб стане водных аб'ектаў, праводзімых мерапрыемствах па рацыянальнаму выкарыстанню і ахове вод, а таксама аператыўную інфармацыю аб аварыйных сітуацыях на водных аб'ектах;

ажыццяўляе кантроль за выкананнем абавязацельстваў, якія вынікаюць з міжнародных дагавораў Рэспублікі Беларусь па пытаннях выкарыстання і аховы вод;

ажыццяўляе міжнароднае супрацоўніцтва ў галіне рацыянальнага выкарыстання і аховы вод;

вывучае, абагульняе і распаўсюджвае вопыт замежных краін у гэтай галіне;

ажыццяўляе іншыя паўнамоцтвы ў дадзенай галіне ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 11. Правы і абавязкі грамадзян і грамадскіх аб'яднанняў у галіне выкарыстання і аховы вод**

Грамадзяне і грамадскія аб'яднанні ў галіне выкарыстання і аховы вод ва ўстаноўленым парадку маюць права:

прымаць удзел у разглядзе мясцовымі Саветамі дэпутатаў, органамі дзяржаўнага кіравання пытанняў, звязаных з выкарыстаннем і аховай вод;

прымаць удзел у правядзенні мерапрыемстваў па рацыянальнаму выкарыстанню і ахове водных рэсурсаў;

ініцыіраваць правядзенне ва ўстаноўленым парадку грамадскай экалагічнай экспертызы, інфармаваць аб яе выніках органы, упаўнаважаныя прымаць рашэнні аб размяшчэнні, праектаванні і будаўніцтве новых і рэканструкцыі дзеючых прадпрыемстваў, збудаванняў і іншых аб'ектаў, звязаных з выкарыстаннем вод;

ажыццяўляць грамадскі кантроль за выкарыстаннем і аховай вод;

атрымліваць у парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, інфармацыю аб стане водных аб'ектаў, крыніцах забруджання вод і мерах па ахове вод;

прад'яўляць у суд іскі аб пакрыцці шкоды, прычыненай парушэннем правоў грамадзян з прычыны забруджання і (або) засмечвання вод.

Грамадзяне Рэспублікі Беларусь і грамадскія аб'яднанні абавязаны захоўваць санітарныя і іншыя нормы і правілы ў галіне выкарыстання і аховы вод, а таксама выконваць устаноўленыя гэтым Кодэксам патрабаванні службовых асоб, якія ажыццяўляюць дзяржаўны кантроль у гэтай галіне.

## РАЗДЗЕЛ III. СТАНДАРТЫЗАЦЫЯ І НАРМІРАВАННЕ Ў ГАЛІНЕ ВЫКАРЫСТАННЯ І АХОВЫ ВОД. РАЗМЯШЧЭННЕ, ПРАЕКТАВАННЕ, БУДАЎНІЦТВА І ЎВОД У ЭКСПЛУАТАЦЫЮ АБ'ЕКТАЎ, ЯКІЯ ЎПЛЫВАЮЦЬ НА СТАН ВОД

### ГЛАВА 4. Стандартызацыя і нарміраванне ў галіне выкарыстання і аховы вод

**Артыкул 12. Мэты стандартызацыі і нарміравання ў галіне выкарыстання і аховы вод**

Стандартызацыя і нарміраванне ў галіне выкарыстання і аховы вод ажыццяўляюцца ў мэтах забеспячэння экалагічнай і санітарна-гігіенічнай бяспекі вод шляхам устанаўлення адзінай сістэмы патрабаванняў па выкарыстанню і ахове вод.

**Артыкул 13. Стандартызацыя ў галіне выкарыстання і аховы вод**

Устанаўленне адзінай сістэмы патрабаванняў па выкарыстанню і ахове вод ажыццяўляецца шляхам распрацоўкі і зацвярджэння нарматыўных дакументаў па стандартызацыі ў галіне выкарыстання і аховы вод у парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 14. Нарматывы якасці вады водных аб'ектаў**

Для ацэнкі магчымасці выкарыстання вады водных аб'ектаў для мэт водакарыстання ўстанаўліваюцца нарматывы якасці вады, якія ўключаюць у сябе агульнафізічныя, біялагічныя, хімічныя паказчыкі якасці і гранічна дапушчальныя канцэнтрацыі (ГДК) рэчываў у вадзе водных аб'ектаў для розных мэт водакарыстання.

Указаныя нарматывы зацвярджаюцца і ўводзяцца ў дзеянне рэспубліканскім органам дзяржаўнага кіравання па ахове здароўя або рэспубліканскім органам дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя ў залежнасці ад мэт водакарыстання.

Парадак распрацоўкі і зацвярджэння нарматываў якасці вады водных аб'ектаў устанаўліваецца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 15. Тэхналагічныя (галіновыя) нарматывы водакарыстання**

Для ацэнкі і забеспячэння рацыянальнага выкарыстання і аховы вод устанаўліваюцца тэхналагічныя (галіновыя) нарматывы водакарыстання (водаспажывання і водаадвядзення), якія ўяўляюць сабой аднесеныя да адзінкі асноўнай прадукцыі або выкарыстоўваемай сыравіны навукова абгрунтаваныя колькасць і якасць вады, неабходныя для вытворчага працэсу, і адпаведную яму колькасць утвараемых сцёкавых вод з нарматывамі гранічна дапушчальных канцэнтрацый рэчываў у іх.

Тэхналагічныя (галіновыя) нарматывы водакарыстання распрацоўваюцца і зацвярджаюцца ў парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, адпаведнымі міністэрствамі і іншымі рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання, а таксама аб'яднаннямі, утворанымі па рашэнню Урада Рэспублікі Беларусь, па ўзгадненню з рэспубліканскім органам дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя і органамі дзяржаўнага санітарнага нагляду.

### ГЛАВА 5. Размяшчэнне, праектаванне, будаўніцтва і ўвод у эксплуатацыю аб'ектаў, якія ўплываюць на стан вод

**Артыкул 16. Умовы размяшчэння, праектавання, будаўніцтва, рэканструкцыі і ўводу ў эксплуатацыю аб'ектаў, якія ўплываюць на стан вод**

Пры размяшчэнні, праектаванні, будаўніцтве новых і рэканструкцыі існуючых прадпрыемстваў, збудаванняў і іншых аб'ектаў, а таксама пры ўкараненні новых тэхналагічных працэсаў, якія ўплываюць на стан вод, павінны прадугледжвацца мерапрыемствы, што забяспечваюць рацыянальнае выкарыстанне вод, улік і кантроль колькасці і якасці забіраемых і адводзімых вод, ахову вод ад забруджання, засмечвання і вычарпання, папярэджанне іх шкоднага ўздзеяння.

На рыбагаспадарчых водных аб'ектах неабходна дадаткова прадугледжваць мерапрыемствы па ахове рыбы, водных і каляводных жывёл і раслін.

**РАЗМЯШЧЭННЕ І ПРАЕКТЫ БУДАЎНІЦТВА, А ТАКСАМА ЎВОД У ЭКСПЛУАТАЦЫЮ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ І ІНШЫХ АБ'ЕКТАЎ, ЯКІЯ ЎПЛЫВАЮЦЬ НА СТАН ВОД, УЗГАДНЯЮЦЦА З МЯСЦОВЫМІ САВЕТАМІ ДЭПУТАТАЎ, ВЫКАНАЎЧЫМІ І РАСПАРАДЧЫМІ ОРГАНАМІ, ОРГАНАМІ ДЗЯРЖАЎНАГА КІРАВАННЯ ПА ПРЫРОДНЫХ РЭСУРСАХ І АХОВЕ НАВАКОЛЬНАГА АСЯРОДДЗЯ, ОРГАНАМІ ДЗЯРЖАЎНАГА САНІТАРНАГА НАГЛЯДУ, ОРГАНАМІ ДЗЯРЖАЎНАГА КІРАВАННЯ ПА НАГЛЯДУ ЗА БЯСПЕЧНЫМ ВЯДЗЕННЕМ РАБОТ У ПРАМЫСЛОВАСЦІ І АТАМНАЙ ЭНЕРГЕТЫЦЫ І ІНШЫМІ ЎПАЎНАВАЖАНЫМІ НА ТОЕ ОРГАНАМІ ДЗЯРЖАЎНАГА КІРАВАННЯ Ў АДПАВЕДНАСЦІ З ЗАКАНАДАЎСТВАМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.**

Перадпраектная і праектная дакументацыя па размяшчэнню, будаўніцтву новых і рэканструкцыі існуючых

**(Працяг на 6-й стар.)**

# ВОДНЫ КОДЭКС РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ



**(Працяг. Пачатак на 5-й стар.)**

прадпрыемстваў і іншых аб'ектаў, якія ўплываюць на стан вод, падлягае дзяржаўнай экалагічнай экспертызе ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Будаўніцтва новых і рэканструкцыя існуючых прадпрыемстваў і іншых аб'ектаў па праектах без станоўчага заключэння дзяржаўнай экалагічнай экспертызы забараняюцца.

**Артыкул 17. Умовы забароны ўводу ў эксплуатацыю прадпрыемстваў і іншых аб'ектаў, якія ўплываюць на стан вод**

Забараняецца ўвод у эксплуатацыю:

новых і рэканструяваных прадпрыемстваў і іншых аб'ектаў, не забяспечаных прыборамі ўліку забору і адвядзення вады, збудаваннямі і ўстройствамі, якія прадухіляюць шкоднае ўздзеянне на водныя аб'екты;

эксплуатацыйных свідравін на ваду без абсталявання іх водарэгулюючымі і кантрольна-вымяральнымі ўстройствамі і ўстанаўлення зон санітарнай аховы;

водазаборных збудаванняў без рыбаахоўных устройстваў;

вадасховішчаў і сажалак да правядзення прадугледжаных праектнай дакументацыяй мерапрыемстваў у інтарэсах рыбнай гаспадаркі;

асушальных, арашальных і абвадняльных сістэм, сажалак, сажалак-копанак, вадасховішчаў і каналаў да правядзення прадугледжаных праектнай дакументацыяй мерапрыемстваў, якія прадухіляюць затапленне, падтапленне, забалочванне, засаленне зямель, эрозію глеб, забруджанне і вычарпанне водных аб'ектаў;

суднаў без устройстваў для збору падсланевых і іншых забруджаных вод, якія ўтвараюцца на суднах.

**Артыкул 18. Парадак правядзення работ на водных аб'ектах, у водаахоўных зонах, прыбярэжных палосах водных аб'ектаў і зонах санітарнай аховы**

Будаўнічыя, днопаглыбныя і выбуховыя работы, здабыча карысных выкапняў, сапрапелю, водных раслін, пракладка кабеляў, трубаправодаў і іншых камунікацый, высечка лесу, буравыя, сельскагаспадарчыя і іншыя работы на водных аб'ектах або на тэрыторыі водаахоўных зон і прыбярэжных палос водных аб'ектаў праводзяцца па ўзгадненню з органамі дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя, а ў зонах санітарнай аховы крыніц пітнога водазабеспячэння — па ўзгадненню з органамі дзяржаўнага санітарнага нагляду, а таксама мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі і іншымі органамі дзяржаўнага кіравання ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Неадкладныя эксплуатацыйныя днопаглыбныя работы на водных шляхах, якія выкарыстоўваюцца для суднаходства, праводзяцца органамі дзяржаўнага кіравання суднаходствам з захаваннем інтарэсаў іншых водакарыстальнікаў і неадкладным паведамленнем аб гэтым мясцовым выканаўчым і распарадчым органам і органам дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя.

## РАЗДЗЕЛ IV. ВОДАКАРЫСТАННЕ

### ГЛАВА 6. Мэты, віды і тэрміны водакарыстання

**Артыкул 19. Прадастаўленне водных аб'ектаў у карыстанне**

Водныя аб'екты (іх часткі) могуць прадастаўляцца ў карыстанне юрыдычным і фізічным асобам, у тым ліку замежным, у парадку, вызначаным гэтым Кодэксам і іншымі заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 20. Мэты водакарыстання**

Водныя аб'екты прадастаўляюцца ў карыстанне ў мэтах задавальнення пітных, гаспадарча-бытавых, лячэбных, курортных, аздараўленчых і іншых патрэб насельніцтва, а таксама сельскагаспадарчых, прамысловых, энергетычных, транспартных, рыбагаспадарчых і іншых патрэбнасцей. Водныя аб'екты могуць прадастаўляцца ў карыстанне для адной або некалькіх мэт.

Выкарыстанне водных аб'ектаў для адвядзення сцёкавых і іншых вод дапускаецца толькі пры захаванні спецыяльных патрабаванняў і ўмоў, прадугледжаных артыкуламі 61 — 64 гэтага Кодэкса і іншым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 21. Віды водакарыстання**

Водакарыстанне мае наступныя віды:

агульнае і спецыяльнае;

адасобленае і сумеснае;

першаснае і другаснае.

**Артыкул 22. Падставы ўзнікнення права водакарыстання**

Падставамі для ўзнікнення права водакарыстання з'яўляюцца дазволы на спецыяльнае водакарыстанне, рашэнні мясцовых Саветаў дэпутатаў, выканаўчых і распарадчых органаў аб прадастаўленні водных аб'ектаў у адасобленае карыстанне або дагавор арэнды такіх аб'ектаў.

**Артыкул 23. Агульнае водакарыстанне**

Агульнае водакарыстанне ажыццяўляецца юрыдычнымі і фізічнымі асобамі без дазволаў. Пры агульным водакарыстанні абавязкова захаванне патрабаванняў і ўмоў агульнага водакарыстання на водных аб'ектах, якія вызначаюцца адпаведнымі мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі па ўзгадненню з органамі дзяржаўнага санітарнага нагляду, органамі дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя і органамі дзяржаўнага кіравання суднаходствам.

У мэтах аховы жыцця і здароўя грамадзян у неабходных выпадках мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы ўстанаўліваюць месцы, дзе забаронены купанне, катанне на лодках і іншых плывучых сродках, забор вады для пітных і бытавых патрэб, вадапой жывёлы, а таксама вызначаюць іншыя ўмовы агульнага водакарыстання на водных аб'ектах, размешчаных на тэрыторыі адпаведнага мясцовага Савета дэпутатаў.

Мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы абавязаны давесці да ведама зацікаўленых юрыдычных і фізічных асоб умовы агульнага водакарыстання на асобных водных аб'ектах.

**Артыкул 24. Спецыяльнае водакарыстанне**

Спецыяльнае водакарыстанне ажыццяўляецца на падставе дазволаў, якія выдаюцца органамі дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя. Выдача дазволаў на спецыяльнае водакарыстанне праводзіцца на падставе хадайніцтва водакарыстальніка, узгодненага ва ўстаноўленым парадку з органамі дзяржаўнага санітарнага нагляду і іншымі спецыяльна ўпаўнаважанымі на тое органамі дзяржаўнага кіравання.

Парадак выдачы дазволаў на спецыяльнае водакарыстанне вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 25. Адасобленае і сумеснае водакарыстанне**

Водныя аб'екты (іх часткі) могуць знаходзіцца ў адасобленым або сумесным водакарыстанні.

У адасобленым водакарыстанні знаходзяцца водныя аб'екты (іх часткі), прадастаўленыя ў карыстанне юрыдычным і (або) фізічным асобам на падставе рашэнняў органаў дзяржаўнага кіравання, указаных у частцы чацвёртай гэтага артыкула.

У сумесным водакарыстанні знаходзяцца водныя аб'екты (іх часткі), не прадастаўленыя ў адасобленае водакарыстанне.

Рашэнне аб прадастаўленні ў адасобленае водакарыстанне водных аб'ектаў (іх частак) прымаюць:

раённыя і гарадскія выканаўчыя і распарадчыя органы ў выпадках прадастаўлення ў адасобленае водакарыстанне водных аб'ектаў (іх частак), якія знаходзяцца на тэрыторыі адпаведнага мясцовага Савета дэпутатаў;

абласныя выканаўчыя і распарадчыя органы ў выпадках прадастаўлення ў адасобленае водакарыстанне водных аб'ектаў (іх частак), якія знаходзяцца на тэрыторыі некалькіх раённых або гарадскіх Саветаў дэпутатаў, але ў межах тэрыторыі абласнога Савета дэпутатаў;

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь у выпадках прадастаўлення ў адасобленае водакарыстанне водных аб'ектаў (іх частак), якія знаходзяцца на асабліва ахоўваемых прыродных тэрыторыях, а таксама ва ўсіх іншых выпадках.

У рашэннях аб прадастаўленні водных аб'ектаў (іх частак) у адасобленае водакарыстанне ўказваюцца мэты і асноўныя ўмовы карыстання воднымі аб'ектамі.

Парадак прадастаўлення водных аб'ектаў (іх частак) у адасобленае водакарыстанне ўстанаўліваецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Права адасобленага водакарыстання засведчваецца дзяржаўнымі актамі на права водакарыстання, якія выдаюцца рэспубліканскім органам дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя на падставе рашэнняў указаных у частцы чацвёртай гэтага артыкула органаў, што прадаставілі водны аб'ект (яго частку) у адасобленае водакарыстанне.

Формы дзяржаўных актаў на адасобленае водакарыстанне ўстанаўліваюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 26. Першаснае і другаснае водакарыстанне**

Водакарыстальнікі, якія ажыццяўляюць права адасобленага водакарыстання воднымі аб'ектамі (першасныя водакарыстальнікі), маюць права дазваляць іншым юрыдычным і фізічным асобам другаснае водакарыстанне па ўзгадненню з органамі, што прадаставілі водны аб'ект у адасобленае водакарыстанне, і органамі дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя.

У дазволах на другаснае водакарыстанне ўказваюцца мэты і асноўныя ўмовы карыстання адпаведнымі воднымі аб'ектамі.

**Артыкул 27. Агульнае водакарыстанне на водных аб'ектах, прадастаўленых у адасобленае водакарыстанне**

На водных аб'ектах, прадастаўленых у адасобленае водакарыстанне, агульнае водакарыстанне ажыццяўляецца на ўмовах, устаноўленых першаснымі водакарыстальнікамі па ўзгадненню з мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі, органамі дзяржаўнага санітарнага нагляду і органамі дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя.

Водакарыстальнікі, якім водны аб'ект прадастаўлены ў адасобленае водакарыстанне, абавязаны паведаміць зацікаўленым юрыдычным і фізічным асобам аб умовах або забароне агульнага водакарыстання.

Пры незахаванні водакарыстальнікамі, якія атрымалі права адасобленага водакарыстання, патрабавання часткі другой гэтага артыкула агульнае водакарыстанне юрыдычнымі і фізічнымі асобамі ажыццяўляецца ў адпаведнасці з артыкулам 23 гэтага Кодэкса.

**Артыкул 28. Арэнда водных аб'ектаў (іх частак)**

Водныя аб'екты (іх часткі) могуць быць перададзены ў арэнду юрыдычным і фізічным асобам для вядзення прамысловага лову рыбы, здабычы водных беспазваночных і вядзення паляўнічай гаспадаркі, а таксама для іншых мэт у парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Арэндадаўцамі водных аб'ектаў (іх частак) з'яўляюцца адпаведныя мясцовыя Саветы дэпутатаў, якія прадастаўляюць у арэнду водныя аб'екты (іх часткі) па ўзгадненню з органамі дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя і іншымі ўпаўнаважанымі на тое органамі дзяржаўнага кіравання.

Арандатар не мае права здаваць у субарэнду перададзеныя яму па дагавору арэнды водныя аб'екты (іх часткі).

Перадача водных аб'ектаў (іх частак) у арэнду павінна ажыццяўляцца з улікам інтарэсаў насельніцтва, якое пражывае на тэрыторыі, што прылягае да перадаваемага воднага аб'екта (яго часткі).

Не падлягаюць перадачы ў арэнду водныя аб'екты (іх часткі), якія выкарыстоўваюцца для пітных, бытавых і іншых патрэб насельніцтва, а таксама размешчаныя на тэрыторыі населеных пунктаў і (або) на асабліва ахоўваемых прыродных тэрыторыях, і ў іншых выпадках, прадугледжаных заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Парадак перадачы водных аб'ектаў (іх частак) у арэнду рэгулюецца гэтым Кодэксам, Законам Рэспублікі Беларусь «Аб арэндзе» і іншымі актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 29. Тэрміны водакарыстання**

Водныя аб'екты прадастаўляюцца толькі ў часовае водакарыстанне. Часовае водакарыстанне можа быць кароткатэрміновым — да пяці гадоў і доўгатэрміновым — ад пяці да дваццаці пяці гадоў.

Тэрмін водакарыстання ўстанаўліваецца органам, які выдаў дазвол на спецыяльнае водакарыстанне ці прадаставіў водны аб'ект у адасобленае водакарыстанне або арэнду.

**Артыкул 30. Парадак прадаўжэння тэрміну часовага водакарыстання**

Тэрмін часовага водакарыстання можа быць прадоўжаны на перыяд, які не перавышае адпаведна тэрміну кароткатэрміновага ці доўгатэрміновага водакарыстання.

Прадаўжэнне тэрміну часовага водакарыстання праводзіцца па хадайніцтвах водакарыстальнікаў органамі дзяржаўнага кіравання, якія выдалі дазвол на спецыяльнае водакарыстанне або вынеслі рашэнне аб прадастаўленні воднага аб'екта ў адасобленае водакарыстанне.

### ГЛАВА 7. Правы і абавязкі водакарыстальнікаў

**Артыкул 31. Асноўныя правы водакарыстальнікаў**

Водакарыстальнікі маюць права:

ажыццяўляць агульнае, спецыяльнае, адасобленае, сумеснае або на ўмовах арэнды водакарыстанне воднымі аб'ектамі для задавальнення пітных, гаспадарча-бытавых, сельскагаспадарчых, прамысловых і іншых патрэбнасцей ў адпаведнасці з умовамі іх прадастаўлення;

узводзіць у парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, водагаспадарчыя збудаванні і ўстройствы, ажыццяўляць іх рэканструкцыю;

перадаваць для выкарыстання здабытую ваду іншым водакарыстальнікам (водаспажыўцам) на ўмовах, узгодненых з органамі дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя, якія прадаставілі права спецыяльнага водакарыстання, і мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі;

атрымліваць ва ўстаноўленым парадку інфармацыю аб стане водных аб'ектаў, неабходную для ажыццяўлення сваёй дзейнасці;

ажыццяўляць іншыя прадугледжаныя заканадаўствам Рэспублікі Беларусь дзеянні, звязаныя з карыстаннем воднымі аб'ектамі.

**Артыкул 32. Абавязкі водакарыстальнікаў**

Водакарыстальнікі абавязаны:

выкарыстоўваць водныя аб'екты ў мэтах, для якіх яны прадастаўлены, і захоўваць устаноўленыя ўмовы водакарыстання;

рацыянальна выкарыстоўваць водныя рэсурсы, праводзіць неабходныя работы па захаванню і паляпшэнню якасці вод, аднаўленню водных аб'ектаў;

весці ўлік колькасці забіраемых і выкарыстоўваемых вод, ажыццяўляць кантроль за якасцю забіраемай вады і адводзімых у водныя аб'екты сцёкавых вод, а таксама прадстаўляць ва ўстаноўленым парадку справаздачы адпаведным органам;

не дапускаць парушэння правоў іншых водакарыстальнікаў, а таксама нанясення шкоды гаспадарчым аб'ектам і навакольнаму асяроддзю;

захоўваць устаноўлены рэжым утрымання зон і акруг санітарнай аховы крыніц гаспадарча-пітнога і лячэбнага водазабеспячэння, водаахоўных зон і прыбярэжных палос водных аб'ектаў;

утрымліваць у належным стане ачышчальныя і іншыя водагаспадарчыя збудаванні і ўстройствы і захоўваць устаноўленыя правілы іх эксплуатацыі;

праводзіць узгодненыя ва ўстаноўленым парадку мерапрыемствы па ахове вод ад вычарпання і паляпшэнню іх стану;

своечасова інфармаваць мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы, органы дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя, органы дзяржаўнага санітарнага нагляду аб узнікненні аварый і іншых надзвычайных сітуацыях, якія ўплываюць на стан водных аб'ектаў, і ажыццяўляць неадкладныя работы па ліквідацыі іх вынікаў;

бесперашкодна дапускаць на свае аб'екты прадстаўнікоў спецыяльна ўпаўнаважаных органаў дзяржаўнага кіравання, якія ажыццяўляюць дзяржаўны кантроль за выкарыстаннем і аховай вод, і прадстаўляць ім бязвыплатна неабходную інфармацыю;

своечасова ўносіць плату за водакарыстанне ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь;

выконваць іншыя абавязкі па выкарыстанню і ахове вод у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

### ГЛАВА 8. Падставы і парадак абмежавання або спынення права водакарыстання

**Артыкул 33. Абмежаванне або спыненне правоў водакарыстальнікаў**

Правы водакарыстальнікаў могуць быць абмежаваны або спынены мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі пры ўзнікненні або пагрозе ўзнікнення эпідэмій і эпізаотый, аварыйных сітуацый і ў іншых выпадках, вызначаных заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, у мэтах аховы здароўя насельніцтва, а таксама ў іншых дзяржаўных інтарэсах або інтарэсах іншых водакарыстальнікаў. Пры гэтым перавага ў выкарыстанні вод аддаецца забеспячэнню насельніцтва вадой для пітных і бытавых патрэб.

Спыненне права водакарыстання пры ажыццяўленні неадкладных мер па папярэджанню і ліквідацыі вынікаў стыхійных бедстваў праводзіцца ў парадку, прадугледжаным артыкулам 35 гэтага Кодэкса.

Правы водакарыстальнікаў могуць быць абмежаваны на:

адасобленае водакарыстанне водным аб'ектам — органам дзяржаўнага кіравання, які прадаставіў водны аб'ект у адасобленае водакарыстанне;

спецыяльнае водакарыстанне — органам дзяржаўнага кіравання, які выдаў дазвол на спецыяльнае водакарыстанне;

другаснае водакарыстанне — першасным водакарыстальнікам па ўзгадненню з адпаведным органам дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя.

Права агульнага водакарыстання можа быць спынена або абмежавана ў адпаведнасці з часткай другой артыкула 23 гэтага Кодэкса.

**Артыкул 34. Падставы спынення права водакарыстання**

Права водакарыстання юрыдычных і фізічных асоб падлягае спыненню ў выпадках:

калі міне патрэба ў водакарыстанні або адмовы ад яго;

сканчэння тэрміну водакарыстання;

ліквідацыі юрыдычнай асобы, якой было прадастаўлена права водакарыстання;

перадачы водагаспадарчых збудаванняў і ўстройстваў іншым водакарыстальнікам;

узнікнення дзяржаўнай неабходнасці адабрання водных аб'ектаў з адасобленага водакарыстання.

Права водакарыстання юрыдычных і фізічных асоб, акрамя права карыстання водамі для пітных і бытавых патрэб насельніцтва, можа быць спынена таксама ў выпадках парушэння правіл і ўмоў карыстання і аховы водных аб'ектаў ці нямэтавага іх выкарыстання.

Заканадаўствам Рэспублікі Беларусь могуць быць прадугледжаны і іншыя падставы для спынення права водакарыстання юрыдычных і фізічных асоб.

**Артыкул 35. Парадак спынення права водакарыстання**

Права водакарыстання спыняецца шляхам:

анулявання дазволу на спецыяльнае або другаснае водакарыстанне;

адабрання водных аб'ектаў, прадастаўленых у адасобленае водакарыстанне або арэнду.

Спыненне права на спецыяльнае водакарыстанне ажыццяўляецца па рашэнню органа дзяржаўнага кіравання, які выдаў дазвол на яго.

Права на другаснае водакарыстанне можа быць спынена па рашэнню першаснага водакарыстальніка, узгодненаму з органам дзяржаўнага кіравання, які выдаў дазвол на спецыяльнае водакарыстанне або прадаставіў вадаём у адасобленае водакарыстанне.

Адабранне водных аб'ектаў, прадастаўленых у адасобленае водакарыстанне, можа быць праведзена па рашэнню органаў дзяржаўнага кіравання, якія прадаставілі іх у адасобленае водакарыстанне.

### ГЛАВА 9. Карыстанне воднымі аб'ектамі для пітных, гаспадарча-бытавых і іншых патрэб насельніцтва

**Артыкул 36. Водныя аб'екты, якія прадастаўляюцца для пітных, гаспадарча-бытавых і іншых патрэб насельніцтва**

Для пітных, гаспадарча-бытавых і іншых патрэб насельніцтва прадастаўляюцца водныя аб'екты, якасць вады якіх адпавядае дзеючым санітарным нормам і правілам.

**Артыкул 37. Вада, якая выкарыстоўваецца для задавальнення пітных і гаспадарча-бытавых патрэб насельніцтва**

Вада, якая выкарыстоўваецца для задавальнення пітных і гаспадарча-бытавых патрэб насельніцтва, павінна адпавядаць якасным характарыстыкам, прадугледжаным дзеючымі санітарнымі нормамі і правіламі.

У выпадку неадпаведнасці якасных характарыстык вады дзеючым санітарным нормам і правілам яе выкарыстанне спыняецца па рашэнню органаў дзяржаўнага санітарнага нагляду.

Водаспажыўцы маюць права патрабаваць ад уласніка вады (водапастаўшчыка) звесткі аб якасці пітной вады, якая выкарыстоўваецца для задавальнення пітных і гаспадарча-бытавых патрэб.

**Артыкул 38. Цэнтралізаванае водазабеспячэнне насельніцтва**

Юрыдычныя асобы пры карыстанні воднымі аб'ектамі для забеспячэння насельніцтва вадой для пітных, гаспадарча-бытавых і іншых патрэб у парадку цэнтралізаванага водазабеспячэння маюць права забіраць ваду з крыніц водазабеспячэння ў адпаведнасці з дазволамі на спецыяльнае водакарыстанне для атрымання вады пітной якасці і падачы яе спажыўцам.

Юрыдычныя асобы пры карыстанні воднымі аб'ектамі абавязаны весці пастаянныя назіранні за якасцю вады і яе колькасцю ў крыніцах і сістэмах водазабеспячэння і паведамляць мясцовым выканаўчым і распарадчым органам, органам дзяржаўнага санітарнага нагляду і органам дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя аб адхіленні паказчыкаў якасці вады ад дзеючых санітарных норм і правіл.

Кантроль за якасцю вады, якая выкарыстоўваецца для цэнтралізаванага водазабеспячэння насельніцтва, ажыццяўляецца органамі дзяржаўнага санітарнага нагляду ў парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 39. Нецэнтралізаванае водазабеспячэнне насельніцтва**

Юрыдычныя і фізічныя асобы пры карыстанні воднымі аб'ектамі для забеспячэння пітных, гаспадарча-бытавых і іншых патрэб насельніцтва ў парадку нецэнтралізаванага водазабеспячэння маюць права забіраць ваду з паверхневых або падземных крыніц у парадку агульнага або спецыяльнага водакарыстання.

Кантроль за якасцю вады, якая выкарыстоўваецца для нецэнтралізаванага водазабеспячэння насельніцтва, ажыццяўляецца органамі дзяржаўнага санітарнага нагляду ў парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 40. Выкарыстанне падземных вод пітной якасці для мэт, не звязаных з задавальненнем пітных, гаспадарча-бытавых і іншых патрэб насельніцтва**

Выкарыстанне падземных вод пітной якасці для мэт, не звязаных з задавальненнем пітных, гаспадарча-бытавых і іншых патрэб насельніцтва, а таксама задавальненнем патрэбнасцей харчовай прамысловасці і жывёлагадоўлі, як правіла, не дапускаецца.

У раёнах, дзе адсутнічаюць неабходныя паверхневыя водныя крыніцы і ёсць дастатковыя запасы падземных вод пітной якасці, органы дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя могуць дазваляць выкарыстанне гэтых вод для мэт, не звязаных з пітным або гаспадарча-бытавым водазабеспячэннем насельніцтва, задавальненнем патрэбнасцей харчовай прамысловасці і жывёлагадоўлі.

### ГЛАВА 10. Карыстанне воднымі аб'ектамі для лячэбных, курортных, аздараўленчых, спартыўных, рэкрэацыйных і проціпажарных мэт

**Артыкул 41. Карыстанне воднымі аб'ектамі для лячэбных, курортных і аздараўленчых мэт**

Водныя аб'екты, аднесеныя ў парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, да катэгорыі лячэбных, выкарыстоўваюцца толькі для лячэбных, курортных і аздараўленчых мэт.

Адвядзенне сцёкавых вод у водныя аб'екты, аднесеныя да катэгорыі лячэбных, забараняецца.

У мэтах аховы ад забруджання і засмечвання водных аб'ектаў, аднесеных да катэгорыі лячэбных, устанаўліваюцца акругі санітарнай аховы са спецыяльным рэжымам у парадку, вызначаным Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 42. Карыстанне воднымі аб'ектамі для рэкрэацыйных і спартыўных мэт**

Карыстанне воднымі аб'ектамі для рэкрэацыйных і спартыўных мэт дапускаецца ў парадку агульнага водакарыстання.

Водныя аб'екты выкарыстоўваюцца для масавага адпачынку і спорту ў месцах, устаноўленых мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі па ўзгадненню з органамі дзяржаўнага санітарнага нагляду, а на суднаходных шляхах — па ўзгадненню з органамі дзяржаўнага кіравання суднаходствам.

Карыстанне воднымі аб'ектамі для рэкрэацыйных і спартыўных мэт можа быць забаронена або абмежавана ў адпаведнасці з часткай другой артыкула 23 гэтага Кодэкса.

**Артыкул 43. Карыстанне воднымі аб'ектамі для проціпажарных мэт**

Забор вады для проціпажарных мэт дапускаецца з любых водных аб'ектаў. Забор вады праводзіцца без асобага на тое дазволу бясплатна і ў колькасці, неабходнай для ліквідацыі пажару.

Забараняецца выкарыстоўваць не па прамому прызначэнню ваду з водных аб'ектаў, спецыяльна прызначаных для проціпажарных патрэб.

Кантроль за захаваннем парадку карыстання воднымі аб'ектамі, спецыяльна прызначанымі для проціпажарных патрэб, ажыццяўляюць мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы і дзяржаўныя органы пажарнага нагляду.

### ГЛАВА 11. Карыстанне воднымі аб'ектамі для патрэб сельскай гаспадаркі

**Артыкул 44. Водакарыстанне для патрэб сельскай гаспадаркі**

Карыстанне воднымі аб'ектамі для патрэб сельскай гаспадаркі ажыццяўляецца ў парадку як агульнага, так і спецыяльнага водакарыстання.

Пры водакарыстанні юрыдычныя і фізічныя асобы могуць прымяняць асушальныя, абвадняльныя, арашальныя і іншыя гідратэхнічныя збудаванні і ўстройствы для стварэння найбольш спрыяльнага воднага рэжыму на землях сельскагаспадарчага прызначэння.

**Артыкул 45. Абавязкі водакарыстальнікаў у сельскай гаспадарцы**

Юрыдычныя і фізічныя асобы, якія карыстаюцца воднымі аб'ектамі для патрэб сельскай гаспадаркі, абавязаны захоўваць устаноўленыя ліміты, правілы і рэжым водакарыстання, прымаць меры па скарачэнню страт вады ў меліярацыйных сістэмах, папярэджанню нерацыянальнага адвядзення вады з іх, недапушчэнню пападання рыбы ў меліярацыйныя сістэмы з рыбагаспа-

**(Працяг на 7-й стар.)**

# ВОДНЫ КОДЭКС РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ



(Працяг. Пачатак на 6-й стар.)

дарчых водных аб'ектаў і недапушчэнню забруджання і (або) засмечвання водных аб'ектаў і вадазбораў.

Вадапой і прагон жывёлы, праезд сельскагаспадарчых машын і транспартных сродкаў праз каналы і іншыя водагаспадарчыя збудаванні і ўстройствы далускаюцца толькі ў месцах, прадугледжаных ва ўстаноўленым парадку для гэтых мэт.

**Артыкул 46. Арашэнне сцёкавымі водамі**

Арашэнне зямель сельскагаспадарчага прызначэння сцёкавымі водамі дазваляецца органамі дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя па ўзгадненню з органамі дзяржаўнага санітарнага нагляду, органамі дзяржаўнага ветэрынарнага нагляду і іншымі ўпаўнаважанымі на тое органамі дзяржаўнага кіравання ў парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

## ГЛАВА 12. Карыстанне воднымі аб'ектамі для прамысловых мэт і патрэб гідраэнергетыкі

**Артыкул 47. Карыстанне воднымі аб'ектамі для прамысловых мэт**

Юрыдычныя і фізічныя асобы, якія карыстаюцца воднымі аб'ектамі для прамысловых мэт, абавязаны захоўваць устаноўленыя для іх умовы водакарыстання, а таксама прымаць меры па скарачэнню расходу вады (асабліва пітной) і колькасці сцёкавых вод шляхам удасканальвання сістэм водазабеспячэння, прымянення маловодных і бязводных тэхналагічных працэсаў і іншых тэхнічных прыёмаў.

**Артыкул 48. Абмежаванне або забарона выкарыстання пітной вады для прамысловых мэт**

Выкарыстанне пітной вады з камунальных і ведамасных гаспадарча-пітных водаправодаў для прамысловых мэт можа быць абмежавана або забаронена мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі ў выпадках стыхійных бедстваў, аварый або ў іншых выключных абставінах, а таксама пры неэфектыўнай рабоце збудаванняў па ачыстцы сцёкавых вод, перарасходзе прадпрыемствам устаноўленага ліміту спажывання вады пітной якасці ў інтарэсах першачарговага задавальнення пітных і гаспадарча-бытавых патрэб насельніцтва.

Ліміт спажывання пітной вады для прамысловых мэт з камунальных і ведамасных гаспадарча-пітных водаправодаў устанаўліваецца мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі.

**Артыкул 49. Выкарыстанне падземных вод для тэхнічнага водазабеспячэння і іншых вытворчых патрэб**

Падземныя воды (прэсныя, мінеральныя, тэрмальныя), не аднесеныя да катэгорыі пітных або лячэбных вод, могуць ва ўстаноўленым парадку выкарыстоўвацца для тэхнічнага водазабеспячэння, здабывання хімічных элементаў, якія ўтрымліваюцца ў іх, атрымання цеплавой энергіі і іншых вытворчых патрэб з захаваннем патрабаванняў рацыянальнага выкарыстання і аховы вод.

**Артыкул 50. Карыстанне воднымі аб'ектамі для патрэб гідраэнергетыкі**

Карыстанне воднымі аб'ектамі для патрэб гідраэнергетыкі ажыццяўляецца з улікам інтарэсаў іншых водакарыстальнікаў і насельніцтва тэрыторый, якія прылягаюць да гідраэнергетычных аб'ектаў.

Гідраэнергетычныя прадпрыемствы, якія эксплуатуюць гідраэнергетычныя і гідратэхнічныя збудаванні на вадасховішчах і іншых вадаёмах, абавязаны забяспечыць рэжым спрацоўкі вадасховішчаў, захоўваючы прыярытэт пітнога і гаспадарча-бытавога водазабеспячэння, а таксама патрэбнасцей рыбнай гаспадаркі.

## ГЛАВА 13. Карыстанне воднымі аб'ектамі для патрэб воднага і паветранага транспарту і лесасплаву

**Артыкул 51. Карыстанне воднымі аб'ектамі для патрэб воднага транспарту**

Рэкі, азёры, вадасховішчы, каналы і іншыя водныя аб'екты з'яўляюцца воднымі шляхамі агульнага карыстання, за выключэннем выпадкаў, калі іх выкарыстанне ў гэтых мэтах поўнасцю або часткова забаронена ці яны прадастаўлены ў адасобленае водакарыстанне.

Парадак аднясення водных шляхоў да катэгорыі суднаходных, а таксама ўстанаўлення правіл эксплуатацыі гэтых шляхоў вызначаецца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Юрыдычныя і фізічныя асобы, якія карыстаюцца воднымі суднаходнымі шляхамі для патрэб гідраэнергетыкі, рыбнай гаспадаркі, адпачынку, спорту і іншых патрэб, абавязаны выконваць патрабаванні органаў дзяржаўнага кіравання суднаходствам.

**Артыкул 52. Карыстанне воднымі аб'ектамі для лесасплаву**

Шарашовы сплаў лесу, а таксама сплаў лесу ў плытах без суднавай цягі на водных аб'ектах, якія выкарыстоўваюцца для суднаходства, забараняецца.

Сплаў лесу ў плытах з суднавай цягай ажыццяўляецца па ўзгадненню з органамі дзяржаўнага кіравання суднаходствам.

Юрыдычныя і фізічныя асобы, якія ажыццяўляюць лесасплаў, абавязаны рэгулярна праводзіць ачыстку водных аб'ектаў ад затанулай драўніны ў парадку, што ўстанаўліваецца органамі дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя.

**Артыкул 53. Карыстанне воднымі аб'ектамі для плавання на маламерных суднах**

Карыстанне воднымі аб'ектамі для плавання на маламерных суднах (вёславых і маторных лодках, катэрах, парусных яхтах і да т.п.) дазваляецца ў парадку, устаноўленым мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі па ўзгадненню з органамі дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя і органамі дзяржаўнага кіравання суднаходствам.

**Артыкул 54. Карыстанне воднымі аб'ектамі для патрэб паветранага транспарту**

Карыстанне воднымі аб'ектамі для ўзлёту, пасадкі і стаянкі паветраных суднаў ажыццяўляецца па ўзгадненню з мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі ў парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь. У выпадку неабходнасці яно можа быць часткова або поўнасцю забаронена мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі па прадстаўленню органаў дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя і органаў дзяржаўнага кіравання суднаходствам.

## ГЛАВА 14. Карыстанне воднымі аб'ектамі для вядзення рыбнай і паляўнічай гаспадаркі, аматарскага рыбалоўства, а таксама аб'ектамі, якія знаходзяцца на асабліва ахоўваемых прыродных тэрыторыях

**Артыкул 55. Карыстанне воднымі аб'ектамі для прамысловай лоўлі рыбы і здабычы водных беспазваночных**

Юрыдычныя і фізічныя асобы, якія ажыццяўляюць прамысловую лоўлю рыбы і здабычу водных беспазваночных, па ўзгадненню з органамі дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя і спецыяльна ўпаўнаважанымі органамі па ахове рыбных запасаў абавязаны праводзіць рыбаахоўныя, рыбаводныя і меліярацыйна-тэхнічныя мерапрыемствы, якія забяспечваюць паляпшэнне стану водных аб'ектаў і ўмоў узнаўлення рыбных запасаў, а таксама ўтрымліваць у належным санітарным стане берагавыя ўчасткі ў месцах лоўлі рыбы і іншага воднага промыслу.

Парадак карыстання воднымі аб'ектамі для прамысловай лоўлі рыбы і здабычы водных беспазваночных устанаўліваецца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 56. Абмежаванне водакарыстання на рыбагаспадарчых водных аб'ектах**

На рыбагаспадарчых водных аб'ектах або асобных іх участках, якія маюць асабліва важнае значэнне для захавання і ўзнаўлення каштоўных відаў рыб і іншых аб'ектаў воднага промыслу, правы водакарыстальнікаў згодна з артыкулам 33 гэтага Кодэкса могуць быць абмежаваны органамі дзяржаўнага кіравання ў інтарэсах рыбнай гаспадаркі або іншага воднага промыслу.

Пералік рыбагаспадарчых водных аб'ектаў або асобных іх участкаў і віды абмежаванняў водакарыстання вызначаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь або ўпаўнаважаным ім на тое органам дзяржаўнага кіравання.

**Артыкул 57. Карыстанне воднымі аб'ектамі для аматарскай лоўлі рыбы і здабычы водных беспазваночных для асабістага спажывання**

Аматарская лоўля рыбы і здабыча водных беспазваночных для асабістага спажывання могуць ажыццяўляцца грамадзянамі на ўсіх водных аб'ектах, за выключэннем запаведнікаў, рыбагадавальнікаў, сажалкавых і іншых культурных рыбных гаспадарак, водных аб'ектаў, перададзеных у арэнду, а таксама зон санітарнай аховы крыніц гаспадарча-пітнога водазабеспячэння і іншых асабліва ахоўваемых тэрыторый, з захаваннем імі ўстаноўленага парадку рыбалоўства і водакарыстання.

**Артыкул 58. Карыстанне воднымі аб'ектамі для вядзення паляўнічай гаспадаркі**

Водныя аб'екты, якія з'яўляюцца месцамі пражывання дзікіх вадаплаўных птушак і пушных звяроў, прадастаўляюцца ў карыстанне пераважна паляўнічым гаспадаркам з улікам інтарэсаў іншых водакарыстальнікаў.

Карыстанне воднымі аб'ектамі для вядзення паляўнічай гаспадаркі (развядзенне вадаплаўных птушак і пушных звяроў, культываванне раслін і правядзенне іншых мерапрыемстваў) ажыццяўляецца па ўзгадненню з органамі дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя, органамі дзяржаўнага санітарнага нагляду і іншымі зацікаўленымі органамі дзяржаўнага кіравання.

Парадак карыстання воднымі аб'ектамі для вядзення паляўнічай гаспадаркі ўстанаўліваецца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 59. Выкарыстанне водных аб'ектаў, якія маюць асаблівае дзяржаўнае значэнне ці асаблівую навуковую, культурную або іншую каштоўнасць**

Выкарыстанне водных аб'ектаў, якія маюць асаблівае дзяржаўнае значэнне ці асаблівую навуковую, культурную або іншую каштоўнасць, можа быць часткова або поўнасцю забаронена ў парадку, устаноўленым Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 60. Карыстанне воднымі аб'ектамі, якія знаходзяцца на асабліва ахоўваемых прыродных тэрыторыях**

Водныя аб'екты, якія знаходзяцца на асабліва ахоўваемых прыродных тэрыторыях, а таксама ўяўляюць асаблівую прыродаахоўную, навуковую, культурную і (або) іншую каштоўнасць, аб'яўляюцца асабліва ахоўваемымі ў парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Парадак карыстання воднымі аб'ектамі, указанымі ў частцы першай гэтага артыкула, вызначаецца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

## ГЛАВА 15. Карыстанне воднымі аб'ектамі для адвядзення сцёкавых, дрэнажных і кар'ерных (шахтавых, рудніковых) вод

**Артыкул 61. Карыстанне воднымі аб'ектамі для адвядзення сцёкавых вод**

Карыстанне воднымі аб'ектамі для адвядзення сцёкавых вод можа ажыццяўляцца толькі на падставе дазволаў на спецыяльнае водакарыстанне, што выдаюцца органамі дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя па ўзгадненню з органамі дзяржаўнага санітарнага нагляду і іншымі зацікаўленымі органамі дзяржаўнага кіравання.

Забараняецца адвядзенне сцёкавых вод у:

водныя аб'екты, якія ўтрымліваюць прыродныя лячэбныя рэсурсы;

водныя аб'екты, аднесеныя да асабліва ахоўваемых;

першы пояс зон санітарнай аховы крыніц гаспадарча-пітнога водазабеспячэння;

месцы нерасту і зімоўкі каштоўных і асабліва ахоўваемых відаў рыб;

месцы пражывання водных і каляводных жывёл, занесеных у Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь.

Адвядзенне сцёкавых вод з выкарыстаннем рэльефу мясцовасці (лагчын, яроў, кар'ераў, балот) забараняецца.

**Артыкул 62. Умовы адвядзення сцёкавых вод у водныя аб'екты**

Адвядзенне сцёкавых вод у водныя аб'екты дапускаецца толькі ў выпадку, калі яно не прывядзе да перавышэння ўстаноўленых норм гранічна дапушчальных канцэнтрацый рэчываў у водным аб'екце, і (або) пры ўмове ачысткі водакарыстальнікам сцёкавых вод да меж, устаноўленых органамі дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя.

Адвядзенне ў водныя аб'екты сцёкавых вод, якія ўтрымліваюць узбуджальнікаў інфекцыйных захворванняў, не дапускаецца.

Скід у водныя аб'екты рэчываў, для якіх не ўстаноўлены гранічна дапушчальныя канцэнтрацыі іх утрымання ў водным аб'екце, забараняецца. Скід такіх рэчываў у выключных выпадках можа быць дазволены рэспубліканскім органам дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя і органам дзяржаўнага санітарнага нагляду пры ўмове, што на працягу ўстаноўленага імі перыяду гэтыя нарматывы будуць распрацаваны і зацверджаны. Заказчыкамі на распрацоўку нарматываў гранічна дапушчальных канцэнтрацый такіх рэчываў у водным аб'екце з'яўляюцца юрыдычныя асобы, якія ажыццяўляюць іх скід.

Пры парушэнні ўказаных у гэтым артыкуле патрабаванняў адвядзенне сцёкавых вод можа быць абмежавана, прыпынена або забаронена органамі дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя ў парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

У выпадках, якія пагражаюць бяспецы і здароўю насельніцтва, органы дзяржаўнага санітарнага нагляду маюць права неадкладна прыпыніць адвядзенне сцёкавых вод аж да спынення эксплуатацыі вытворчых і іншых аб'ектаў з паведамленнем аб гэтым мясцовым выканаўчым і распарадчым органам, а таксама органам дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя.

**Артыкул 63. Парадак і ўмовы адвядзення дрэнажных і кар'ерных (шахтавых, рудніковых) вод у водныя аб'екты**

Адвядзенне дрэнажных і кар'ерных (шахтавых, рудніковых) вод у водныя аб'екты дапускаецца на ўмовах, устаноўленых органамі дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя па ўзгадненню з органамі дзяржаўнага санітарнага нагляду.

Юрыдычныя і фізічныя асобы, якія эксплуатуюць дрэнажныя сістэмы, а таксама адпампоўваюць з нетраў у час здабычы карысных выкапняў кар'ерныя (шахтавыя, рудніковыя) воды, абавязаны ўкараняць эфектыўныя тэхналогіі, што забяспечваюць зніжэнне ўзроўню прыроднага і тэхнагеннага забруджання дрэнажных і кар'ерных (шахтавых, рудніковых) вод перад адвядзеннем іх у водныя аб'екты.

**Артыкул 64. Накапляльнікі прамысловых забруджаных сцёкавых або кар'ерных (шахтавых, рудніковых) вод і тэхналагічныя вадаёмы**

Юрыдычныя і фізічныя асобы, якія эксплуатуюць накапляльнікі прамысловых забруджаных сцёкавых або кар'ерных (шахтавых, рудніковых) вод, абавязаны ўкараняць эфектыўныя тэхналогіі для іх абясшкоджання і утылізацыі, а таксама ажыццяўляць рэкультывацыю зямель, занятых гэтымі накапляльнікамі. Адвядзенне гэтых вод у водныя аб'екты можа ажыццяўляцца па дазволу, які выдаецца органамі дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя па ўзгадненню з органамі дзяржаўнага санітарнага нагляду.

Эксплуатацыя тэхналагічных вадаёмаў (сажалак-ахаладжальнікаў цеплавых і атамных станцый, рыбаводных сажалак і іншых) ажыццяўляецца ў адпаведнасці з нормамі і правіламі, вызначанымі ў тэхнічных праектах, зацверджаных у парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 65. Парадак захавання сцёкавых вод у нетры**

Захаванне ў нетры сцёкавых вод, спадарожных пластавых вод нафтагазавых радовішчаў або шахтавых (рудніковых) і тэрмальных вод, якія не паддаюцца ачыстцы існуючымі сродкамі, дапускаецца ў выключных выпадках па праектах пасля правядзення спецыяльных даследаванняў.

Парадак захавання сцёкавых вод у нетры ўстанаўліваецца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь аб нетрах.

## ГЛАВА 16. Эксплуатацыя водагаспадарчых сістэм

**Артыкул 66. Парадак эксплуатацыі водагаспадарчых сістэм**

Парадак эксплуатацыі водагаспадарчых сістэм (вадасховішчаў, каналаў і іншых звязаных паміж сабой водных аб'ектаў) устанаўліваецца з улікам інтарэсаў усіх водакарыстальнікаў і землекарыстальнікаў адпаведнымі правіламі эксплуатацыі, узгодненымі з органамі дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя і органамі дзяржаўнага санітарнага нагляду.

**Артыкул 67. Парадак эксплуатацыі вадасховішчаў і сажалак**

Парадак эксплуатацыі вадасховішчаў і сажалак вызначаецца правіламі, якія зацвярджаюцца водагаспадарчымі арганізацыямі па ўзгадненню з органамі дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя і органамі дзяржаўнага санітарнага нагляду.

**Артыкул 68. Азёры і іншыя вадаёмы, якія выкарыстоўваюцца ў якасці вадасховішчаў і сажалак**

Эксплуатацыя азёр і іншых вадаёмаў, якія выкарыстоўваюцца ў якасці вадасховішчаў і сажалак, праводзіцца ў парадку, вызначаным артыкуламі 66 і 67 гэтага Кодэкса.

# РАЗДЗЕЛ V. АХОВА ВОД

## ГЛАВА 17. Ахова вод (водных аб'ектаў) ад забруджання, засмечвання і вычарпання

**Артыкул 69. Агульныя патрабаванні да аховы вод (водных аб'ектаў)**

Усе воды (водныя аб'екты) падлягаюць ахове ад забруджання, засмечвання, вычарпання і іншых шкодных уздзеянняў, якія могуць пагоршыць умовы водазабеспячэння, прывесці да змяншэння рыбных і іншых запасаў воднага промыслу, пагаршэння ўмоў існавання дзікіх жывёл, зніжэння ўрадлівасці зямель і іншых неспрыяльных з'яў з прычыны змянення фізічных, хімічных і біялагічных паказчыкаў якасці вод, зніжэння іх здольнасці да натуральнага ачышчэння, парушэння гідралагічнага і гідрагеалагічнага рэжымаў.

**Артыкул 70. Абавязкі юрыдычных і фізічных асоб па ахове вод**

Юрыдычныя і фізічныя асобы, дзейнасць якіх уплывае на стан вод, абавязаны праводзіць узгодненыя з органамі дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя, органамі дзяржаўнага санітарнага нагляду і іншымі зацікаўленымі органамі дзяржаўнага кіравання мерапрыемствы, што забяспечваюць ахову вод ад забруджання, засмечвання і вычарпання, паляпшэнне стану і рэжыму вод, а таксама не дапускаць забруджання і засмечвання вод нафтавымі, хімічнымі і іншымі прадуктамі і адходамі вытворчасці і спажывання.

**Артыкул 71. Ахова водных аб'ектаў ад забруджання і засмечвання адходамі вытворчасці і спажывання, сцёкавымі водамі**

Адвядзенне ў водныя аб'екты адходаў вытворчасці і спажывання забараняецца.

Адвядзенне ў водныя аб'екты сцёкавых і іншых вод дапускаецца толькі з захаваннем патрабаванняў, прадугледжаных артыкуламі 61—64 гэтага Кодэкса.

**Артыкул 72. Ахова паверхні вадазбораў і ледзянога покрыва водных аб'ектаў**

Забруджанне і засмечванне паверхні вадазбораў і ледзянога покрыва водных аб'ектаў адходамі вытворчасці і спажывання, адкідамі, а таксама нафтавымі, хімічнымі і іншымі прадуктамі, якія могуць выклікаць пагаршэнне фізічных, хімічных і біялагічных паказчыкаў якасці вод, забараняецца.

**Артыкул 73. Ахова падземных вод**

Юрыдычныя і фізічныя асобы, дзейнасць якіх аказвае або можа аказаць шкодны ўплыў на стан падземных вод, абавязаны прымаць меры па папярэджанню і прадухіленню забруджання і вычарпання падземных вод, а таксама абсталяванню рэжымнай лакальнай сеткі назіральных свідравін для кантролю за станам падземных вод.

Рэжым эксплуатацыі збудаванняў для забору падземных вод павінен выключаць дачаснае вычарпанне запасаў і забяспечваць захаванне прыродных якасцей гэтых вод.

У выпадку раскрыцця падземных ваданосных гарызонтаў з вадой пітной якасці юрыдычныя і фізічныя асобы, якія праводзяць буравыя, горныя і іншыя работы, звязаныя з пошукам, разведкай і эксплуатацыяй радовішчаў карысных выкапняў, павінны прыняць меры па ахове падземных вод ад забруджання і паведаміць аб гэтым ва ўстаноўленым парадку органам дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя, органам дзяржаўнага кіравання па нагляду за бяспечным вядзеннем работ у прамысловасці і атамнай энергетыцы і органам дзяржаўнага санітарнага нагляду.

У месцах знаходжання радовішчаў падземных вод, якія выкарыстоўваюцца або могуць быць выкарыстаны для водазабеспячэння і лячэбных мэт, не дапускаецца ўстройства накапляльнікаў цвёрдых і вадкіх адходаў, палігонаў цвёрдых бытавых і прамысловых адходаў, а таксама размяшчэнне могілак, жывёльных могільнікаў і будаўніцтва іншых аб'ектаў, якія могуць быць крыніцай забруджання гэтых вод.

Усе свідравіны на ваду, якія не падлягаюць далейшаму выкарыстанню, карціровачныя, пошукавыя і разведачныя свідравіны на ўсе віды карысных выкапняў, а таксама вертыкальныя і іншыя горнапошукавыя і эксплуатацыйныя горныя вырабаткі, закінутыя калодзежы павінны быць ліквідаваны ва ўстаноўленым парадку.

Самавыцякаючыя свідравіны на ваду падлягаюць абсталяванню рэгулюючымі ўстройствамі, кансервацыі або ліквідацыі ў парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Ліквідацыю горных вырабатак і ліквідацыйны тампанаж свідравін любога прызначэння ажыццяўляюць арганізацыі, якія выконваюць іх праходку, а непрыгодных і закінутых эксплуатацыйных і назіральных свідравін і вырабатак — арганізацыі, на балансе якіх яны знаходзяцца.

У выпадку немагчымасці ўстанаўлення ўласніка закінутых свідравін і вырабатак іх ліквідацыя ажыццяўляецца па рашэнню мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў дзяржаўнымі геалагічнымі прадпрыемствамі за кошт мясцовых бюджэтаў.

Мерапрыемствы па ахове падземных вод, уключаючы стварэнне і эксплуатацыю рэжымнай лакальнай назіральнай сеткі свідравін, ажыццяўляюцца за кошт сродкаў юрыдычных і фізічных асоб, дзейнасць якіх аказвае шкодны ўплыў на стан падземных вод.

**Артыкул 74. Ахова і выкарыстанне крыніц**

Ахова крыніц (выхадаў падземных вод на паверхню) ажыццяўляецца ў парадку, устаноўленым для аховы малых рэк.

Крыніцы, якія маюць асаблівую прыродаахоўную, навуковую і (або) культурную і іншую каштоўнасць, аб'яўляюцца помнікамі прыроды рэспубліканскага або мясцовага значэння з устанаўленнем рэжыму аховы, прадугледжанага заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Крыніцы могуць выкарыстоўвацца ў рэкрэацыйных, навуковых, лячэбных, пазнавальных мэтах і для забору невялікай колькасці вады.

Любая гаспадарчая або іншая дзейнасць, здольная прывесці да знішчэння, нанясення шкоды, змянення крыніц, якія захаваліся ў натуральным стане, не дазваляецца.

## ГЛАВА 18. Водаахоўныя зоны і прыбярэжныя палосы, зоны санітарнай аховы

**Артыкул 75. Водаахоўныя зоны і прыбярэжныя палосы**

Для прадухілення забруджання, засмечвання і вычарпання водных аб'ектаў, а таксама захавання асяроддзя пражывання жывёльнага і расліннага свету на землях, прылеглых да рэчышчаў вадацёкаў або акваторый вадаёмаў, устанаўліваюцца водаахоўныя зоны. У межах водаахоўных зон выдзяляюцца прыбярэжныя палосы строгага ахоўнага рэжыму.

У водаахоўнай зоне рэк і вадаёмаў устанаўліваецца спецыяльны рэжым гаспадарчай дзейнасці.

Парадак устанаўлення памераў і меж водаахоўных зон і прыбярэжных палос і рэжым вядзення ў іх гаспадарчай дзейнасці вызначаюцца палажэннем, якое зацвярджаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Мясцовыя Саветы дэпутатаў, выканаўчыя і распарадчыя органы абавязаны даводзіць да ведама насельніцтва, усіх зацікаўленых юрыдычных асоб рашэнні аб межах водаахоўных зон і прыбярэжных палос, рэжыме гаспадарчай дзейнасці, які дзейнічае на гэтых тэрыторыях.

**Артыкул 76. Зоны санітарнай аховы**

У мэтах аховы водных аб'ектаў, якія выкарыстоўваюцца для гаспадарча-пітнога водазабеспячэння, у месцах водазабору ўстанаўліваюцца зоны санітарнай аховы.

Парадак вызначэння меж зон санітарнай аховы і рэжым вядзення ў іх гаспадарчай дзейнасці ўстанаўліваюцца палажэннем, якое зацвярджаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 77. Абмежаванне гаспадарчай дзейнасці ў прыбярэжных палосах**

Прыбярэжныя палосы з'яўляюцца прыродаахоўнай тэрыторыяй з рэжымам абмежаванай гаспадарчай дзейнасці.

У прыбярэжных палосах забараняецца:

Разворванне зямель, акрамя падрыхтоўкі глебы для залужэння і залесення;

садаводства і агародніцтва;

выпас жывёлы і арганізацыя летніх лагераў для яе;

захоўванне і прымяненне ядахімікатаў і мінеральных угнаенняў;

Размяшчэнне садаводчых таварыстваў, баз адпачынку, палатачных гарадкоў, стаянак аўтатранспарту і сельскагаспадарчай тэхнікі;

будаўніцтва будынкаў і збудаванняў, акрамя водазаборных, водарэгулюючых і іншых гідратэхнічных і гідраметрычных аб'ектаў;

мыццё і тэхнічнае абслугоўванне транспартных сродкаў і тэхнікі;

Размяшчэнне лодачных прычалаў за межамі адведзеных для гэтай мэты месцаў.

Заканадаўствам Рэспублікі Беларусь могуць быць устаноўлены і іншыя абмежаванні.

## ГЛАВА 19. Папярэджанне і ліквідацыя вынікаў шкоднага ўздзеяння вод і аварый на водных аб'ектах

**Артыкул 78. Абавязкі водакарыстальнікаў па папярэджанню і ліквідацыі вынікаў шкоднага ўздзеяння вод і аварый на водных аб'ектах**

Водакарыстальнікі абавязаны праводзіць узгодненыя з мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі, органамі дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя і іншымі зацікаўленымі органамі дзяржаўнага кіравання мерапрыемствы па папярэджанню і ліквідацыі шкоднага ўздзеяння вод у выпадках:

паводак, затапленняў і падтапленняў;

Разбурэння берагоў, ахоўных дамб і іншых збудаванняў;

забалочвання або засалення зямель;

эрозіі глеб, утварэння яроў, апоўзняў і іншых шкодных з'яў.

Пры аварыях на водных аб'ектах юрыдычныя і фізічныя асобы, па віне якіх адбылася аварыя, абавязаны неадкладна пачаць ліквідацыю аварыі і яе вынікаў і паведаміць аб ёй адпаведным мясцовым выканаўчым і распарадчым органам, органам дзяржаўнага кіравання

(Працяг на 8-й стар.)

# ВОДНЫ КОДЭКС РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

(Працяг. Пачатак на 5-й стар.)

па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя, органам дзяржаўнага санітарнага нагляду і органам дзяржаўнага кіравання па нагляду за бяспечным вядзеннем работ у прамысловасці і атамнай энергетыцы.

**Артыкул 79. Камісіі па папярэджанню і ліквідацыі вынікаў стыхійных бедстваў, выкліканых шкодным уздзеяннем вод, і аварый на водных аб'ектах**

У мэтах прыняцця неадкладных мер па папярэджанню і ліквідацыі вынікаў стыхійных бедстваў, выкліканых шкодным уздзеяннем вод, а таксама аварый на водных аб'ектах Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь і мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі могуць ствараццa спецыяльныя камісіі, якія ў межах сваіх паўнамоцтваў прымаюць рашэнні, што з'яўляюцца абавязковымі для ўсіх юрыдычных і фізічных асоб.

**Артыкул 80. Зоны надзвычайнай экалагічнай сітуацыі і экалагічнага бедства**

Водныя аб'екты (іх часткі), дзе ў выніку гаспадарчай ці іншай дзейнасці, стыхійнага бедства, катастрофы або аварыі адбываюцца ўстойлівыя адмоўныя змяненні стану вод, якія пагражаюць бяспецы і здароўю насельніцтва, стану прыродных экалагічных сістэм, прыроднаму генетычнаму фонду, аб'яўляюцца зонамі надзвычайнай экалагічнай сітуацыі ў парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Водныя аб'екты (іх часткі), дзе ў выніку гаспадарчай ці іншай дзейнасці, стыхійнага бедства, катастрофы або аварыі адбыліся глыбокія неабарачальныя змяненні, якія вядуць да істотнага пагаршэння здароўя насельніцтва, парушэння прыроднай раўнавагі, разбурэння прыродных экалагічных сістэм, прыроднага генетычнага фонду, дэградацыі глеб, флоры і фауны, аб'яўляюцца зонамі экалагічнага бедства ў парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Дзейнасць у зонах, указаных у частках першай і другой гэтага артыкула, а таксама фінансаванне мерапрыемстваў па аздараўленню гэтых зон ажыццяўляюцца ў парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

## РАЗДЗЕЛ VI. ЭКАНАМІЧНЫ МЕХАНІЗМ ЗАБЕСПЯЧЭННЯ РАЦЫЯНАЛЬНАГА ВЫКАРЫСТАННЯ І АХОВЫ ВОД

### ГЛАВА 20. Планаванне і фінансаванне мерапрыемстваў па рацыянальнаму выкарыстанню і ахове вод

**Артыкул 81. Асноўныя напрамкі эканамічнага рэгулявання рацыянальнага выкарыстання і аховы вод**

Эканамічны механізм рацыянальнага выкарыстання і аховы вод уключае:

планаванне і фінансаванне мерапрыемстваў па рацыянальнаму выкарыстанню і ахове вод;

устанаўленне лімітаў водакарыстання;

устанаўленне нарматываў платы за водакарыстанне і водаспажыванне;

устанаўленне нарматываў платы за скіды забруджвальных рэчываў у водныя аб'екты;

прадастаўленне юрыдычным і фізічным асобам падатковых, крэдытных і іншых ільгот пры ўкараненні імі малаадходных, безадходных, энерга- і рэсурсазберагаючых тэхналогій, правядзенні іншых мерапрыемстваў, якія даюць значны эфект у галіне рацыянальнага выкарыстання і аховы вод;

пакрыццё ва ўстаноўленым парадку ўрону, прычыненага водным аб'ектам і здароўю людзей з прычыны парушэння патрабаванняў воднага заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

Эканамічны механізм рацыянальнага выкарыстання і аховы вод можа ўключаць і іншыя напрамкі эканамічнага рэгулявання, якія вызначаюцца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 82. Планаванне, фінансаванне і рэалізацыя праграм і правядзенне мерапрыемстваў па рацыянальнаму выкарыстанню і ахове вод**

Рэспубліканскія органы дзяржаўнага кіравання, мясцовыя Саветы дэпутатаў, выканаўчыя і распарадчыя органы павінны ажыццяўляць распрацоўку праграм, планаванне мерапрыемстваў па рацыянальнаму выкарыстанню і ахове вод, а таксама распрацоўку адпаведных раздзелаў у прагнозах сацыяльна-эканамічнага развіцця.

Фінансаванне праграм і мерапрыемстваў па рацыянальнаму выкарыстанню і ахове вод праводзіцца за кошт:

рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў;

рэспубліканскага і мясцовых бюджэтных мэтавых фондаў аховы прыроды;

сродкаў юрыдычных і фізічных асоб;

крэдытаў банкаў;

добраахвотных узносаў юрыдычных і фізічных асоб, у тым ліку замежных, грамадскіх аб'яднанняў;

іншых крыніц.

Праграмы і мерапрыемствы па рацыянальнаму выкарыстанню і ахове вод з указаннем крыніц фінансавання і выканаўцаў узгадняюцца з рэспубліканскім органам дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя або яго тэрытарыяльнымі органамі ў адпаведнасці з іх паўнамоцтвамі і зацвярджаюцца мясцовымі Саветамі дэпутатаў, выканаўчымі і распарадчымі органамі і адпаведнымі рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання.

### ГЛАВА 21. Платнасць водакарыстання. Плацяжы, звязаныя з карыстаннем воднымі аб'ектамі

**Артыкул 83. Платнасць водакарыстання**

Водакарыстанне з'яўляецца платным, за выключэннем выпадкаў, прадугледжаных заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Унясенне платы за водакарыстанне не вызваляе водакарыстальнікаў ад выканання мерапрыемстваў па рацыянальнаму выкарыстанню і ахове вод і пакрыццю ўрону, прычыненага парушэннем воднага заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 84. Плацяжы, звязаныя з карыстаннем воднымі аб'ектамі**

Плацяжы, звязаныя з карыстаннем воднымі аб'ектамі, бяруцца ў форме падатку і (або) арэнднай платы. Плацельшчыкі падатку, аб'екты падаткаабкладання, ільготы па падатку, а таксама парадак выплаты падатку ўстанаўліваюцца падатковым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь. Арэндная плата вызначаецца дагаворам і зацвярджаецца мясцовымі Саветамі дэпутатаў, выканаўчымі і распарадчымі органамі.

## РАЗДЗЕЛ VII. КАНТРОЛЬ ЗА ВЫКАРЫСТАННЕМ І АХОВАЙ ВОД. ДЗЯРЖАЎНЫ МАНІТОРЫНГ ВОД. ДЗЯРЖАЎНЫ ЎЛІК ВОД І ДЗЯРЖАЎНЫ ВОДНЫ КАДАСТР. ВОДАГАСПАДАРЧЫЯ БАЛАНСЫ

### ГЛАВА 22. Кантроль за выкарыстаннем і аховай вод

**Артыкул 85. Сістэма кантролю за выкарыстаннем і аховай вод**

Сістэма кантролю за выкарыстаннем і аховай вод складаецца з дзяржаўнага, ведамаснага, вытворчага і грамадскага кантролю.

Галоўнай задачай кантролю за выкарыстаннем і аховай вод з'яўляецца забеспячэнне захавання юрыдычнымі і фізічнымі асобамі, у тым ліку замежнымі, патрабаванняў воднага заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 86. Дзяржаўны кантроль за выкарыстаннем і аховай вод**

Дзяржаўны кантроль за выкарыстаннем і аховай вод у межах сваёй кампетэнцыі ажыццяўляюць мясцовыя Саветы дэпутатаў, выканаўчыя і распарадчыя органы, органы дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя, органы дзяржаўнага санітарнага нагляду і органы дзяржаўнага кіравання па нагляду за бяспечным вядзеннем работ у прамысловасці і атамнай энергетыцы.

Парадак ажыццяўлення дзяржаўнага кантролю за выкарыстаннем і аховай вод устанаўліваецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 87. Ведамасны і вытворчы кантроль за выкарыстаннем і аховай вод**

Ведамасны кантроль за выкарыстаннем і аховай вод ажыццяўляецца рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання і аб'яднаннямі, падпарадкаванымі Ураду Рэспублікі Беларусь, у мэтах забеспячэння выканання падведамнымі прадпрыемствамі, установамі і арганізацыямі планаў, правядзення мерапрыемстваў па рацыянальнаму выкарыстанню і ахове вод, захавання воднага заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

Юрыдычныя і фізічныя асобы ў працэсе гаспадарчай дзейнасці абавязаны ажыццяўляць вытворчы кантроль за рацыянальным выкарыстаннем і аховай вод.

**Артыкул 88. Грамадскі кантроль за выкарыстаннем і аховай вод**

Грамадскі кантроль за выкарыстаннем і аховай вод маюць права ажыццяўляць грамадскія аб'яднанні ў парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, і грамадскія інспектары па ахове прыроды.

Парадак ажыццяўлення кантролю за выкарыстаннем і аховай вод грамадскімі інспектарамі і іх паўнамоцтвы вызначаюцца палажэннем аб грамадскіх інспектарах па ахове прыроды, якое зацвярджаецца рэспубліканскім органам дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя.

### ГЛАВА 23. Дзяржаўны маніторынг вод. Дзяржаўны ўлік вод і іх выкарыстання. Дзяржаўны водны кадастр

**Артыкул 89. Дзяржаўны маніторынг вод**

Дзяржаўны маніторынг вод з'яўляецца састаўной часткай дзяржаўнага маніторынгу навакольнага прыроднага асяроддзя і ўяўляе сабой сістэму рэгулярных назіранняў за гідралагічнымі, гідрахімічнымі і гідрабіялагічнымі паказчыкамі стану вод, якая забяспечвае збор, перадачу і апрацоўку атрыманай інфармацыі ў мэтах своечасовага выяўлення негатыўных працэсаў, прагназіравання іх развіцця, прадухілення шкодных вынікаў і вызначэння ступені эфектыўнасці мерапрыемстваў, накіраваных на рацыянальнае выкарыстанне і ахову вод.

Дзяржаўны маніторынг водных аб'ектаў вядзецца органамі дзяржаўнага кіравання па гідраметэаралогіі, органамі дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя і органамі дзяржаўнага кіравання па ахове здароўя.

**Артыкул 90. Дзяржаўны ўлік вод і іх выкарыстання**

Задачай дзяржаўнага ўліку вод і іх выкарыстання з'яўляецца атрыманне даных аб колькасці і якасці вод, а таксама даных аб іх выкарыстанні.

Дзяржаўны ўлік вод і іх выкарыстання ажыццяўляецца ў мэтах забеспячэння бягучага і перспектыўнага планавання рацыянальнага выкарыстання і аховы вод.

Дзяржаўнаму ўліку падлягаюць усе воды, якія складаюць водны фонд Рэспублікі Беларусь, а таксама выкарыстанне вод водакарыстальнікамі для пітных, гаспадарча-бытавых, лячэбных, аздараўленчых і іншых патрэб насельніцтва, а таксама сельскагаспадарчых, прамысловых, энергетычных, транспартных, рыбагаспадарчых і іншых патрэбнасцяў.

Дзяржаўны ўлік вод і іх выкарыстання ажыццяўляецца органамі дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя, органамі дзяржаўнага кіравання па гідраметэаралогіі і органамі дзяржаўнага санітарнага нагляду.

**Артыкул 91. Дзяржаўны водны кадастр**

Дзяржаўны водны кадастр змяшчае сістэматызаваныя даныя аб колькасці і якасці вод, а таксама аб іх выкарыстанні. Дзяржаўны водны кадастр грунтуецца на даных дзяржаўнага ўліку вод і іх выкарыстання і маніторынгу вод.

Дзяржаўны водны кадастр вядзецца рэспубліканскім органам дзяржаўнага кіравання па прыродных рэсурсах і ахове навакольнага асяроддзя сумесна з рэспубліканскім органам дзяржаўнага кіравання па гідраметэаралогіі і рэспубліканскім органам дзяржаўнага кіравання па ахове здароўя ў парадку, які вызначаецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

### ГЛАВА 24. Водагаспадарчыя балансы. Схемы комплекснага выкарыстання і аховы вод

**Артыкул 92. Водагаспадарчыя балансы**

Водагаспадарчыя балансы ўяўляюць сабой разліковыя матэрыялы, якія дазваляюць супаставіць патрэбнасць у вадзе з наяўнымі на дадзенай тэрыторыі воднымі рэсурсамі, і прызначаны для ацэнкі наяўнасці і ступені выкарыстання водных рэсурсаў, планавання і прыняцця рашэнняў па пытаннях выкарыстання і аховы вод.

Парадак складання водагаспадарчых балансаў вызначаецца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 93. Схемы комплекснага выкарыстання і аховы вод**

Схемы комплекснага выкарыстання і аховы вод уяўляюць сабой сістэматызаваныя матэрыялы даследаванняў і праектных распрацовак аб стане, перспектыўным выкарыстанні і ахове водных аб'ектаў.

Схемы комплекснага выкарыстання і аховы вод распрацоўваюцца ў мэтах вызначэння водагаспадарчых і іншых мерапрыемстваў для задавальнення перспектыўных патрэбнасцей насельніцтва і гаспадарчай дзейнасці ў водных рэсурсах, забеспячэння рацыянальнага выкарыстання і аховы вод, а таксама для прадухілення і ліквідацыі шкоднага ўздзеяння вод.

Парадак распрацоўкі, зацвярджэння і рэалізацыі схем комплекснага выкарыстання і аховы вод устанаўліваецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

## РАЗДЗЕЛ VIII. АДКАЗНАСЦЬ ЗА ПАРУШЭННЕ ВОДНАГА ЗАКАНАДАЎСТВА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ. ВЫРАШЭННЕ СПРЭЧАК У ГАЛІНЕ ВЫКАРЫСТАННЯ І АХОВЫ ВОД. ПАКРЫЦЦЁ ЎРОНУ

### ГЛАВА 25. Адказнасць за парушэнні воднага заканадаўства Рэспублікі Беларусь

**Артыкул 94. Парушэнне права ўласнасці на водны аб'ект**

Самавольны захоп воднага аб'екта, самавольнае водакарыстанне, а таксама пераўступка права водакарыстання і іншыя здзелкі, якія ў прамой або скрытай форме парушаюць правы ўласнасці Рэспублікі Беларусь на воды, з'яўляюцца несапраўднымі.

**Артыкул 95. Вяртанне самавольна захопленых водных аб'ектаў**

Самавольна захопленыя водныя аб'екты вяртаюцца па іх прыналежнасці без пакрыцця затрат, зробленых захапіўшымі іх асобамі за час незаконнага карыстання імі, у парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 96. Парушэнні ў галіне выкарыстання і аховы вод і адказнасць за іх учыненне**

Асобы, вінаватыя ва ўчыненні парушэнняў, прадугледжаных артыкулам 94 гэтага Кодэкса, а таксама ў (ва):

рэалізацыі праектаў, якія падлягаюць дзяржаўнай экалагічнай экспертызе, без станоўчага заключэння дзяржаўнай экалагічнай экспертызы;

забруджанні і (або) засмечванні вод ці парушэнні рэжыму ўтрымання водаахоўных зон і прыбярэжных палос водных аб'ектаў, а таксама парушэнні ўстаноўленага водаахоўнага рэжыму на вадазборах, якое выклікала забруджанне вод, водную эрозію глеб і іншыя негатыўныя з'явы;

уводзе ў эксплуатацыю прамысловых, камунальных і іншых аб'ектаў без збудаванняў і ўстройстваў, што папярэджваюць забруджанне і (або) засмечванне вод ці іх шкоднае ўздзеянне;

уводзе ў эксплуатацыю прамысловых, камунальных і іншых аб'ектаў без збудаванняў і ўстройстваў, якія забяспечваюць улік і рацыянальнае выкарыстанне вод;

заборы вады з перавышэннем лімітаў, зацверджаных упаўнаважанымі на тое органамі дзяржаўнага кіравання, або нерацыянальным яе выкарыстанні;

самавольным правядзенні гідратэхнічных работ (будаўніцтва сажалак, дамб, плацін, каналаў, накапляльнікаў прыродных і сцёкавых вод, бурэнне свідравін на ваду і да т.п.), а таксама іншых работ на водных аб'ектах, у водаахоўных зонах і прыбярэжных палосах водных аб'ектаў, зонах санітарнай аховы крыніц гаспадарча-пітнога водазабеспячэння;

парушэнні парадку вядзення першапачатковага ўліку колькасці вод, якія забіраюцца з водных аб'ектаў і скідваюцца ў іх, і вызначэння якасці скідваемых вод або парушэнні парадку складання дзяржаўнай статыстычнай справаздачнасці аб выкарыстанні вады (адмаўленне ад яе прадстаўлення, непрадстаўленне ва ўстаноўлены тэрмін або прадстаўленне недакладнай інфармацыі аб выкарыстанні вады);

пашкоджанні водагаспадарчых збудаванняў і ўстройстваў, а таксама збудаванняў і ўстройстваў, што папярэджваюць забруджанне і засмечванне вод;

парушэнні правіл эксплуатацыі водагаспадарчых збудаванняў і ўстройстваў, а таксама збудаванняў і ўстройстваў, што папярэджваюць забруджанне і засмечванне вод, або парушэнні ўстаноўленых умоў адвядзення сцёкавых вод;

парушэнні ўмоў, устаноўленых у дазволе на спецыяльнае водакарыстанне;

выкарыстанні водных аб'ектаў не па мэтаваму прызначэнню;

парушэнні рэжыму эксплуатацыі зон санітарнай аховы крыніц водазабеспячэння і гаспадарча-пітных водаправодаў;

утойванні або скажэнні інфармацыі аб аварыйнай сітуацыі на водных аб'ектах, —

нясуць адміністрацыйную, крымінальную або іншую адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Заканадаўствам Рэспублікі Беларусь можа быць устаноўлена адказнасць і за іншыя парушэнні воднага заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

### ГЛАВА 26. Пакрыццё прычыненай шкоды. Вырашэнне спрэчак у галіне выкарыстання і аховы вод

**Артыкул 97. Пакрыццё шкоды, прычыненай парушэннем воднага заканадаўства Рэспублікі Беларусь**

Юрыдычныя і фізічныя асобы, якія прычынілі шкоду з прычыны парушэння імі воднага заканадаўства Рэспублікі Беларусь, абавязаны пакрыць яе ў парадку і памеры, устаноўленых грамадзянскім заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Пакрыццё шкоды, прычыненай з прычыны парушэння воднага заканадаўства Рэспублікі Беларусь, не вызваляе вінаватых ад платы за карыстанне воднымі аб'ектамі і ажыццяўлення мер па ліквідацыі вынікаў, выкліканых гэтым парушэннем.

**Артыкул 98. Пакрыццё страт, прычыненых спыненнем або змяненнем умоў водакарыстання**

Страты, прычыненыя водакарыстальніку спыненнем або змяненнем умоў водакарыстання, падлягаюць пакрыццю за кошт прычыніўшых гэтыя страты, за выключэннем выпадкаў, калі прычыненне страт адбылося па віне самога водакарыстальніка.

Спрэчкі, звязаныя з пакрыццём страт, прычыненых спыненнем або змяненнем умоў водакарыстання, вырашаюцца ў судовым парадку.

**Артыкул 99. Парадак вырашэння спрэчак у галіне выкарыстання і аховы вод**

Спрэчкі па пытаннях выкарыстання і аховы вод вырашаюцца органамі, якія ажыццяўляюць дзяржаўнае кіраванне ў галіне выкарыстання і аховы вод, у адпаведнасці з іх паўнамоцтвамі і судамі ў парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

## РАЗДЗЕЛ IX. МІЖНАРОДНЫЯ АДНОСІНЫ Ў ГАЛІНЕ ВЫКАРЫСТАННЯ І АХОВЫ ВОД

### ГЛАВА 27. Удзел замежных юрыдычных і фізічных асоб у водных адносінах

**Артыкул 100. Водакарыстанне на пагранічных водных аб'ектах**

Водныя аб'екты, па якіх праходзіць Дзяржаўная граніца Рэспублікі Беларусь, з'яўляюцца пагранічнымі воднымі аб'ектамі.

Парадак карыстання пагранічнымі воднымі аб'ектамі ўстанаўліваецца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь і міжнароднымі дагаворамі Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 101. Удзел замежных юрыдычных і фізічных асоб у водных адносінах**

Замежныя юрыдычныя і фізічныя асобы могуць удзельнічаць у водных адносінах на роўных правах з юрыдычнымі і фізічнымі асобамі Рэспублікі Беларусь і нясуць роўную адказнасць, калі іншае не прадугледжана Канстытуцыяй, актамі заканадаўства і міжнароднымі дагаворамі Рэспублікі Беларусь.

### ГЛАВА 28. Міжнародныя дагаворы. Вырашэнне міждзяржаўных спрэчак

**Артыкул 102. Міжнародныя дагаворы**

Калі ў міжнародным дагаворы, заключаным Рэспублікай Беларусь, устаноўлены іншыя правілы, чым тыя, якія змяшчаюцца ў гэтым Кодэксе, то прымяняюцца правілы міжнароднага дагавора.

**Артыкул 103. Вырашэнне міждзяржаўных спрэчак**

Спрэчкі па пытаннях выкарыстання і аховы вод паміж Рэспублікай Беларусь і іншымі дзяржавамі разглядаюцца ў адпаведнасці з міжнароднымі дагаворамі Рэспублікі Беларусь.

## РАЗДЗЕЛ X. ЗАКЛЮЧНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

**Артыкул 104. Уступленне ў сілу гэтага Кодэкса**

Гэты Кодэкс уступае ў сілу з дня апублікавання.

**Артыкул 105. Прывядзенне актаў заканадаўства ў адпаведнасць з гэтым Кодэксам**

Да прывядзення заканадаўства Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з гэтым Кодэксам акты дзеючага заканадаўства ў галіне выкарыстання і аховы вод прымяняюцца ў той частцы, якая не супярэчыць гэтаму Кодэксу, калі іншае не ўстаноўлена Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь.

Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь на працягу года з дня ўступлення ў сілу гэтага Кодэкса:

падрыхтаваць і ўнесці ва ўстаноўленым парадку ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь прапановы па прывядзенню заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з гэтым Кодэксам;

прывесці рашэнні Урада Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з гэтым Кодэксам;

забяспечыць перагляд і адмену рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання, падпарадкаванымі Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь, іх нарматыўных актаў, якія супярэчаць гэтаму Кодэксу;

зацвердзіць палажэнні аб:

парадку выдачы дазволаў на спецыяльнае водакарыстанне;

парадку прадастаўлення вадаёмаў у адасобленае карыстанне;

водаахоўных зонах (прыбярэжных палосах) вадаёмаў.

Устанавіць, што:

гэты Кодэкс прымяняецца да водных праваадносін, якія ўзніклі пасля ўступлення яго ў сілу;

гэты Кодэкс прымяняецца да водных праваадносін, якія ўзніклі да ўступлення яго ў сілу, толькі ў частцы правоў і абавязкаў, што ўзнікнуць пасля ўступлення гэтага Кодэкса ў сілу;

хадайніцтвы аб прадастаўленні водных аб'ектаў у карыстанне, па якіх не прыняты рашэнні кампетэнтных органаў да моманту ўступлення ў сілу гэтага Кодэкса, вырашаюцца гэтымі органамі ў парадку і з захаваннем умоў, прадугледжаных гэтым Кодэксам;

дазволы на спецыяльнае або другаснае водакарыстанне, выдадзеныя да ўступлення гэтага Кодэкса ў сілу, а таксама прынятыя рашэнні аб прадастаўленні водных аб'ектаў у адасобленае водакарыстанне захоўваюцца да сканчэння тэрміну, абумоўленага пры выдачы дазволаў і прыняцці рашэнняў;

спыненне права карыстання воднымі аб'ектамі пасля ўказанага ў дазволе або рашэнні тэрміну праводзіцца ў парадку, прадугледжаным гэтым Кодэксам;

рашэнні аб прадастаўленні водных аб'ектаў у карыстанне, прынятыя адпаведнымі органамі ў межах іх кампетэнцыі, але не выкананыя да моманту ўступлення ў сілу гэтага Кодэкса, падлягаюць выкананню ў адпаведнасці з патрабаваннямі гэтага Кодэкса.

**Артыкул 106. Прызнанне страціўшымі сілу некаторых заканадаўчых актаў**

У сувязі з прыняццем гэтага Кодэкса прызнаць страціўшымі сілу:

1. Закон Рэспублікі Беларусь ад 27 снежня 1972 года «Аб зацвярджэнні Воднага кодэкса Рэспублікі Беларусь» (ЗЗ БССР, 1973 г., № 1, арт. 4);

2. Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 27 лютага 1973 года «Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Воднага кодэкса Рэспублікі Беларусь» (ЗЗ БССР, 1973 г., № 7, арт. 123);

3. Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 22 красавіка 1980 года «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Водны кодэкс Рэспублікі Беларусь» (ЗЗ БССР, 1980 г., № 12, арт. 267);

4. Закон Рэспублікі Беларусь ад 13 лістапада 1980 года «Аб зацвярджэнні Указаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Водны, Зямельны, Крымінальны, Крымінальна-працэсуальны, Грамадзянскі, Грамадзянскі працэсуальны кодэксы Рэспублікі Беларусь і ў Кодэкс законаў аб працы Рэспублікі Беларусь» у частцы зацвярджэння Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 22 красавіка 1980 года «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Водны кодэкс Рэспублікі Беларусь» (ЗЗ БССР, 1980 г., № 32, арт. 655);

5. Артыкул 1 Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 13 лістапада 1984 года «Аб унясенні змяненняў у некаторыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь» (ЗЗ БССР, 1984 г., № 34, арт. 490);

6. Закон Рэспублікі Беларусь ад 6 снежня 1984 года «Аб зацвярджэнні Указаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь» у частцы зацвярджэння артыкула 1 Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 13 лістапада 1984 года «Аб унясенні змяненняў у некаторыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь» (ЗЗ БССР, 1984 г., № 35, арт. 507);

7. Артыкул 6 Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 11 студзеня 1985 года «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь» (ЗЗ БССР, 1985 г., № 2, арт. 20);

8. Закон Рэспублікі Беларусь ад 28 сакавіка 1985 года «Аб зацвярджэнні Указаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь» у частцы зацвярджэння артыкула 6 Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 11 студзеня 1985 года «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь» (ЗЗ БССР, 1985 г., № 10, арт. 150);

9. Артыкул 4 Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 23 снежня 1987 года «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь у сувязі з Законам СССР «Аб дзяржаўным прадпрыемстве (аб'яднанні)» (ЗЗ БССР, 1987 г., № 36, арт. 491);

10. Закон Рэспублікі Беларусь ад 2 лютага 1988 года «Аб зацвярджэнні Указаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь» у частцы зацвярджэння артыкула 4 Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 23 снежня 1987 года «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь у сувязі з Законам СССР «Аб дзяржаўным прадпрыемстве (аб'яднанні)» (ЗЗ БССР, 1988 г., № 4, арт. 56);

11. Раздзел VI Закона Рэспублікі Беларусь ад 14 лістапада 1991 года «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь у сувязі з прыняццем Законаў Рэспублікі Беларусь «Аб уласнасці ў Рэспубліцы Беларусь», «Аб прадпрымальніцтве ў Рэспубліцы Беларусь» і «Аб занятасці насельніцтва Рэспублікі Беларусь» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1991 г., № 36, арт. 633).

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА**

*15 ліпеня 1998 г., г. Мінск., № 191-З*

## СІТУАЦЫЯ НА РАСІЙСКІМ ФІНАНСАВЫМ РЫНКУ І БЕЛАРУСКІЯ РЭАЛІІ



*Сітуацыя на расійскім фінансавым рынку самым непасрэдным чынам закранае айчынныя фінансы, а таксама айчынную эканоміку. У прыватнасці, так сцвярджае эксперт нашай газеты, загадчык аддзела Інстытута эканомікі Нацыянальнай акадэміі навук, кандыдат эканамічных навук Аляксандр ЛУЧАНОК.*

# ФІНАНСАВЫ КРЫЗІС У РАСІІ НЕГАТЫЎНА ЎПЛЫВАЕ І НА НАШУ ЭКАНОМІКУ

**— Аляксандр Іванавіч, у нас цяпер гавораць выключна аб фінансавым крызісе ў Расіі, але ж і ў нашай рэспубліцы сітуацыя таксама далёка не бліскучая. Апошнім часам рэзка ўзрос курс безнаяўнага беларускага рубля да долара на так званым пазабіржавым рынку, да 90 тысяч рублёў узняўся курс на наяўную валюту ўжо на «чорным» рынку (гэтыя рынкі хоць і лічацца «незаконнанароджанымі», тым не менш, паспяхова дзейнічаюць, а адносна рэальная сітуацыя ацэньваецца менавіта па іх). Чаму наш рубель пайшоў уніз, няўжо на яго гэтак паўплывала становішча з расійскім рублём?**

— Безумоўна, асноўны фактар — расійскі. Справа ў тым, што болей чым 60 працэнтаў (а па асобных ацэнках — усе 80) нашага знешнегандлёвага абароту прыпадае на Расію. У выніку гэта арыентацыя на Расію, а таксама прывязка да яе рубля (ці дакладней сказаць: і да яе рубля, нароўні з доларам) выклікалі падзенне курса і ў нас.

Далей: у нас працэнтныя стаўкі ў банках былі значна ніжэйшыя, чым рэальныя тэмпы росту курса долара. І вось з тым, каб грошы не абясцэньваліся, многія нашы прамысловыя прадпрыемствы, банкі (і нават насельніцтва) захоўвалі свае грошы ў той жа Расіі, укладвалі іх там, дзе, як вядома, стаўкі былі вельмі прыцягальныя, а даходы, адпаведна, высокія. А цяпер у выніку многія ж моцна і пацярпелі, страцілі свае сродкі, якія патрэбны для вядзення далейшай дзейнасці, для закупак на тым жа расійскім рынку матэрыялаў і камплектуючых. Адпаведна, гэта павялічыла іх попыт на валюту. А значыць — і агульны попыт.

І наступнае: тыя расійскія фірмы, якія ўкладвалі сродкі ўжо ў нас, папярэдне праканверсаваўшы іх у беларускія рублі, вымушаны адклікаць іх назад. Цяпер ім тэрмінова спатрэбілася свая валюта, непасрэдна ў Расіі, а яшчэ лепей — долары.

Расія будавала ў сябе спекуляцыйную эканоміку, скажам так. Яе эканоміка развівалася не ў рэальным сектары, у якім выпрацоўваюцца канкрэтныя матэрыяльныя даброты, а ў асноўным на рынку фіктыўных капіталаў, на якім курс акцый штучна ўздымаўся з дапамогай заходніх крэдытаў. Апошнія даваліся як быццам пад развіццё нейкіх вытворчасцяў, а на самай справе расходаваліся непрадукцыйна — на будаўніцтва шыкоўных збудаванняў і г. д., на стварэнне іміджа краіны, якая мае бясспрэчныя поспехі.

Але асноўная прычына ў тым, што рэзка ўпалі сусветныя цэны на энерганосьбіты, а Расія па сутнасці з'яўляецца паліўным прыдаткам іншых краін; яе прадукцыя ў асноўнай масе гэткая ж неканкурэнтаздольная, многія заводы прастойваюць. Да пэўнага часу яна больш-менш балансавала свой бюджэт з дапамогай каштоўных папер, пры гэтым высокія працэнты па гэтых паперах выплачвала за кошт выпуску новых папер, ствараючы такім чынам фінансавую піраміду. Апошняя абвалілася, выклікаўшы гэткі гучны рэзананс у свеце.

Аднак у сувязі з усім гэтым нельга залішне цешыць сябе прыемнымі думкамі нам. Так, у нашай эканоміцы заходнія валютныя сродкі задзейнічаны слаба, і гэта ўвогуле няблага ў дадзенай сітуацыі. Разам з тым у нас напампоўваюцца ў эканоміку пустыя сродкі, якія пры гэтым па сутнасці таксама ідуць у невытворчы сектар. Мы робім маштабныя фінансавыя ўліванні ў эканоміку, а канкурэнтаздольнай прадукцыі на гэтыя выдаткаванні не выпрацоўваем. Каб з'яўлялася ў выніку менавіта канкурэнтаздольная прадукцыя, тады была б зусім іншая справа, і толькі тады можна было б гаварыць аб мэтазгоднасці фінансавых уліванняў, друкавання дадатковых грошай. Наша прадукцыя па сутнасці мае поспех толькі ў той жа Расіі, заваёўваючы яе рынак сваёй таннасцю. Цяпер жа і там, па прычыне фінансавага крызісу, будуць браць яе значна меней. Калі мы не паклапоцімся аб павышэнні канкурэнтаздольнасці нашых тавараў, аб расшырэнні гандлёвых сувязяў і з іншымі краінамі, мы можам аказацца ў такім жа становішчы, як Расія.

**— Чым вы растлумачыце гэткі разрыў паміж курсамі наяўнага і безнаяўнага долара ў нас?**

— Спачатку варта нагадаць, што Нацыянальны банк абяцаў да канца года адзіны курс, толькі невядома, якім чынам гэта неблагая мэта будзе дасягнута... А цяпер наконт разрыву. Справа ў тым, што пры напампоўванні эканомікі грашовымі эмісіямі канкрэтных грашовых знакаў на рукі насельніцтву выдаецца адносна мала. Гэта і дазваляе ў пэўнай меры стрымліваць рост курса долара да наяўнага беларускага рубля.

Як доўга гэта будзе працягвацца? Будзем улічваць, што ўсе цэны ў рэспубліцы на імпартныя тавары ўстанаўліваюцца зыходзячы з курса долара на міжбанкаўскім валютным рынку. Гэта ж значыць, што ўжо ў хуткім часе цэны на імпарт значна вырастуць. У гэтай сітуацыі непазбежнае павелічэнне мінімальнай заработнай платы (зрэшты, як вядома, яна з 1 кастрычніка павялічваецца, але запланаванае павелічэнне далёка не адэкватнае цяперашняй сітуацыі), што прывядзе да выкіду ў абарот дадатковай колькасці грошай і, адпаведна, да росту курса наяўнага долара. Але ж гэтыя дадатковыя грошы будуць не пацверджаны дадатковай жа колькасцю тавару, значыць, безнаяўны долар як сродак плацяжу, як сродак эквівалентнага абмену таксама пойдзе далей... Трэба найперш спыніць дадатковыя грашовыя эмісіі, весці палітыку рэзкага абмежавання тэмпаў росту грашовай масы.

Трэба вырашаць і праблему з нашым рынкам дзяржаўных каштоўных папер. На практыцы іх ніхто не хоча купляць. У выніку купляе Нацбанк, па сутнасці, ажыццяўляючы ўсё тую ж эмісію.

**— Што адбылося б з курсам, каб Нацбанк поўнасцю адпусціў яго?**

— Курс безнаяўнага долара абавязкова крыху панізіўся б. Справа ў тым, што наш Нацбанк на мой погляд, мае тэндэнцыю ўсё забараняць. А чым болей уводзіцца забарон і абмежаванняў, тым даражэй абыходзіцца канвертацыя беларускага рубля ў замежную валюту для суб'ектаў гаспадарання, тым цяжэй яе здабыць (логіка НБ зразумелая: абмежаваць, зменшыць патрэбы суб'ектаў у дэфіцытнай для нас валюце. Але ж трэба разумець і логіку суб'ектаў: яны ў любых умовах імкнуцца і будуць імкнуцца выжыць, ім тая ж валюта ўсё роўна патрэбна для гаспадарчай дзейнасці — закупак сыравіны, матэрыялаў і г. д.). І тым болей у такіх умовах зарабляюць банкі і фінансавыя кампаніі, якія рознага роду незаконнымі аперацыямі ажыццяўляюць для суб'ектаў канвертацыю. Напэўна, ні для кога не сакрэт, што падобнай канвертацыяй на пазабіржавым міжбанкаўскім рынку займаюцца замежныя банкі, у першую чаргу расійскія, а таксама прыбалтыйскія — яны і зарабляюць. Па сутнасці, зарабляюць на цяжкасцях нашых суб'ектаў.

**— Аляксандр Іванавіч, вы ў сувязі з фінансавымі ўзрушэннямі прагназіруеце значны рост цэн на імпартныя тавары. А чаго можна чакаць ад цэн на айчынныя тавары?**

— Цэны вырастуць і на айчынныя тавары, ва ўсякім разе на пераважную частку іх. Важна, каб не было абвальнага росту. Пры вырабе ж пераважнай часткі прадукцыі выкарыстоўваецца ўсё той жа імпарт — сыравіна, матэрыялы, камплектуючыя. Акрамя таго, нашы прадпрыемствы вельмі чуйна рэагуюць на дынаміку цэн на імпарт. У гэтай сувязі хачу таксама зазначыць: існуе сур'ёзная небяспека, што ў нас пачнуць змагацца з ростам цэн звычнымі адміністрацыйнымі метадамі або жорсткімі рэгламентацыямі. Гэта быў бы найгоршы варыянт развіцця падзей.

**— Як у гэтай сітуацыі паводзяць сябе (як трэба было б паводзіць) юрыдычныя суб'екты, прадпрыемствы?**

— Прадпрыемствы зыходзяць (і павінны зыходзіць) са сваёй экспартнай або імпартнай скіраванасці. Так, калі імпарцёраў палохае далейшы рост курса долара, то, вядома ж, яны павінны хутчэй закупляць завозімыя матэрыялы. Але ўся бяда ў тым, што ніхто не можа прадказаць, як будзе ў далейшым паводзіць сябе валютны курс у Расіі, на якую мы, паўтару, вельмі моцна зарыентаваны. Па майму меркаванню, цяпер на расійскім фінансавым рынку праводзяцца буйныя спекуляцыі, і долар з цягам часу можа сур'ёзна апусціцца.

**Гутарыў Іван БАРАНОЎСКІ.**

*Як ацэньвае сітуацыю ў Расіі, вытокі фінансавага крызісу, а таксама тое, наколькі ўплывае гэты крызіс на эканоміку і фінансы Беларусі, член навукова-кансультатыўнага савета Нацыянальнага банка, дэкан эканамічнага факультэта БДУ прафесар Міхаіл КАВАЛЁЎ?*

# ЁСЦЬ ГРАШОВЫЯ ЎЛАДЫ, І ЯНЫ НЕ БЯЗДЗЕЙНІЧАЮЦЬ

— Галоўная прычына фінансавага крызісу ў Расіі — гэта паўнейшае занядбанне рэальнага сектара эканомікі.

Як нарастаў у Расіі фінансавы крызіс і якія ў яго непасрэдныя прычыны?

Найперш, там не былі створаны ўмовы для пералівання капіталу з банкаўскага сектара ў рэальны. Куды ішоў капітал? У піраміду дзяржаўных казначэйскіх абавязацельстваў — яго было размешчана там 20 працэнтаў (для параўнання: у Беларусі толькі 10).

Наступная асаблівасць: рэсурсы расійскіх банкаў на трэць складаюцца з укладаў насельніцтва, якое вельмі чуйна рэагуе на любыя размовы аб крызісе і тут жа забірае гэтыя ўклады... Для параўнання: у рэсурсах беларускіх банкаў уклады насельніцтва складаюць толькі дзесятую частку. Гэта значыць, што калі і з'явілася б паніка, істотнай пагрозы для банкаў яна не выклікала б. Праўда, разам з тым нельга не зазначыць і наступнага: гэта дрэнна, калі грошы насельніцтва не працуюць на эканоміку.

Далей. У Расіі не змаглі рэгуляваць значныя інвестыцыйныя патокі, якія ішлі з-за мяжы (на жаль, у Беларусі не было такіх значных інвестыцый, але выкарыстоўваліся яны лепей). Расіяне аддалі перавагу так званым партфельным інвестыцыям перад прамымі. Гэта значыць, што грошы ўкладваліся не ў канкрэтныя прадпрыемствы, а ішлі на спекуляцыйныя аперацыі з акцыямі вядучых расійскіх прадпрыемстваў на фондавым рынку (больш за палову ўсіх інвестыцый было выкарыстана менавіта на ім). А такі капітал пры найменшай паніцы таксама адклікаецца з банкаў, ён увогуле пакідае краіну.

Тут жа ўрок для нас. Нам фінансавымі інфраструктурамі, тым жа фондавым рынкам, без нармальна працуючай эканомікі захапляцца нельга. Фондавы рынак належыць развіваць па меры развіцця эканомікі ўвогуле.

Наступны момант: збіранне падаткаў — у Расіі іх збіралася не болей як 60 працэнтаў ад плана (у нас — не меней як 95 працэнтаў). Акрамя таго, самі падаткі ў кансалідаваным бюджэце складалі адносна невялікую частку — 25 працэнтаў валавога ўнутранага прадукту (у нас — прыкладна 40 працэнтаў). У выніку дрэннага збірання падаткаў у Расіі і вымушаны былі актыўна прыцягваць знешнія і ўнутраныя пазыкі, прычым з дапамогай піраміды тых жа дзяржаўных казначэйскіх абавязацельстваў. На выплату пазык накіроўваліся і падаткі. Гэтым летам краіна дайшла да такой сітуацыі, што вымушана была плаціць з кожнага рубля сабраных падаткаў 50 капеек на раней зробленыя пазыкі.

Яшчэ адна непасрэдная прычына — гэта празмерная жорсткасць грашовай палітыкі падчас дэнамінацыі грошай (баяліся панікі), а таксама сёлета ў маі. У выніку ў Расіі нямала дзе эканоміка перайшла на грашовыя сурагаты, бартэр, што ў сваю чаргу прывяло да ўхілення ад падаткаў і падзення вытворчасці.

Сёння курс расійскага рубля ўпаў у 3 разы, а разам з тым у 3 разы зменшыліся зберажэнні расіян, яны сталі ў 3 разы бяднейшыя, чым былі раней. І ўжо адсюль — далёка не лепшае наступства для нас: гэта азначае рэзкае зніжэнне плацежаздольнага попыту расіян, а адпаведна — змяншэнне ёмістасці іх рынку для нашых тавараў.

**— У сувязі з гэтым паўстае пытанне адносна экспарту ў Расію: захоўваць традыцыйныя для нас расійскія рынкі ці асвойваць новыя?**

— Адказ можа быць толькі такі: і захоўваць, і асвойваць. Думаю, змяншэнне экспарту ў Расію адбудзецца пераважна за кошт спажывецкіх тавараў. Экспарт жа прадукцыі вытворчага прызначэння можна захаваць на ранейшым узроўні (вядома, калі не будзе далейшага спаду расійскай эканомікі). Мяркую таксама, што цяперашні крызіс многаму навучыць расійскі ўрад. Калі ёмістасць расійскага рынку і зменшыцца — то часова, і яна хутка адновіцца. Гэта было б памылкай — пакідаць расійскі рынак і тэрмінова шукаць іншыя.

**— Міхаіл Міхайлавіч, аднак і ў нас курс долара пачаў зашкальваць, што напрамую можна звязаць з фінансавым крызісам у Расіі...**

— Цяпер аб курсе. Ён у першую чаргу залежыць ад збалансаванасці экспарту і імпарту. Калі ў Расіі было станоўчае гандлёвае сальда, калі яна прадавала тавараў на некалькі мільярдаў долараў у год болей, чым купляла, курс там быў непахісны. Як толькі сёлета ў выніку падзення сусветных цэн на нафту і газ сальда ўпершыню стала адмоўнае (па выніках чэрвеня — мінус 300 мільёнаў долараў) — утрымаць рубель стала немагчыма. І ў гэтым яшчэ адзін урок для нас.

Аднак вернемся да валютнага курса. Я не бачу неабходнасці дэвальвацыі беларускага рубля і ўвогуле не звязваю гэта з крызісам у Расіі. Чаму? Усе разлікі, кантракты з Расіяй праводзіліся не ў нацыянальных валютах (у нас загадзя было забаронена разлічвацца беларускімі рублямі), а толькі ў трэцяй валюце, у прыватнасці, у доларах ЗША. Пры гэтым асноўнае ж месца займалі бартэр і іншыя схемы ўзаемаразлікаў.

Думаю, што свабодны рынкавы курс вернецца на адзнаку 120—150 тысяч рублёў за долар, г. зн. на тую адзнаку, на якой ён быў зусім нядаўна. І гэтаму, на маю думку, дапамагла б сістэма так званых электронных лотавых таргоў, якая прадугледжвае прамы выхад прадаўца валюты на пакупніка (або наадварот — пакупніка на прадаўца), іх дамову адносна прымальнай для кожнага з іх цаны (г. зн. дагаворнай цаны) і рэгістрацыю іх здзелкі. Карацей, партнёры ва ўсім дамаўляюцца паміж сабой, толькі што гэта здзелка рэгіструецца. Такая сістэма вельмі неабходная — каб кожны хто мае сумленна заробленую валюту, мог свабодна яе прадаць, калі можна так сказаць, не хаваючыся ў падваротні. Пры гэтым патрэбна вызваляць ад падаткаабкладання курсавую розніцу.

Тут жа варта сказаць і пра іншыя неабходныя меры і найперш — пра яшчэ большае стымуляванне экспарту і вяртання экспартнай выручкі або вызваленне экспарту (калі ён зроблены за СКВ) ад падатку на дабаўленую вартасць. Гэта нямала — нагадаю: ПДВ складае 20 працэнтаў. І пры гэтым жа падкрэслю: экспарцёрам можа лічыцца той, хто зарабляе для рэспублікі валюту.

**— Нядаўна адбылося пасяджэнне навукова-кансультатыўнага савета, які створаны пры Нацбанку і ў які ўваходзіце і вы. На савеце таксама абмяркоўвалася сітуацыя ў Расіі, а разам з тым меры па нейтралізацыі магчымых адмоўных наступстваў для нас. Што савет рэкамендуе?**

— Усе на савеце аднадушна зазначылі, што падстаў для рэзкай дэвальвацыі рубля ў нас у сувязі з крызісам у Расіі няма. Афіцыйны курс да новага года будзе ўтрымлівацца прыкладна такім, які ён цяпер, а рынкавы, свабодны курс трэба было б замацаваць на ўзроўні — 100—120 тысяч за долар...

На савеце падкрэслівалася адносна таго, каб не дапусціць зніжэння экспарту, і ў першую чаргу — у Расію. Пры гэтым трэба расшыраць кантакты непасрэдна з расійскімі рэгіёнамі, прадугледзець пэўныя схемы прамога фінансавага ўзаемадзеяння і разлікаў.

Члены савета таксама падкрэслівалі: ужо нашы імпарцёры павінны цяпер паболей закупіць у Расіі сыравіны, матэрыялаў і абсталявання, карацей, рабіць так, як робіць насельніцтва. Спажывецкія цэны там ужо палезлі ўверх, а аптовыя пакуль што на ранейшым узроўні.

**— Нельга тут жа не зазначыць таго, што і нашы цэны таксама палезлі ўверх...**

— Думаю, што яны стабілізуюцца, калі стане больш пэўным рынкавы курс долара. Пакуль жа няма падстаў для курса, скажам, 300 тысяч рублёў за долар. Вядома, можна паддацца паніцы, пры гэтым не зрабіць ніякіх захадаў. Але для гэтага ёсць грашовыя ўлады, і яны не бяздзейнічаюць.

**— І нарэшце, ваш прагноз адносна развіцця падзей у Расіі?**

— Там, як ужо бачна, фінансавы крызіс перарос у палітычны. Думаю, каб не адправілі ўрад Кірыенкі (дарэчы, даволі прафесійны), такога абвастрэння сітуацыі не было б. Тым не менш, мяркую, што расійскі рубель замацуецца недзе на адзнацы 20 рублёў за долар. Можна таксама меркаваць, што там пасля гэтага будзе ўведзены так званы валютны камітэт, або жорсткая прывязка рубля да долара, г. зн. змяншэнне або павелічэнне грашовай масы строга прапарцыянальна змяншэнню або павелічэнню валютных рэзерваў. (Зрэшты, сёння Расіі ў першую чаргу патрэбен ўрад). Валютны камітэт прымяняўся ў Аргенціне, дзейнічае цяпер у Прыбалтыцы.

**— Відаць, не пашкодзіў бы ён і нам?**

— Так. Але аб гэтым можна гаварыць толькі тады, калі мы накопім неабходныя валютныя рэзервы, чаму і ўдзяляе цяпер нямала ўвагі Нацыянальны банк.

**Запісаў Іван АЛЯКСАНДРАЎ.**



Цяжкі шлях да рынка.

Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.



Фота Андрэя ШАЎЦОВА.

# ЧАС БУЛЬБЫ

## У сталіцы зачыняюцца кіёскі, у крамах пусцеюць паліцы, а вёска жыве адвечным

**ГРАМАДСТВА жыве ў двух плоскасцях: адны сыплюць эканамічнымі тэрмінамі, другія нават не ўяўляюць, пра што ідзе гаворка. Такіх большасць. Ім цяжка разабрацца ў розніцы паміж наяўным і безнаяўным рублём, яго залежнасці ад долара. Рабочы і селянін жыве рэальнасцю. А яна такая: час капаць бульбу. Нягледзячы ні на што. І даведваюцца пра апошнія падзеі ад сваіх гарадскіх дзетак, якія прыязджаюць дапамагчы.**

### Замест фірмы — аўтаадказчык

— Мая фірма цалкам залежыць ад расійскай прадукцыі. Там крызіс, і я не ведаю, што рабіць. Магу прагарэць. Таму часова яе зачыняем. Уключым аўтаадказчык, а заходзіць будзем па чарзе — разважаў зямляк-камерсант, з якім збіраліся ехаць у вёску.

Едучы ў вёску, купляю прадукты. У пятніцу прастаяў у чарзе за рыбай. Забраў ледзь не апошнюю. Гандлярка шчыравала:

— Прададзім прадукцыю і зачыняемся. Безнаяўны рубель ужо ведаеце які?

Калі вярнуўся з вёскі ў Мінск, у праўдзівасці яе слоў упэўніўся. Увогуле зачыненымі была палова кіёскаў майго мікрараёна.

### Усё праходзіць. Мінуць і сённяшнія праблемы...

Дзеручы драпцамі зямлю, расказваў маме пра апошнія падзеі.

— Бацька лічыць: прыціснуць камерсантаў — у магазінах, як некалі, усяго будзе.

— А ці было ўсё?

— І то праўда. Не шыкавалі, але і з голаду не паміралі. Вы, маладыя, не бачылі гора. Усё, сынок, наладзіцца. Абы здаровыя былі.

Сёлета ў нашай вёсцы і ваколіцах бульбу пачалі капаць ранавата, яшчэ напрыканцы жніўня. Да эканамічнага крызісу... Паўсюдна яна розная, але на гэткі гнілы год лічыцца неблагой. Шмат хто ўжо выкапаў.

Прыехаўшы ў Мінск, наведаў рынак. Кілаграм — 15 тысяч. Пачаў лічыць, колькі я зэканомлю грошай. А яшчэ ж буракі, морква, цыбуля. З голаду, як кажуць, не памром. Плюс яблыкі.

Дарэчы, у вёсцы далі абвестку: скупляюць па 2 тысячы за кілаграм. Старыя трасуць яблыні. І таксама падлічваюць, колькі будуць мець.

Што ж датычыцца маіх падлікаў, дык я — не адзінокі. Хто з вёскі, хто з лецішча вязе садавіну і агародніну. І становіцца актуальным колішні газетны штамп: запас бяды не чыніць. Асабліва цяпер, калі навокал такая няпэўнасць.

### Драпцы — не капалка. Ім не патрэбен вялікі рамонт

Малады мінчук прыехаў з сям'ёю да бабулі капаць бульбу. Па ўсім калгасе шукаў капалку. Тлумачу: толькі жніво скончылася. Капалкі не падрыхтаваны. Ды і ўвогуле: пакуль у калгасе не выкапаюць бульбу, прыватнікам не дадуць.

— Мо дамовімся. Усім грошы патрэбны. Заплачу.

— Шукай.

Я спадзяваўся, што яму пашчасціць. Бо напярэдадні чуў ад сваяка аповяд пра аднавяскоўца. Той працуе ў майстэрні. Зваршчыкам.

— Калі прыязджаю, — смеючыся, распавядаў сваяк, — ён кідае любую працу. Са словамі калгасным начальнікам: «Мой заробак прыехаў. Вы ж у калгасе не плаціце».

«Халтура» выручае і тут, у вёсцы. Праўда, мінскаму ўнуку давялося бабулі дапамагаць з драпцамі ў руках. Капалку так і не знайшоў. Традыцыйнае, мусіць, сапраўды вечнае. Калі я памкнуўся ўгаварыць матулю таксама капалкаю выкопваць, тая ледзь не крычала:

— Мы лепш паціху з бацькам самі ўсё зробім. Прасіць яшчэ некага...

Усё, як некалі. Усё ідзе па зададзенай праграме. Таму вёска і здаецца больш стабільнай. Праўда, пакуль. Моладзі мала. Прыязджаюць новыя сем'і з усяго свету. І ад'язджаюць. Рабіць, як тутэйшыя, не хочуць. У нашай вёсцы было ўжо некалькі такіх заездаў. Дарэчы, многія «прышэльцы» і драпцаў раней не бачылі. Якія з іх работнікі.

### Быццё вызначае настрой

Цяжка і бацькам, і аднавяскоўцам. Але добра дома. Цяжка працаваць, ды лёгка дыхаць. Спакойна неяк. Надзейна. І ад'язджаць жадання няма. Хаця ведаеш: на канапе каля тэлевізара спіну выраўняеш, і ногі перастануць ныць.

А пачнецца галаўны боль. Нагода адна: бракуе грошай. І тлумачыць тут доўга не трэба. Забываюцца матчыны словы, і пачынаеш думаць: а ці не ў іх шчасце?

Думкі такія гоніш. І слухаеш апошнія навіны. У Расіі долар зноў скокнуў. Падымецца і мой крывяны ціск. І не толькі мой. Застаецца адно: паціху працаваць і чакаць.

Пачынаеш чытаць астралагічныя прагнозы.

Пачынаеш падлічваць і эканоміць.

Пачынаеш лічыць слоікі з саленнямі і кампотамі.

Пачынаеш думаць зноў: жыццё праходзіць у турботах.

Пачынаеш філасофстваваць. Кіруючыся вясковым вопытам бацькоў.

Дарэчы, патэлефанаваў на фірму майму знаёмцу. Там сапраўды працуе толькі аўтаадказчык.

**Міхал ТАЛОЧКА.**

# НВА «Інтэграл» ставіць на якасць

**На атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь вылучаны калектыў спецыялістаў НВА «Інтэграл» і вядучых ВНУ краіны, такіх, як Беларускі дзяржаўны універсітэт і Беларускі дзяржаўны універсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі. За перыяд з 1992 па 1997 гг. гэтым калектывам быў выкананы вялікі цыкл навуковых работ у галіне развіцця тэорыі паўправаднікоў, стварэння новых паўправадніковых тэхналогій, метадаў праектавання, забеспячэння надзейных мікраэлектронных вырабаў.**

Прадукцыя НВА «Інтэграл», у састаў якога ўваходзіць 3 канструктарскія бюро і 6 заводаў, знайшла прымяненне практычна ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі: вылічальнай тэхніцы, сістэмах інфарматыкі, тэле- і радыёэлектроніцы, кіна-, фотатэхніцы, аўтамабільнай электроніцы, выкарыстоўваецца ў авіяцыйна-касмічнай прамысловасці, медыцыне, спорце і быце.

На сённяшні дзень аб'яднанне вырабляе да 50 працэнтаў усяго аб'ёму паўправадніковых прыбораў, што выпускаюцца ў СНД, прычым выпуск мікраэлектронных вырабаў узрос у параўнанні з 1991 годам больш чым у 6 разоў. Стратэгія аб'яднання — пашырэнне экспарту. За апошнія гады пастаўкі электронных кампанентаў на экспарт істотна ўзраслі, а ў галаўнога завода імя Дзяржынскага гэты паказчык дасягае 80 працэнтаў. Асноўныя рынкі збыту прадукцыі «Інтэграла» — Ганконг, Сінгапур, Тайвань, Паўднёвая Карэя і іншыя.

Мікрасхемы, выробленыя прадпрыемствамі аб'яднання, выкарыстоўваюцца ў вытворчасці электронных гадзіннікаў, мікракалькулятараў. Айчынныя тэлевізары «Гарызонт» і «Віцязь» таксама не абыходзяцца без беларускіх камплектуючых. У гэтым годзе ў НВА «Інтэграл» завершана асваенне камплекта з 14 тыпаў мікрасхем для тэлевізараў 6-га пакалення, плануецца распрацоўка камплекта мікрасхем для лічбавага тэлевізара 7-га пакалення. Пластыкавыя карткі для аплаты паслуг тэлефоннай сувязі таксама выпрабляюцца на «Інтэграле».

Аб'яднанне імкнецца да аднаўлення сувязяў з прадпрыемствамі радыёэлектроннай галіны Расійскай Федэрацыі і краін СНД. Прыярытэтным накірункам у дзейнасці НВА з'яўляецца таксама стварэнне канкурэнтаздольнай айчыннай элементнай базы для вытворчасці новай бытавой і прамысловай тэхнікі.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

# ЦІ БУДЗЕ Ў КРАНАХ ГАРАЧАЯ ВАДА?

Напярэдадні ацяпляльнага сезона заклапочанасць у жыхароў выклікае тэмпература ў кватэрах зімой. Ці не адбудзецца сёлета так, што прыйдзецца мерзнуць узімку? Кошт паліва імкліва расце, а насельніцтва пакрывае хіба толькі трэцюю частку сабекошту ацяплення. Зразумела, што ў гэтай сітуацыі і сродкі з бюджэту (дарэчы, яны даволі прыкладныя) кардынальна змяніць сітуацыю не могуць. Ды і перакладванне выдаткаў на плечы прамыслоўцаў (у выніку так званага «перакрыжаванага субсідзіравання») не можа працягвацца бясконца — заводы і фабрыкі ўжо зараз актыўна выступаюць супраць непамерна высокіх плацяжоў за камунальныя паслугі. І ў межах рынкавых адносінаў усё гэта, зразумела, ідзе ў сабекошт тавараў, якія выпрабляюць тыя ж заводы і фабрыкі. Таму няма чаго здзіўляцца цэннікам на айчыннай прадукцыі.

Праблема камунальных тарыфаў застаецца дасюль нявырашанай, а напярэдадні халадоў яна можа яшчэ і абвастрыцца. Галіна знаходзіцца літаральна «паміж молатам і кавадлам»: з аднаго боку, неплацежаздольнае насельніцтва, з другога — прамыслоўцы, што вагаюцца на мяжы банкруцтва. А кошт паліва ніхто не трымае ў вызначаным «калідоры», таму прагназіраваць сітуацыю ў перспектыве вельмі складана. На месцах дзеля эканоміі бюджэтных сродкаў ужо сёння могуць проста «вырубіць» гарачую ваду. На гэты конт існуе праўда рэкамендацыя Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі наконт таго, каб падаваць гарачую ваду насельніцтву не радзей чым два разы на тыдзень. Аднак гэта толькі рэкамендацыя, на месцах усё вырашаецца шляхам дырэктыўных дакументаў выключна выканкамаў. Таму цэнтральныя ўлады не ў сілах уздзейнічаць на раён у гэтым выпадку. Так што ў далейшым магчыма цалкам верагодна ўзнікненне экстраардынарных сітуацый з забеспячэннем той жа гарачай вадой у глыбінцы. Тут вырашальным будзе тое, які варыянт эканоміі паліўна-энергетычных сродкаў будзе абраны на месцах.

Цэнтралізаваныя пастаўкі (мінімум, які рыхтуецца да пачатку ацяпляльнага сезона Мінжылкамунгасам з далучэннем сродкаў рэспубліканскага бюджэту) сёння вядуцца на ўзроўні мінулага года. Гэта, як лічаць камунальнікі, нармальна. Паводле апошніх даных, нарыхтавана больш як 55 працэнтаў нарматыўнага паказчыка мазуту, 76 — вугалю і 42 — пячнога бытавога паліва. Сярод відаў вызначальным з'яўляецца, безумоўна, мазут — яго пастаўкі ідуць і па лініі «Белнафтахіміі» за кошт дзяржаўнага крэдыту. Да 15 верасня, як абяцала кіраўніцтва канцэрна, усе «дзіркі» будуць закрыты. Вось і нядаўна, напрыклад, буйная партыя мазуту (5 тысяч тон) паступіла для далейшай адгрузкі па раёнах. На колькі хопіць нарматыўнага запасу? У сярэднім па разліках (бярэцца сярэднестатыстычная зімовая тэмпература) нарматыўнага запасу паліва хопіць для работы кацельняў да пачатку 1999 года. Аднак, як сведчыць практыка, увесь час адбываюцца бягучыя пастаўкі. На іх, дарэчы, і спадзяюцца камунальнікі. Але ж гэта праходзіць за кошт сродкаў мясцовых бюджэтаў. Як будуць праходзіць бягучыя пастаўкі сёлета, сказаць цяжка. Па прагнозах камунальнікаў, прынамсі на падставе ўзроўню нарыхтоўкі паліва для ацяпляльнага сезона, халодных батарэй не прадбачыцца.

Што ж датычыцца нарматыўных тэмпературных паказчыкаў пачатку ацяпляльнага сезона, то камунальнікі адстойваюць даўно прынятыя 8°С (такая сярэдняя тэмпература павінна трымацца на працягу пяці дзён, каб уключылі батарэі). Таксама сёлета нязменнай павінна застацца тэмпературная норма кватэр — не ніжэй чым 18°С. Аднак усё ў рэшце рэшт, канешне ж, залежыць ад узроўню забяспечанасці паліўнымі рэсурсамі.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

*ПА СЛЯДАХ НАШЫХ ВЫСТУПЛЕННЯЎ*

# «РЫБАЛОВЫ Ў ПАГОНАХ»

**Пад такім загалоўкам у спецвыпуску «Звязды» і Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя «Экалогія — чалавек» № 2 ад 30 чэрвеня 1998 года быў змешчаны артыкул, у якім гаварылася пра тое, што некаторыя работнікі міліцыі, прызваныя стаяць на варце правапарадку, самі становяцца браканьерамі.**

Як адрэагавала на выступленне газеты міліцэйскае кіраўніцтва? Аб гэтым сведчыць змест ліста, які накіраваў у рэдакцыю намеснік міністра ўнутраных спраў палкоўнік С. Жалняровіч: «Дзякуй за шчырае і праўдзівае асвятленне на старонках газеты «Звязда» складанай і шматграннай дзейнасці органаў унутраных спраў.

У сувязі з няпростай крымінальнай абстаноўкай грамадства праз сродкі масавай інфармацыі справядліва прад'яўляе высокія патрабаванні да праваахоўных органаў, абавязвае нас весці барацьбу са злачыннасцю наступальна, рашуча, бескампрамісна, з выкарыстаннем усёй сілы закона.

Каб пакончыць з ростам злачынстваў, прававым нігілізмам, усёдазволенасцю, карупцыяй, ценявой эканомікай, работнікі ўнутраных спраў, у пераважнай сваёй большасці, дзейнічаюць смела, рашуча, мужна, нярэдка рызыкуючы жыццём пры ахове законных інтарэсаў грамадзян, грамадства і дзяржавы ад злачынных замахаў.

На жаль, у рабоце некаторых супрацоўнікаў міліцыі ёсць і сур'ёзныя недахопы. Пра такі негатыўны факт і ўпамінаецца ў газеце «Звязда» ў артыкуле «Рыбаловы ў пагонах». Ён з разуменнем успрыняты ва ўсіх падраздзяленнях унутраных спраў, процізаконныя дзеянні браканьераў выклікалі абурэнне і пратэст ва ўсіх работнікаў міліцыі, для якіх паняцці абавязку і гонару — не пустыя словы.

У публікацыі ўпамінаюцца супрацоўнікі міліцыі, якія займаліся браканьерствам: інспектар па асобых даручэннях падпалкоўнік міліцыі С. Палішчук, старшы лейтэнант міліцыі Д. Захаранка (месца работы не было ўказана) і ўчастковы інспектар Фрунзенскага РАУС г. Мінска сяржант міліцыі І. Самохін.

Паведамляем, што падпалкоўнік міліцыі С. Палішчук звольнены з органаў унутраных спраў у 1997 годзе на пенсію, старшы лейтэнант міліцыі Д. Захаранка цяпер працуе на пасадзе ўчастковага інспектара міліцыі Мінскага РАУС.

За парушэнне арт. 87 КаАП Рэспублікі Беларусі, што выявілася ў незаконнай лоўлі рыбы на возеры Радомль Крупскага раёна, Д. Захаранка падвергнуты адміністрацыйнаму пакаранню ў выглядзе штрафу. Сяржант міліцыі І. Самохін, які працаваў у той перыяд участковым інспектарам Фрунзенскага РАУС г. Мінска, 23 сакавіка 1997 года за ўчыненае правапарушэнне таксама падвергнуты штрафу. Абодва яны прыцягнуты да дысцыплінарнай адказнасці.

Кіраўніцтвам МУС і надалей будуць прымяняцца самыя жорсткія меры да парушальнікаў закона — незалежна ад таго, хто парушыў закон і якую пасаду ён займае».

# ПАНІКІ НЯМА — ЁСЦЬ ЗАКЛАПОЧАНАСЦЬ

**На мінулым тыдні рэзка выраслі цэны на прадукты харчавання. Найперш у прыватным сектары гандлю.**

Калі ў Мінску ў магазінах цукар адпускаецца па два кілаграмы на рукі па цане 26.800 руб., то ў Баранавічах, як і іншых райцэнтрах Брэстчыны, цукру ў магазінах няма. А камерцыйная цана ў нядзелю была 50 тыс. кг.

Зніклі з прылаўкаў магазінаў рыс і грэчка, а засталіся аўсянка з ячкай. На рынку ж рыс і грэчка каштавалі па 55 тыс. кг.

Салёнае сала «падскочыла» да 170 тыс. за кг, а свежае прадаюць і па 135 тыс. кг. Свіная выразка — 220 тыс./кг, а ў магазінах свініны няма, затое ялавічына на рынку адсутнічае, а ў магазінах прадаецца па 155 тыс. кг.

З макаронай праблем няма.

Але людзі дужа не панікуюць, бо той жа цукар многія паспелі набыць у запас яшчэ вясной.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

*Пасля заканчэння факультэта журналістыкі БДУ Лілія Навіцкая вось ужо дванаццаць гадоў працуе ў аддзеле культуры і навінаў газеты «Гродзенская праўда». «Буду рада, — піша яна ў лісце, — калі маё апавяданне прыйдзецца вам даспадобы».*
*Прыйшлося. Друкуем.*
**Андрэй ФЕДАРЭНКА**






**Выпуск №32 (420)**

**Рубрыку вядзе Мікалай ЧАХОЎСКІ**

# Прынцы кветніка

**Мы павядзём размову пра гладыёлусы. Адзін наш чытач, шукаючы патрэбны сорт, якраз і назваў гэту кветку прынцам. Стройны, горды, маўклівы, урачысты — сапраўды нешта ад арыстакратычнай пароды.**

Цяпер у вас цвітуць гэтыя прыгажуны. Іх стрэлкі-пікі гатовы дастаць неба. Яны чырвоныя, белыя, сінія, жоўтыя, нават чорныя. Каб выспела цыбуліна-заменнік, неабходны даволі працяглы час — пяць-шэсць тыдняў ад зрэзкі. На вялікі жаль, мусім прызнаць, што такіх тэрмінаў прырода нам не адпусціць. Таму зразайце пікі з толькі абазначаным першым (ніжнім) кветкавым «ганцом». У вадзе ды цяпле характво абавязкова распусціцца. Праявіце толькі цярпенне.



Зразаць неабходна так, каб засталіся тры-чатыры лісточкі. Яны будуць акумуліраваць сонечна-светлавую энергію. Зямлю ў радках абавязкова падрыхліць, а яшчэ падкарміць. На вядро вады даць 30 г сернакіслага калію, шклянку попелу і да 50 г суперфасфату. Апошні разводзіць у цёплай вадзе (+35°). Пад кожны корань даць не менш як 0,5 літра. Можна нават адгарнуць зямлю, каб угнаенні паступілі якраз да каранёў. А калі такое вядро з угнаеннямі развесці ўтрая, то можна апрацаваць і па лісцях.

На градцы будуць слабыя расліны. Кветканосы ў іх зняць у першую чаргу. Не дапускаць, каб і «дзеткі» выкінулі кветкавыя стрэлкі. Інакш будзе слабай новая цыбуліна.

Цяпер пра апрацоўку выкапаных раслін. Іх можна мыць у чыстай вадзе, адкладваючы хворыя. Здаровыя змясціць у марганцавакіслы калій. На вядро вады — 15 г. Трымаць 25—30 хвілін. Сцябліну адрэзаць на адлегласці 3-4 см ад цыбуліны, карані адсекчы як мага карацей. Пакласці тонкім слоем пад батарэі ці пад ваннай. Там абавязкова суха і ёсць рух паветра. Тэмпература першага паўмесяца — да 35 градусаў! Звычайна пасля гэтага тэрміну сушкі старая цыбуліна лёгка аддзяляецца ад маладой. Далейшая тэмпература — пакаёвая.

Каб пазбегнуць розных хвароб, можна маладыя цыбуліны прагрэць у вадзе, як праграваем памідоры перад дасляваннем. Вада 50—55 градусаў, не больш, інакш зварым прадукцыю. Тэрмін «парылкі» — 15 ці 25 хвілін. Абавязкова прамыць у халоднай вадзе (да 15 хвілін). Хутка падсушыць і пакласці на захоўванне (3—10 градусаў і 60 працэнтаў вільготнасці). Гэта тэмпература трымаецца ля балкона.

«Дзетак» мыць і сушыць пры больш нізкіх стартавых тэмпературах. Кволыя карані не адразаць. А тэмпература захоўвання тая ж. Гэта дае найлепшы вынік. Ні ў якім разе не выкарыстоўваць цэлафан. Толькі каробкі з-пад абутку.

# Перапіска з чытачамі

***Валерыю КАПЛІЧНАМУ,***
***г. Мінск.***

Найбольш густая поўсць у трусоў бывае ў асенне-зімовы перыяд (лістапад—сакавік). Шкуркі вышэйшай якасцю валодаюць у кастрычніку—снежні. Якраз напярэдадні халадоў закончылася лінька. Калі яна працягваецца, то, вядома ж, і шкурка будзе з хібамі.

Для як мага лепшага адкорму трусоў размяркоўваюць па аднаму. Пры адкорме ў групах вушасцікі не так хутка набіраюць вагу. Ды і шкуркі больш нізкай якасці: у клетках часта ўзнікаюць міні-бойкі. Гаспадар павінен сачыць за выхаванцамі і самых неспакойных, якія звычайна правакуюць «непарадкі», і адсаджваць.

Першы тыдзень ці нават два трусам на адкорме даюць менш сена, а вось колькасць канцэнтратаў (недзе і хлеба) павялічваюць. Самы лепшы вынік прыносяць кукуруза, авёс, ячмень, зернебабовыя сумесі, пшаніца, хлебныя скарынкі. А ў якасці дабавак падыходзіць маркоўнік (восенню яго дастаткова), лісцявыя часткі капусты, жалуды.

Пасля ўжо выхаванцам даецца корм, які вядзе да ўтварэння тлушчу — кукурузнае зерне, авёс, ячмень, вараная і крыху падсоленая бульба ў «саюзе» з канцэнтратамі ці вотруб'ем. Тэрмін — зноў два тыдні.

Нарэшце апошнія 10 дзён скормліваецца максімальная колькасць корму. Трусы ядуць уволю. У клетцы заўсёды ёсць цеплаватая вада.

***Сямёну ПАРФЁНАВУ,***
***г. Мінск.***

Вы заўважылі правільна: чым вышэй вонкавая тэмпература ў асенні перыяд, тым шпарчэй наліваюцца памідоры. Бывае, плады нават трэскаюцца з бакоў, знізу, зверху. Гэта вынік інтэнсіўнай падачы сілкавання. Асабліва тады, калі ніжнія гронкі знятыя.

Вядома, не дрэмле і фітафтора. Яна перш за ўсё паражае маладыя плады і лісточкі. Тыя ж не абаронены прэпаратамі медзі. Прарастанне грыбкоў вельмі хуткае. На трэці дзень ужо маленькая пляма, яшчэ тыдзень — і ўвесь плодзік чорны. Пасля ўжо і хворы памідорчык уяўляе небяспеку для астатніх.

Цяпер пасадкі памідораў аглядаюць як найчасцей. Усе хворыя знімаць і знішчаць (плямы вялікія). Трэснутыя і тыя, якія наліліся дастаткова поўна, знімаць, прапускаць праз ваду (+50°) на працягу дзвюх хвілін і класці на дасляванне. Лепш за ўсё ў сухі торф ці проста на падлогу ў цёплым месцы. Тэмпература ад 18 да 26 градусаў. І як найцямней. Побач з зялёнымі (бурымі) ляжаць некалькі спелых пладоў.

***Галіне ПІСАРЧЫК,***
***Пухавіцкі раён.***

Самае важнае на градцы, дзе ўзышоў і набірае моцы кроп, салата, шпінат, — святло, цяпло і рыхлая зямля. Не пашкодзіць і падкормка каравяком. На вядро вады — два літры гною, настойваць пяць дзён ці тыдзень. Дабавіць мачавіну — лыжку з верхам і попел — дзве лыжкі. Пачакаць гадзіну-другую. Паліваць пад корань. Папярэдне, вядома, радкі падрыхліць.

Калі ідуць дажджы, то тую лыжку мачавіны і дзве лыжкі попелу раскідаць ля радкоў як мага радзей. Іх павінна хапіць на 2—2,5 пагоннага метра. Наступная падкормка (калі спатрэбіцца) толькі праз два тыдні.

***Анастасіі ПАЛЫВАНАВАЙ,***

***ХАТНЯЯ АПТЭКА***

# Лечыць часнок

Прыводзім рэцэпты народных лекараў Сібіры і Урала.

125 г часнаку настойваць два тыдні на гарэлцы вышэйшых гатункаў (0,5 літра). Трымаць 14 дзён у цёмным месцы. Тэмпература — да +30 градусаў! Пасля прапусціць праз фільтр (марля ў дзве столкі). Можна захоўваць да года.

Прымяняецца ў час эпідэміі грыпу, пры катарах, дызентэрыі. 10—15 кропель на 50 грамаў чыстай вады. Прымаць перад ядой.

На 250 г аліўкавага алею ці сала дадаць 10 галовак часнаку, здробненага і расцёртага. Масу добра размяшаць. Уціраць у галаву, калі выпадаюць валасы.

Часнок прымаць пры атэрасклерозе — 1 зубок ці паўзубка перад вячэрай. Лепш за ўсё дзейнічае з кіслым малаком.

Кашка з часнаку дапамагае пры насмарку. Сок і водны настой галовак і лісцяў прымяняць у выглядзе прымочак і для паласкання поласці рота. Водны настой робіцца так. 2-3 зубочкі 1 гадзіну настойваць на кіпні (шклянка). Вядома, добра ўхутаць. Працадзіць. Браць лыжку настою на паўшклянкі чыстай (гатаванай) вады. Рот палошчацца як звычайна.

Эфектыўны сродак ад прастуды і насмарку — амаль ледзяная часночная ванна для ног. 6 галовак часнаку здрабніць (кашка), заліць 10 літрамі вады. Размяшаць. Паставіць на агонь і давесці да кіпення. Зняць з агню і паставіць у холад (у снег, на вуліцу). Чакаць, пакуль не набудзе вонкавай тэмпературы. У лёд не ператвараецца! Настой выліць у вялікую міску і трымаць ногі тры хвіліны. Працэдуру паўтараць штодня, пакуль не знікне хвароба. Ногі пасля ванны выціраць вельмі старанна. Адразу ж класціся ў пасцель, добра ўхутацца.

Сярэдняй велічыні бульбіны памыць, выразаць вочкі. Не абіраць! Нарэзаць кубікамі. Дадаць дзве сталовыя лыжкі льнянога семя, расцёртую ў кашку адну часночную галоўку. Заліць адным літрам вады і гатаваць 20 хвілін. Працадзіць.

Калі працэджаны раствор дасягне тэмпературы 30 градусаў, выкарыстаць у клізме. Клізмы ставіць два разы на дзень пры (што нечакана) пнеўманіі, запаленні лёгкіх.

Адварыць адну галоўку часнаку разам са 100 г бобу. Прымаць гэта лякарства два разы на дзень. Назаўтра гатаваць новую порцыю. Дапамагае пры хваробах лёгкіх, калі яшчэ выдзяляецца і гнойная макрота.

***НА КОНКУРС «ЗВЯЗДЫ» І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ***

**Апавяданне**

**Лілія НАВІЦКАЯ**

# А КАЛІСЬЦІ БЫЛА ВЯСНА...

... Можа, нават лета... Па пясчанай дарозе пыліў маленькі аўтобус. На прыпынках вадзіцель упускаў пасажыраў і, бяручы з каго дзесяць, з каго дваццаць капеек, адрываў ад вялікага кола маленькія ружовыя білецікі.

Яна сядзела, прыгожая, у зялёнай парчовай сукенцы, на галаве захутаны ў сетку шыньён. Седзячы, можна было надзейна схаваць ад цікаўных хворую нагу. А побач з ёю круцілася дзяўчо — трохгадовая бялявая лялечка, вяртлявае чарцянё, яе дакладная маленькая копія.

Пажылая кабета паглядала штораз на абедзвюх і нарэшце не вытрымала:

— Але ж падобная дачушка, кропелькі пабрала.

— Гэта не мая, брата. Але на матку зусім не падобная, уся ў яго, — паспешна дадала яна.

І як не хацелася потым уставаць, накульгваючы, вылазіць з аўтобуса, плячыма адчуваючы цікаўны і спачувальны погляд кабеты.

Напэўна, з-за гэтай нагі ўсё жыццё аказалася не яе. Пражыла, быццам гледзячы збоку. Гадавала аднаго за адным чатырох пляменнікаў. Гушкала ў калысцы, дзьмухала на балячкі, прыціскала да сэрца гарачыя маленькія ручкі. Здавалася, навекі. А яны выраслі і забывалі пяшчотныя словы, што шапталі начамі «другой мамцы», калі бацькі спалі ці балявалі ў гасцях. Цяпер едуць да тых, першых, і то зрэдку. А да яе ў глухамань зазірнуць на гадзіну. Нават не вып'юць, не з'ядуць. пасядуць на кульгавыя крэслы, выкладуць гасцінцы, паслухаюць прычытанні старой бабулі — і знікнуць, пускаючы пыл, па той самай дарозе. Кожны да сваёй маткі — начаваць.

Ёй застаюцца доўгія вечары, скаргі хворай маткі, трывогі і бясконцыя ўспаміны.

... Прахалодны жнівеньскі вечар. У вёсцы — вяселле. Напрацаваўшыся за гаспадыню, напёкшы салодкіх грыбкоў з фарбаванымі кавай галоўкамі і крохкіх цукровых ружаў, ёй хочацца паляжаць. Але бялявае чарцянё, што вырасла ў танканогага прышчастага падросціка, ужо гадзіну круціцца каля люстра. Намазала на павекі зялёнымі ценямі і перацягала з шафы амаль усе пацеркі. І ў палове дванаццатай дзве дзіўныя постаці — даўгавязая цыба і тоўсценькая маленькая цётка шыбуюць на танцы.

А вось прыязджае ў карацюсенькай спаднічцы, уся абвешаная срэбрам, сядае на лаўку у кухні і ўзахлёб расказвае аб ім. Як ён любіць яе, сустракае, праводзіць, дорыць падарункі. Як запрасіў на сваё дваццаціgodзе ў дом да бацькоў.

— Што ты, дарагая? — госця раптам змаўкае на паўслове, са здзіўленнемназіраючы за цёткай. — Плачаш?

Слёзы капаюць, кацяцца па шчоках, яна нязграбна размазвае іх бруднымі пальцамі. А твар гарыць, быццам хто яго паліць жалезам, яшчэ доўга пасля таго, як пляменніца, памахаўшы рукой, знікае за варотамі.

Свайго жаноцкага шчасця было ў яе ўсяго, можа, з тыдзень. Ды і то, якое там шчасце. Знаёмая баба з раёна — ёй штогод прадавалі сліўкі — падсватала суседскага сына-разводніка. Шахцёра з Салігорска. Спаткаліся, пагаварылі. Неблагі, быццам. Кватэра двухпакаёвая ў горадзе. Назаўтра прыехаў у госці — з маткай знаёміцца. А тая выскачыла з вілкамі, залямантавала на ўвесь панадворак:

— Разводнік! П'яніца! Не пушчу!

Так і мусіў паехаць ні з чым.

Назаўтра яна з'ехала да брата, вызвала жаніха з раёна. Але — не склеілася. Ці то смеласці не хапіла пярэчыць матцы, ці сапраўды напалохалі словы пра п'яніцу — так і засталася ў дзеўках. Цяпер ужо і не патрэбны ніхто, нават дажываць.

Бульбу выкапаць ці свінню закалоць — браты прыязджаюць. Добра, што жывуць недалёка. Абабраць вішні памагае малодшы пляменнік. А калі якая драбнейшая работа — кліча суседа. Таксама адзінокі, стары кавалер, ён заўсёды прыходзіць з ахвотай — чуе чарку. За чаркай з кумпяком ды смажанымі яйкамі неяк нават замуж пазваў. А яна толькі пасміхнулася. На шостым дзесятку — навошта?

З суседа ёсць яшчэ адзін пажытак: калі-нікалі на свята ён збірае ўсіх мясцовых інвалідаў, садзіць — папярок усіх забаронаў — у прыцэп старога трактара і праз балота, па палявой дарозе вязе за дзесяць вёрстаў у касцёл. Шчаслівыя пасажыры скідваюцца на пару бутэлек, з-за чаго дабрадзей назаўтра прагульвае працу, а знерваваны старшыня звыкла пагражае адабраць у абібока трактар. З паўгода пасля вывалачкі нямоглыя вяскоўцы і марыць не смеюць аб касцёле. Але набліжаецца Вельканац, і бабулькі ўсё часцей і прыветней падыходзяць да трактарыста. І ў святочны дзень ён зноў, азіраючыся, заводзіць сваё «таксі»...

Была яшчэ радасць — кіно пра Мар'яну, «Багатыя таксама плачуць». Але на самай сярэдзіне сапсаваўся тэлевізар, і давялося даслухваць да канца, гледзячы, як па экране шастаюць шэрыя цені. Наступнае, «Мая другая мама», ужо бабы так хвалілі, не паглядзела зусім. І ўсе астатнія бачыла ўрыўкамі, пасля наездаў мужа пляменніцы, тэлемайстра, які на тыдзень-другі наладжваў «гэтую старую скрыню». Потым экран цямнеў зноў, кажуць, ад сырасці.

А дзе ж іх напасціся, гэтых дроў? Дзе ж нацягаць з такой нямоглай нагой, што пад старасць зусім разбалелася, пайшла ў бок. Хадзіць штомесяц цяжэй, і страшна робіцца думаць, як прыйдзецца дажываць адной, у пустой хаце, сярод напалову пустой вёскі.

Калі зусім становіцца мутарна, выцягвае з шуфляды стос пажоўклых фотаздымкаў з часоў маладосці. На іх не відаць кульгавай нагі — і яна ж такая прывабная, як прыгажуня-сястра. Заплакаць бы — ды сухія, пустыя вочы даўно не плачуць. Перабраўшы здымкі, яна кладзе іх назад у шуфляду і цяжка сунецца да пустога ложка — спаць. І ўжо засынаючы, успамінае: калісьці ж была вясна. Да сястры заходзілі кавалеры. Праз расчыненае акно лілася музыка іх адзінага ў вёсцы патэфона. Узяўшыся пад рукі з братамі і суседзямі, яны крочылі па вясковай вуліцы на танцы. І здавалася, усё неяк зложыцца — не можа не злажыцца. Дзе яно, тое шчасце? Дзе тая зманлівая вясна?..

***ВІНШАВАННІ***

*Віншуем Наталлю Віктараўну ЗЯНЬКО ў дзень 30-годдзя. Каб шчасліва пражыць доўгія гады, не знаючы бяды.*

**Бацькі,** в. Макарычы.

*Віншуем з днём нараджэння Галіну Аляксандраўну ВОЛЧЫК з в. Сялко Жыткавіцкага раёна. Жадаем шчасця, здароўя, поспехаў у вучобе.*

**Сям'я брата Юрыя.**

*Сардэчна віншуем з 55-годдзем любімую жонку Людмілу Канстанцінаўну МІРОНАВУ з г. Мазыра.*

*Желаю, чтоб люди ценили тебя*
*И мы чтоб тобою гордились,*
*Чтоб вся твоя жизнь, как весенний букет,*
*Любовью, здоровьем и счастьем светилась.*

**Муж і дзеці.**

*Ад усёй душы віншуем дарагога брата і сына Анатоля ЛІПНІЦКАГА з г. Мінска з днём нараджэння.*

*Пусть светит солнце тебе всегда*
*И лет до 100 твой век продлится,*
*Пусть в твои двери никогда*
*Болезнь и старость не стучится.*

**Родныя** з в. Камуна Лагойскага раёна.

*Віншуем з днём нараджэння дарагую дачку, жонку, матулю і бабулю Любоў Раманаўну ЗАСКЕВІЧ. Жадаем здароўя, дабрабыту, аптымізму на доўгія гады.*

**Маці, муж, дзеці, унукі,**
в. Свіслач Асіповіцкага раёна.

*Віншуем з днём нараджэння Іосіфа Станіслававіча ЦВІРКО. Жадаем здароўя, шчасця, светлых і радасных дзён.*

**Сябры.**

*Сардэчна віншую з днём нараджэння брата Дзмітрыя Анатольевіча РУСІНА з г. Ляхавічы. Жадаю здароўя, шчасця і добрых поспехаў у вучобе.*

**Жанна** з в. Заполле.

*Сардэчна віншую з днём нараджэння сяброўку Аляксандру ЦЯРЭШКА:*

*Пусть годы твои молодые не знают печали и слёз.*
*Пусть вечно цветет над тобою букет замечательных роз.*

**Таня** з Нясвіжскага раёна, в. Малева.

*Віншуем любага татачку і мужа Мечыслава Іванавіча ЗЕЛЕНЯ з днём нараджэння. Жадаем здароўя, шчасця, сямейнага дабрабыту.*

**Жонка, сыны Дзіма і Павел**
з в. Лаздуны Іўеўскага раёна.

*Шчыра віншуем з днём нараджэння дарагую матулю Веру Аляксандраўну РУСЕЦКУЮ з в. Руднікі*

*Хай будзе век шчаслівы, ад нас усіх паклон.*
*Здароўя табе, мама, блакітных зычым дзён.*

**Дзеці.**

*Віншуем з 30-годдзем Тамару Канстанцінаўну КАЗЫРА з в. Ракевічы. Жадаем здароўя, шчасця, сямейнага дабрабыту, усяго самага найлепшага.*

**Крылова М. І., сям'я Бердыгулавых.**

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: Рэдакцыя газеты «Звязда», вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, 220013, гор. Мінск.*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку», Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 80.436. Індэкс 63850.
Зак. № 5372.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12